ВЫДАНЬНЕ БЕЛАРУСКАГА ЦЭНТРУ Ў ЛІТВЕ.

ПРАФ. Р. ВІППЭР.

# ПАДРУЧНІК НАВЕЙШАЙ ГІСТОРЫІ

З ГІСТАРЫЧНЫМІ ПЛЯНАМІ.

Пераклад К. ДУЖ-ДУШЭЎСКАГА
з 4-га дапоўненага расійскага выданьня.

КОЎНА :: :: :: :: :: 1925 г.

Друкарня Ш. Нэймана, Коўна, Лайсвэс Алея 72.

# ЗЬМЕСТ.

## НАЙНАВЕЙШЫЯ ЧАСЫ.

---

# НАЙНАВЕЙШЫЯ ЧАСЫ

---

## I.

### Прамысловы пераварот у Англіі.

Грамадзкія парадкі, якія стварыліся ў Амэрыцы з самага пачатку, у старой Эўропе маглі ўзьнікнуць толькі пасьля упорчывай барацьбы. Шмат прыслужыўся да іх развіцьця прамысловы пераварот, які даў новыя спосабы работы і стварыў новыя клясы. Найбольш яскрава і насамперш гэты пераварот адбыўся ў Англіі.

### Зямельны пераварот у паўдзенна-ўсходняй Англіі.

У першай палове XVIII ст. большая часьць жыхарства Англіі сядзела ў яе паўдзенных земляробскіх краінах. Усюды перамагала старая трохпольная шнуравая сыстэма; сельскія вырабы ў вялікім ліку зужываліся ў самых гаспадарках, у дварох, засьценках і сялянскіх гаспадарках. На зямлі было многа дробных гаспадароў. Большыя двары дзяліліся на вучасткі і аддаваліся найчасьцей дробным арэндатарам. Для дробных памешчыкаў, селян, а такжа і для парабкаў, якія жылі ва ўласных хатах, вялікай падмогай былі грамадзкія (абшчынныя) землі, г. зн. пусташы ды лясы. Землі гэты належылі супольна да ўсіх суседніх ўласьнікаў. Там можна было браць дровы, пасьвіць жывёлу, загорываць шнуры. Участкі ворнай зямлі, якія належылі да розных ўласьнікаў прыхода, па большай часьці былі аднаго і таго-ж пладазьмену; пасьля жатвы зьнімаліся загародкі, што разьдзялялі шнуры, і ўсё поле служыла агульным выганам.

На весцы-ж выраблялі хатнім спосабам і ўсе патрэбныя для жыцьця рэчы як пражу, сукно, панчохі, боты, маталёвыя прылады і г. д., гэтым займаліся майстры разам са сваімі

семьямі, яны мелі і ўсе прылады для вырабаў. Майстры, тыя-ж сяляне, мелі свае агароды, а нават і кавалак поля. Аднак большасьць вясковых майстроў ня мелі незалежнага становішча. Часта яны не маглі самі закупаць патрэбныя для апрацоўкі сырыя матарьялы, а бралі іх у доўг ад перакупшчыкаў, каторыя пасьля вывозілі з вёскі гатовыя рэчы. Перавоз тавараў на вялікія жнівенскія кірмашы ўнутр Англіі ці ў Лёндан і морскія порты быў вельмі цяжкі: па вузенькіх глінястых дарогах цягнуліся шнурам ўючныя коні, кожды з двумя вялікімі пакункамі на баках.

Гэты старадаўны лад жыцьця быў зьнішчаны тымі самымі клясамі, якія здабылі перавагу і моц с **1688** г. Лорды, зацікаўленыя ў павялічэньні прадажы збожжа і воўны за граніцу, сталі скупаць зямлю, павялічаць пашу і паляпшаць сваю гаспадарку; з другога боку вялікія прамыслоўцы, што разбагацелі ад заморскай таргоўлі, куплялі землі, каб здабыць пашану і ўплыў. Вучоныя, староннікі разумнай (рацыянальнай) гаспадаркі раілі сеяць кармовыя травы, добра угноіваць зямлю, заводзіць пладазьмен, ужываць улепшаныя плугі і г. д.; яны даводзілі, што ніякія паляпшэньні немагчымы, пакуль усіх суседзяў звязуе шнуравая сыстэма, і пакуль множства зямлі прападае дармо у папарах і пусташах. Слухаючы гэтых радаў, вялікія земляўласьнікі абменівалі свае шнуры на іншыя так, каб атрымаліся суцэльныя лугі і ворная зямля, а галоўнае—стараліся ўгаварыць усіх гаспадароў ваколіцы да аканчальнага р а з ь д з е л у г р а м а д з к і х з е м л я ў с тым, каб пасьля а б г а р а д з і ц ь свае акругленыя ўладаньні і ні ад кога не залежыць у сваей гаспадарцы. Разьдзел грамадзкіх земляў і абгародкі былі вельмі некарысны для дробных уласьнікаў, якія трацілі права на запасную зямлю і прымушаны былі заняць нявыгодныя кавалкі і горшую зямлю; ім аставалася прадаваць свае землі і кідаць сельскую гаспадарку.

Разам з селянамі-ўласьнікамі сталі шчазаць у Англіі такжа і дробныя фэрмэры, якія звычайна арэндавалі зямлю тэрмінам на тры пакаленьні; плоцячы невялікую гадовую арэнду. Вялікі земляўласьнік, абгарадзіўшы маёнтак, стараўся лепш выкарыстаць зямлю і браць большую арэнду; ён гнаў дробных фэрмэраў, замяняў іх адным або нямногімі багатымі арандатарамі, якія ўгаварываліся на кароткі час, прынасілі с



сабой вялікія капіталы, паляпшалі гаспадарку і давалі гаспадару вялікія даходы. Часам 4—5 багатых арандатараў бралі ў свае рукі ўвесь прыход, выціснуўшы 30—40 дробных фэрмэраў і стольк̇і-ж дробных гаспадароў.

Урэшце, зьмянілася і становішча работнікаў у вёсцы. Пры разьдзеле грамадзкіх земляў у іх адбіралі шнуры, бо яны ня лічыліся ўласьнікамі, іх хаты руйнавалі а іх саміх высялялі з вёскі. Лорду новага тыпу і яго багатаму арандатару не падыходзілі работнікі ранейшага палажэньня, як людзі лішне незалежныя; ім патрэбны былі найміты, каторыя бы не займалі мейсца ў двары, а зьяўляліся ў патребным ліку толькі на самы гарачы час работы летам.

### Фабрычна-прамысловы пераварот у паўночна-заходняй Англіі.

Часьць быўшых сялян і дробных арандатараў стала сельскімі работнікамі-наймітамі. Другая часьць пайшла ў выселкі і на гарадзкія заработкі. Дзякуючы таму, што вёска стала аддаваць гарадам множства свабодных рабочых рук, узрасла і фабрычная прамысловасьць.

С канца XVII ст. Англія вяла войны, каб выціснуць з Амэрыкі і Азіі сваіх targовых супернікаў. У хуткім часе яна стала галоўным прадаўцом азіяцкіх, кітайскіх і індыйскіх тавараў, асабліва парцаляны (фарфару) і вырабаў з ваты. Кітайская пасуда і абоі, індыйскія размаляваныя паркалі сталі моднымі рэчамі сярод прыдворных і заможных людзей Эўропы Даходы ад прадажы прывозных паркаляў выклікалі ў Англіі і сваю, саўсім новую галіну прамысловасьці, гэта вырабы тканін з ваты.

Старая ваўняная мануфактура была сьцесьнена множствам правілаў: назоршчыкі і кантралёры сачылі за тым, каб нітка была азначанай таўшчыні, а тканіна азначанай шырыні; ня было магчымасьці ўжываць якія колечы новыя спосабы і прылады. Перад новай-жа паркалёвай промысловасьцю гэтых перашкод ня было; тут адкрывалася шырокае поле для новых вынахадак. Вынаходчыкі, па большай часьці самавукі, насамперш імкнуцца знайсьці спосабы хутчэй прасьці. Ткач і цясельнік Харгрыўс у **1765** годзе замяніў пралку ручной ма шынай, пры помачы каторай адзін работнік прыводзіць у рух

некалькі пастаўкоў. Прадпрыемчы Аркрайт, быўшы цырульнік, прытасаваў да машыны Харгрыўса вадзяную сілу і заснаваў першую вялікую фабрыку пражы. На фабрыцы гэтай працавала некалькі сот рабатнікаў. Хутка ў паўночнай Англіі па цячэньню быстрых рэкаў, якія цяклі с Пэннінскіх гораў і мелі шмат вадаспадаў, узнікла множства вялікіх прадзільняў.

Машына выклікала цэлы пераварот у самой арганізацыі працы. Скупшчык, які раней купляў пражу ад паасобных майстроў, стаўся цяпер фабрыкантам і сканцэнтраваў іх работу ў сваей вялікай казарменнай майстэрні; множства дробных майстроў—прадзільнікаў, якія не маглі супернічаць с фабрыкамі, дзе было множства машын, былі прымушаны пакідаць свае хатнія, прымітыўныя майстэрні і пераходзіць у наёмных работнікаў да фабрыкантаў. Але ткачы яшчэ працавалі ў сябе па хатах. Між тым тканіны з ваты пачалі насіць ўсе клясы, паркаль, маміс і г. п. ўсё больш і больш распашыраўся, і зьявілася вялікая патрэба новых паляпшэньняў ў вырабе. Лекар і аграном Картрайт прыдумаў (**1785** г.) мэханічны ткацкі паставок, які прысьпяшаў тканьне матэрыі ў такой жа меры, як раней машына Харгрыўса прысьпяшала пражу нітак. Тады дробныя майстры—ткачы ня маючы магчымасьці купіць сабе паставок, сталі паступаць наймітамі да тых; хто меў вялікія ткацкія машыны.

Пад канец XVIII ст. радам з воднай энергіяй пачалі ужываць новую сілу, паравую. Яшчэ у **1769** годзе вучоны хімік Джэмс Ўатт пабудаваў першую паравую машыну, але яна ня была распашырана таму, што вымагала шмат апалу, а лясы ў Англіі былі ўжо, блізка, зьнішчаны. Шмат апалу патрэбавалася і для кузьняў, бо яны выраблялі многа маталёвых часьцей для прадзільных і ткацкіх машын. Дзеля гэтага разьвіцьцё прамысловасьці было немагчымым без вялікіх зьмен у добычы каменнага вугаля и вырабе маталяў. Багатыя запасы каменнага вугля і жалеза ў Англіі, аб якіх да XVIII ст. мала што ведалі, цяпер пачалі распрацоўваць. Сьпярша ня ўмелі растапляць жалеза ў печах, якія апаліваліся каменным вуглем; але хутка знайшлі спосабы адводзіць яго шкодныя газы. Англійскія фабрыкі жалеза і сталі робяцца першымі ў сьвеце. Асабліва вядома была ў 70—80-х годах XVIII ст. аграмадная фабрыка машын у Сохо каля



Манчэстэра, якой кіраваў капіталіст Боўльтон у суполцы з вучоным Ўаттам.

Як у сельскай гаспадарцы, так і ў прамысловасьці сталі зьяўляцца новыя клясы. Толькі вельмі нямногія майстры старога тыпу змаглі расшырыць свае прадпрыемствы, наняць вялікі лік работнікаў, пабудаваць фабрычныя будынкі. Майстры, што прыдумывалі новыя машыны і спосабы, найчасьцей ня мелі грошы, каб самім ужыць свае выдумкі, а павінны былі прадаваць або ўступаць свой сакрэт. Найлепш меліся людзі с капіталам, быўшыя скупшчыкі або спрытныя спекулянты, што прысвоілі сабе чўжыя праекты, прыкладам Аркрайт. З другога боку была вялікая, шэрая, аднародная маса наёмных работнікаў. Сьпярша аграрны пераварот, разьдзел грамадзкіх земляў выгнаў множства дробных майстроў з вёскі; пасьля машыны прымусілі іх пакінуць павольную працу ў хаце і перайсці на фабрыкі.

**Новая прамысловая Англія.**

Разрост англійскай прамысловасьці, якая працавала ня толькі на ўнутраны рынак, але і на збыт за межы Англіі, запатрабаваў саўсім новых дарог і спосабаў перавозкі. С сярэдзіны XVIII ст. выбоістыя дарогі пачынаюць замяняць шасэйнымі. Яшчэ важней былі цэлыя сыстэмы каналаў, праведзеныя па ўсей Англіі, прычым былі выкарыстаны добрыя, нядоўгія але глыбокія і мнагаводныя англійскія рэкі. Першы вялікі канал быў праведзены паміж Манчэстэрам і Лівэрпулем, купцы каторага былі зацікаўлены ў злучэньні галоўнага порта, праз які ўвозілі вату, з асяродкам ватнай прамысловасьці. Дзякуючы такой сыстэме каналаў і каналізаваных рэкаў былі злучаны з асяродкам краю ўсе важнейшыя выхады Англіі ў мора: Лёндан, Гулль, Лівэрпуль, Брыстоль.

Аграрны і прамысловы пераварот ў Англіі пачаліся каля сярэдзіны XVIII ст. і асабліва хутка адбыліся ў канцы XVIII ст. і пачатку XIX ст. Між тым як раней значна пераважала сельскае жыхарства, ў выніку пераварота пачало ўзрастаць жыхарства гарадоў, і ў XIX ст. апошняе атрымала значную перавагу. Разам с тым вызначыўся новы край Англіі, да тэй пары бедны і малалюдны, жыхарства як-бы перасунулася с пауднёва-ўсходу на паўночны заход. Новая фабрычная

прамысловасьць узьнікла і развілася недалёка ад „ватнага“ порта Ліверпуля, каля каменнавугольных капальняў, празваных „Чорнай Індыяй“. Большая часьць новых „ватных“ горадоў (Манчэстэр і яго ваколіцы) прышлося на Ланкашыр, які да XVII ст. быў бязлюдным мейсцам пакрытым лесам і балотам. Жыхарства Ланкашыра ў працягу 80 гадоў узрасло ў 10 разоў. Да „ватнага“ району падыходзяць у суседнім графстве іншыя прамысловыя асяродкі, так, асяродак жалезных вырабаў—Бірмінгам, ваўнянай прамысловасьці—Лідс і інш. Фабрычным




Рыс. 1. Прамысловы пераварат у Англіі. I.—Ваколіцы, дзе развілася фабрычная прпмысловасьць. II.—Мяйсцовасьці, якія дабываюць каменны вугаль.

краем стала такжа і паўдзённая нізінная Шатландзія каля двох гарадоў Глазго і Эдынбурга, і паўдзённы Ўэльс, як першы, так і другі знаходзяцца ў мяйсцовасьці багатай каменным вуглем.

### Ідэі свабоднага абмену.

Пераварот адбываўся надзвычайна хутка; на вачах усіх расло багацьце краю і павялічалася яго таргоўля. Страта



паўночна-амэрыканскіх выселкаў ў 70-х гадах XVIII ст. не прынясло Англіі шкоды; яе таргоўля з Новым сьветам прадаўжалася, і ў меру таго, як расло жыхарства Амэрыкі, яшчэ павялічалася. У той час як Англія траціла выселкі, геній яе вучоных і энэргія фабрыкантаў стварылі ў самым краю Новую Амерыку.

Здавалася, што ў паяўленьні фабрык з машынамі, ў будове каналаў і дарог, у дабычы каменнага вугля і жалеза дзяржава ня прымае ніякага ўдзелу: ўсё гэта было справай прадпрыемніцтва, спрыту і дагадлівасьці, рызыкі і ахвяраў прыватных асоб і суполак. Стварэньне багацьцяў зьяўляецца як-бы справай самой прыроды, якая працавала ў тысячах і міліёнах чалавецкіх істотаў; гэтай працы трэба даць найбольшы прастор; найлепшы пераможца—свабоднае суперніцтва людзей. Гэты думкі заложаны ў аснову кнігі глэзгаўскага прафэсара Адама Сімта „Аб багацьці народаў“, якая вышла друкам у год абвешчаньня незалежнасьці Амэрыкі **(1776)**. Увесь земны клуб здаецца Сміту вялізнай майстэрняй з завілым распадзелам працы і з абменам, які істнуе ўсюды. Вытворчасьць, абмен і распадзел багацьцяў мае свае законы, каторыя падобны да законаў прыроды. Разглядаючы іх, Адам Сміт закладае асновы новай навукі—палітычнай эканоміі. Адзін з найважнейшых законаў ёсьць той, што цана ўсякай рэчы, а такжа ўсякай працы азначаецца патрэбай і пасулам (спрос и предложеніе), г. зн. залежыць ад ступені патрэбы даннай рэчы або ў працы даннага чалавека і ад ліку патрэбных тавараў або людзей, што суляць сваю працу. Найлепш даць людзям поўную свабоду шукаць прытасаваньня сваіх здольнасьцяў і сіл там, дзе яны, па варунках прадажы і куплі, знайдуць сабе найбольшую карысьць. Усё, што шкодзіць свабоднаму суперніцтву, заслуговуе поўнага засуду: усякія астаткі сярэднявечных сьцясьненьняў і прывілеяў, паншчыны, права першародзтва на зямлю, цэхавыя парадкі, каторыя азначалі лік занятых у майстэрстве асоб, і г. д.—ўсё гэта павінна шчэзнуць.

Высказаныя першы раз ў яснай форме Смітам, гэты думкі атрымалі ў Англіі агульны назоў фрытрыд (Free trade—свабодны абмен). Яны былі проціўлеглымі пратэкцыянізму (апека), г. зн. сыстэме апекі і рэгуляваньня пра-

мысловасьці. Апошняя сыстэма мела мейсца ў часы мэркантылізма і праводзілася ў жыцьцё нават паліцэйскімі мерамі.

### Таргова палітыка Пітта Малодшага.

Панаваньне парляманта было справай некалькіх фаміліяў арыстакратычных вігаў, якія трымалі ў сваіх руках ўладу ў працягу 50 гадоў с **1714** г. і прымушалі прышлых каралёў выбіраць міністраў са свайго ліку. Трэці кароль з гановэрскай фаміліі Юры III **(1760 – 1820)** адчуваў сябе ў Англіі мацней тым больш, што варожая дынастыя Сьцюартаў вымерла. Кароль рабіў спробы складаць кабінэты па ўласнаму выбару, ня толькі „царстваваць“, але і „кіраваць“; ён шукаў зблiжэньня са старой манархічнай партыяй торыяў, якія доўгі час былі адсунуты ад улады дзеля прыхільнасьці сваей да быўшай дынастыі Сьцюартаў, а цяпер саўсім згодзіліся з новай. Але ў караля саўсім ня было ясных палітычных мэтаў у палітыцы; ён стварэў прыхільную сабе групу ў парляманце тымі-ж спосабамі, якія ў свой час ужываў Уольполь, г. зн. раздачай сінекур *) і пэнсіяў. Усе спробы Юрыя III складаць міністэрствы „каралеўскіх прыяцеляў“ канчаліся няўдачна. Адно з гэтых міністэрстваў нажыло вайну з выселкамі і было вінавайцам аддзяленьня Амэрыкі.

У **1783** годзе кароль паставіў на чале кіравецтва сына Чатама, 24 летняга Ўільяма Пітта (Малодшага). Ён ня маючы ў парляманце большасьці, распусьціў яго і зьвярнуўся да волі краю. Новыя выбары далі Пітту аграмадную большасьць; з гэтага часу ён трымаў ўладу безперарыўна 17 гадоў **(1784—1801)**. У Англіі ўжо не падымалася пытаньне аб каралеўскім быццам зьнепартыйным кіравецтве. К а н с т ы т у ц ы й н а я манархія аканчальна перайшла да п а р л я м а н ц к а й формы, г. зн. да такой, дзе выканаўчая ўлада, кабінэт міністраў, залежыць ад пераважаючай ў парляманце партыі. Пітт належыў да старой вігскай фаміліі і ў пачатку свайго міністэрства пасуліў адмяніць правы гнілых мястэчак. Але дзеля парляманцкай большасьці, якая складалася с торыяў— земляўласьнікаў, ён адмовіўся ад рэформы.

*) Сінекура—пасада, якая дае вялікі даход і ня вымагае працы.



У зьнешніх справах Пітт, вялікі прыхільнік Адама Сміта, энэргічна абараняў інтарэсы англійскай прамысловасьці і таргоўлі. Прамысловы пераварот даў англійскай прамысловасьці аграмадную перавагу над рэштай Эўропы, дзе працавалі старымі спосабамі. Пітт упорчыва стараўся аткрыць прастор новай сіле, якую стварыў англійскі капітал. У **1786** г., ня гледзячы на нядаўную вайну с Францiяй, Пітт падпісаў з ёй таргові дагавор і забаспечыў продаж англійскіх вырабаў. Але палажэньне зьмянілася с часаў рэвалюцыі **1789** г., калі французская прамысловая буржуазія вышла с пад апекі ўраду і захапіла ўладу ў свае рукі. Хутка Францыя адваявала ад слабой Аўстрыі Бэльгію, якая служыла як-бы мастом для англійскага вывазу ў Эўропу.

Пад уражаньнем гэтых удачаў суперніка Англіі, Пітт з праціўніка вайны, робіцца яе староньнікам. У пачатку **1793** г., пад відам помсты за забойства французскага караля, Пітт абвесьціў вайну французскай рэспубліцы і далучыўся да саюзу (коаліціі) эўропэйскіх дзяржаваў. Мэта гэтай вайны, якая цягнулася з невялікімі перарывамі 22 гады **(1793 — 1815**; Пітт памёр ў **1806** годзе) была ў тым, каб зьнішчыць суперніцтва французскай прамысловасьці і таргоўлі і захаваць для Англіі рынкі ў адсталай сярэдняй Эўропе. Дзеля гэтай мэты Англія не шкадавала вялікіх грошы, якія яна плаціла Аўстрыі і Прусіі на узброеньне проціў рэвалюцыйнай і наполеонскай Францыі. Такім чынам барацьба, пачатая Піттам была прадоўжаньнем тых камэрцыйных войнаў, каторыя адбываліся ў працягу ўсяго XVIII ст. для забаспечаньня англійскай перавагі на моры.

---

## II.

## Вялікая Французская рэвалюцыя.

### Французская буржуазія перад рэвалюцыяй.

Зацікаўленасьць Амэрыкай, якая захапіла французскае грамадзянства, паказывала, што ў ім адбываецца вялікая пе-

рамена: яно само набралося дэмакратычных ідэяў. Буржуазія, кляса заможная, асьвечаная, энэргічная, стала вымагаць для сябе ўчасьніцтва ў палітычным жыцьці. Буйныя і дробныя майстры і прадпрыемцы ў таргоўлі і прамысловасьці, а такжа людзі „свабодных“ прафэсіяў, вучоныя, тэхнікі, лекары, адвакаты лічылі прывілейных, найчасьцей вялікіх землеўласьнікаў, „гультайскімі і бязплоднымі“ клясамі і адмяжоўваліся ад іх. Праўда, каралеўскі ўрад прыцягаў буржуазію да спраў: збор падаткаў знаходзіўся ў руках адкупшчыкаў з яе ліку, і гэта былі найбагацейшыя людзі ў краю; інтэндантаў такжа ахвотна назначалі з не-шляхты. Ўрад ані кроку ня мог ступіць без грашовага падтрыманьня буржуазіі. Яго казна даўно ўжо трымалася не на паступлевьні падаткаў, а на беспераыўна ўзрастаючых пазычках, якія ён дабываў прадажай працэнтных папераў: паперы („рэнта“) купляла пераважна буржуазія і асабліва парыская; гэта быў спосаб памяшчэньня ашчаднасьцяў.

Але буржуазія была нездаволена гаспадаркай ўраду. У грашах ня было парадку: множства грошы трацілася на пышнасьць двара, на безканечныя падарункі і пэнсіі шляхце, якая складала почат караля і запаўняла непатрэбныя пасады; стала выплывалі недахваты, спыняліся вялікія будовы.

Між тым за некалькі дзесяткаў гадоў француская буржуазія надзвычайна разбагацела і ўсілілася. Гэта асабліва было відаць на вялікіх прыморскіх гарадах, Марсэлю, Бордо, Нанце, вялікіх прамысловых пунктах, як Ліон, і на самой сталіцы, Парыжу, які зьяўляўся аграмадным асяродкам спажыўцоў. Марсэль веў бойкія зносіны па ўсім Сяродземным мору і асабліва з Усходам, Канстантынопалям, Малой Азіяй, Сырыяй, Эгіптам. Заходныя порты Францііі, Нант і Бордо, вывозілі францускія фабрыкаты, мануфактуру і віно на вэстындзкія астравы і прывозілі каланіяльныя прадукты, рыж, цукер, табаку, фарбы; вялікую карысьць прыносіла таргоўля нэграмі, множства якіх перавазілі ў галоўную францускую калёнію С.-Домінго (востр. Гаіці). Асвабаджэньне амэрыканскіх штатаў ад Англіі, абяцала нязвычайнае ўсіленьне францускай таргоўлі, якая атрымала доступ да новага рынку, Злучаных Штатаў. Францускія прамыслоўцы выказвалі такжа зацікаўленасьць да мастацтва і навукі; ўнівэрсытэты былі запоўнены моладзьдзю з буржуазіі.



С 60-х гадоў XVII ст. вызначаюцца ў Францыі вучоныя і пісьменьнікі, якія зьяўляюцца блізкімі да ідэяў Адама Сміта. Купэц Гурнэ, лекар Людвіга XV Кэнэ, будучы міністр Людвіга XVI Тюрго ўсякімі спосабамі развівалі навуку аб тым, што абавязкова трэба даць свабоду і прастор чыннасьці прыродных сілаў (згэтуль іх тэорыю сталі называць — ф і з і о к р а ц і я, што знача „панаваньне прыроды“). У ліку тых сьцясьненьняў, якія ляжалі на працы і прамысловасьці, буржуазныя пісьменьнікі найбольш зьвяртаюць увагу на цяжар ф э а д а л і з м у, г. зн. на тыя павіннасьці, што нёс селянін. Яны вымагаюць поўнай адмены гэтых павіннасьцяў, поўнага асвабаджэньня зямлі і асобы земляроба. У літаратуры гаварылі аб інтарэсах усяго т р э ц ь ц я г а с т а н у (tiers état), разумеючы пад гэтым словам усіх няпрывілейных людзей як адно цэлае, хаця па праўдзе трэці стан распадаўся на некалькі клясаў, якія вельмі рожніліся паміж сабой як асьветай, так і матэрыяльна.

**Няўдача умяркаванай рэформы.**

Сярод узрастаючага нездаволеньня буржуазіі прайшлі першых 15 гадоў кіравецтва Людвіга XVI (с **1774**). Гэты добры і вялы чалавек, катораму дастаўся небяспечны спадак абсалютнай манархіі, ня быў праціўнікам рэформаў; але ўсе добрыя спробы яго разбіваліся аб спраціўленьне двара, каралевы і каралеўскіх братоў. Апошнія мелі на яго вельмі дрэнны ўплыў. Пры ўступе на пасад Людвіг XVI ўзнавіў адмененыя яго папярэднікамі парляманты і вярнуў папярэдніх судзьдзяў. Галоўным кантралёрам ён назначыў Тюрго які выказаў у бытнасьць сваю інтэндантам ваколіцы Лімузэн чалавечнасьць і энэргічную апеку над жыхарствам.

Тюрго задумаў шырокія рэформы, ня зьмяняючы аднак агульна палітычнага стану дзяржавы. Улада караля павінна была астацца неабмежанай. Зьмены павінны былі быць зроблены толькі ў грамадзкім ладзе, г. зн. ў правох і палажэньні клясаў, і ў кіравецтве. Тюрго адмяніў цэхі, якія сьцясьнялі свабоду прамыслоўцаў, скасаваў мытныя межы, што разгароджвалі паасобныя францускія ваколіцы, быццам варожыя гаспадарствы і абвесьціў свабодную таргоўлю хлебам па ўсей Францыі; раней жа таргоўля хлебам была сьцесьнена рожнымі

правіламі. Ен адмяніў также дзяржаўную паншчыну сялян. Далей, каб развіць самадзеяльнасьць грамадзянства, Тюрго суліў зарганізаваць дарадчыя сходы (муніціпалітэты) із земляўласьнікаў і дамаўласьнікаў, пачынаючы ад самых дробных прыходзкіх (парафіяльных) радаў, гарадзкіх, акружных і канчаючы ваколічнымі (правінцыяльнымі) радамі: над усімі імі павінна было быць нацыянальнае дарадчае сабраньне; мяйсцовыя сходы меліся кіраваць распадзелам падаткаў, грамадзкімі работамі, апекай над беднымі; агульныя сходы разам з міністрамі мелі распадзяляць падаткі паміж ваколіцамі і разглядаць галоўныя расходы ўнутры гаспадарства. Усе сабраньні павінны былі мець права падаваць каралю просьбы.

Праекты Тюрго ня былі праведзены ў жыцьцё. Проціў яго інтрыгавалі прыдворныя, бо ён вымагаў скарочаньня бескарысных затратаў грошы. Тюрго пасьля няпоўных двох гадоў кіраваньня атрымаў адстаўку (**1776**), і нат рэформы, якія ён здолеў правесьці, былі адменены. Горш таго, двор усіліў рэакцію: ўсім, не шляхоцкага паходжаньня, закрылі доступ да афіцэрскіх чыноў у арміі, да большых царкоўных пасадаў і да парлямантаў. Аднак, і с прывілейнымі клясамі ўрад ня мог ужыцца: ўзноўленыя парляманты спраціўляліся ўсякім зьменам у палажэньні сялян і ў распадзеле падаткаў; яны былі зноў разагнаны, як і пры Людвігу XV. Але цяпер ужо ўся маса грамадзянства была на старане разагнаных, ня гледзячы на тое, што яны самі стаялі за адсталыя парадкі.

### Скліканьне гэнэральных штатаў.

Між тым палажэньне ўраду пагоршылася і ў іншых справах. Да старых даўгоў дадаліся яшчэ вялізныя затраты, зробленыя ў амэрыканкай вайне. Наступнік Тюрго ў кіравецтве фінансамі, быўшы жэнэўскі банкір Нэккер, шукаў папулярнасьці ў буржуазіі, і, каб пазнаёміць яе с палажэньнем дзяржаўнай гаспадаркі, апублікаваў першы раз у Франціі бюджэт. Для ўсіх стала ясна тое, аб чым да тэй пары толькі дагадваліся: аграмадны дэфіцыт, які, пры істнуючых падатках, нельга было паправіць. Кароль даў Нэккеру адстаўку за несваечаснае адкрыцьце тайны, але і яго наступнікі павінны былі шукаць спосабы проціў пагарджаючага фінансавага развалу, і зьвярталіся за падтрыманьнем да грамадзянства.



Каралю прышлося зьмяніць аднаго за другім некалькі міністраў фінансаў. Адзін з іх, Калонн, які хацеў саўсім дагаджаць двару ў яго тратах грошы, з роспачу зьвярнуў увагу Людвіга XVI на тое, што абавязкова трэба зьвярнуцца да грамадзянства і запрасіць нотаблей. Апошнія ня скліkaліся ўжо с часаў Рышэльё. Нотаблі, г. зн. прадстаўнікі ад станаў, хаця і былі назначаны каралём, усё-ж такі вельмі скрытыкавалі кіравецтва. На гэтым сходзе Маркіз Лафайет першы стаў вымагаць сазваньня гэнэральных штатаў, аб якіх абсалютная манархія саўсім забылася і не склікала с **1614** г. Хутка гэта вымога склікаць штаты стала ўсеагульнай. Яе выразіў перад разгонам і парыскі парлямант, а асабліва упорчыва вымагалі мяйсцовыя штаты ваколіцы Дофінэ, каторыя сабраліся, пасьля 150 летняга перарыву, самавольна без дазволу караля. У Дофінэ, ваколіцы, дзе была вялікая прамысловасьць, прайшла яшчэ адна значная зьмена. Трэці стан стаў вымагаць сабе ў штатах падвойнага ліку галасоў, каб зраўняцца са шляхтай і духавенствам разам узятым.

Людвіг XVI абяцаўся склікаць гэнэральныя штаты праз пяць гадоў; але тэрмін прышлося скараціць, і, зноў назначаны міністрам Нэккэр, склікаў іх вясной **1789** г. Граф Мірабо, які выступіў прыхільнікам ідэяў роўнасьці і свабоды, дзеля гэтага пісаў: „Нація ў адзін дзень зрабіла крок роўны цэламу стагодзьдзю“. Па яго думцы, цяпер трэба было-бы каралеўскай ўладзе злучыцца з народам проціў прывілейных; наступіў час стварэньня дэмократычнай манархіі.

Аднак, ўрад ня меў ніякіх азначаных плянаў. Ён даў свабоду выбараў, да якіх дапусьціў усіх французаў, хто толькі плаціў падатак і меў 25 гадоў. Выбары адбываліся па станах, але трэцьцяму стану дадзен быў падвойны лік галасоў (600, рэшты двом па 300). Але, пытаньне аб тым, як будзе адбывацца галасаваньне на паседжаньнях штатаў вырашана ня было. Калі-б галасавалі „па станах“, то удвоеньне ліку трэцяга стану, ня мела сэнсу. Саўсім няясным было також, што будзе пасулена сабраньню вырашаць: ці толькі пытаньне аб фінансах, якое найбольш цікавіла ўрад, ці і іншыя справы?

Грамадзянства-ж, наадварот, мела саўсім азначаныя і думкі і пагляды. На выбарах у Правансе Мірабо, адкінуты шляхтай, зьявіўся як „народны трыбун“ і кандыдат трэцьцяга стану. Газэты ў той час былі мала распашыраны і ролю іх замянялі брашуры, ў каторых аўторы высказвалі палітычныя праграмы. Найбольш папулярнай была кніжка дэмакратычнага аббата (духоўніка) Сіэса, сэнс якой выражаны быў ў трох пытаньнях і трох адпаведзях: „Што такое трэці стан?— Усё. Чым ён быў да гэтай пары?—Нічым. Чым ён хоча быць?—Чым-колечы“. Апошняя адпаведзь была павялічана -скромная; ў той-жа брашуры гаварылася, што трэці стан — увесь народ, 96 процэнтаў ўсей нацыі; яго інтэрэсы павінны пакрыць усе іншыя. У некалькіх брашурах справа йшла аб палажэньні простага народу, сялян і гарадзкіх рабочых, і гэта маса першы раз была названа чацьвёртым станам. Аднак, самі сяляне, так-жа як і гарадзкія работнікі, не прайшлі ў дэпутаты. Дэпутаты прывязьлі дадзеныя ім выбаршчыкамі наказы, г. зн. падробязныя выклады іх дамаганьняў і пажаданьняў. У многіх наказах ставіліся вымогі канстытуціі, г. зн. абмежаньня абсалютнай манархіі, але кожды стан разумеў такое абмежаньне ў сваю карысьць; у наказах трэцьцяга стану ўспаміналася аб адмене фэадальных павіннасьцяў г. зн. цяжараў, якія ляжалі на сялянстве.

### Нацыянальнае сабраньне.

5 траўня (мая) **1789** г., сярод найболяшага напружаньня ўсей Франціі, зышліся ў Вэрсалю дэпутаты і выслухалі няясныя прамовы караля і яго міністраў. Сабраньне было пакінута сабе самому. Станы, як і даўней, разышліся па асобных залях для разрозьненых нарадаў. Але трэці стан, лічучы сябе запраўдным прадстаўнікам ўсей нацыі, запрасіў два іншых далучыцца да яго. Некалькі тыдняў прайшло ў спрэчках і перагаворах у гэтай справе, пакуль, урэшце, Сіэс не пасуліў „перарэзаць канат“ і даць апошні тэрмін рэшце станам. Большасьць шляхты і духавенства парашыла перайсьці ў паседжаньне трэцьцяга стану, і злучанае сабраньне абвесьціла сябе нацыянальным.

Двор прыняў гэту неспадзяваную для яго пастанову за адкрытае непаслухмянства і спрабаваў ужыць старых спосабаў, якія калісьці ўжываліся проціў непаслушных гэнэральных штатаў і парлямантаў; залю паседжаньня зачынілі на замок, але сабраўшыяся ў вэрсальскім парку дэпутаты увайшлі ў прыпадкова адчынены гімнастычны павільён і тутака, стоючы, бо ня былб дзе сесьці, прынялі ўрочыстую клятву зьбірацца безперарыўна, дзе-б ні было, і не разыходзіцца да тэй пары, пакуль ня будзе апрацавана француская канстытуція. Крыху пазьней сабраньне пастанавіла прыняць назоў устаноўчага. Людвіг XVI між тым назначыў „каралеўскае паседжаньне“, каб асабістым паяўленьнем зрабіць уплыў на непаслушных. Але і гэта не памагло: дэпутаты трэцьцяга стану моўчкі асталіся на сваіх мейсцах, а калі цэрэмоніймэйстэр, з выхадам караля паўтарыў загад разыйсьціся, Мірабо сказаў, што дэпутаты сабраліся па волі народа і іх можна разагнаць толькі вайсковай сілай.



Двор пастанавіў ужыць гэты апошні спосаб. Кароль даў адстаўку Нэккэру і загадаў сьцягнуць к Парыжу войска, якое ў большай сваей часьці складалася с чужаземцаў. У агромністым горадзе было множства безработных, пасьля жорсткай зімы пагарджаў голад; заможныя людзі, асабліва ўласьнікі дзяржаўных папераў, былі ўстрывожаны тым, што пасьля разгону Нацыянальнага сходу ўрад абвесьціць банкрот. Масы народу сабраліся ў садзе Пале-Раяля, палаца папулярных Арлеанскіх прынцаў, і тутака, перад аграмаднымі сходкамі, выступілі прамоўцы. У будынку сярэднявечнай гарадзкой думы сабралося некалькі сот гараджан, каторыя выбралі новае кіравецтва, прыняўшае старадаўны горды назоў „Камуны“. Новая дума пастанавіла стварыць з гараджанаў міліцыю для абароны горада ад каралеўскіх войскаў. Праз два дні, 14 ліпеня, аграмадная таўпа захапіла арсэнал, узброілася стрэльбамі і гарматамі і ўзяла прыступам турму Бастылію, ў якой народ бачыў сымболь усей прошлай эпохі, эпохі гвалту.

Кароль паддаўся ўсяму, што сталася, аканчальна прызнаў нацыянальнае сабраньне і нат прыехаў ў Парыж; тутка ён затвердзіў гарадзкім галавой дэпутата Бальві, а начальнікам нацыянальнай гвардзіі (міліціі з гараджанаў) Лафайета і ў знак аб'яднаньня з народам прыняў новую трохкаляровую какарду (чырвоны і сіні — колер Парыжа, белы — каралеўскай дынастыі). Але некаторыя каралеўскія

прынцы і прыдворныя не хацелі пагадзіцца з новымі парадкамі і выехалі за межы Францыі. Так пачалася эмігра́цыя. Між тым дзень 14-га ліпеня атазваўся па ўсей Францыі; ў некаторых гарадах, прыкладам, у Бордо, народ такжа ўзяў каралеўскія крэпасьці, але, галоўным чынам, паўсталі сяляне: яны адмовіліля аддаваць прызначаную звычаем часьць жніва і „дзесяціну“, ўрываліся ў сялібы сеньёраў, знаходзілі і нішчылі граматы, ў якіх гаварылася аб сялянскіх павіннасьцях, палілі замкі і палацы, а часта забівалі і самых сеньёраў. Тоўпы галодных астанаўлівалі і забіралі сабе транспарты хлеба.

Гэты падзеі зьвярнулі ўвагу і Нацыянальнага сабраньня, якое складалася з вышэйшых клясаў і гараджан. У ночным паседжаньні 4 жніўня гэрцаг де Ноайль і іншая тытулаваная шляхта наперабой сталі суліць скасаваньня фэадальных праваў. Аднак, бяз выкупу сеньёры адказваліся толькі ад некаторых сялянскіх павіннасьцяў, якія яны называлі асабістымі, г. зн. ад паншчыны, платы сеньёрам за суд, за млыны і г. д. Рэшта-ж, самыя важныя і даходныя фэадальныя павіннасьці яны называлі рэальнымі, г. зн. лічылі платай сялян за зямлю, каторая калісьці быццам уся належала да сеньёраў, і вымагалі за гэту зямлю вялікага выкупу. Дэпутаты буржуазіі згаджаліся з гэтай тэорыяй, вельмі карыснай для шляхты. Сабраньне адмяніла бяз выкупу павіннасьці асабістыя і даручыла асобнаму Фэадальнаму камітэту апрацаваць варункі для выкупу рэальных павіннасьцяў.

Лічучы, што для заспакоеньня сялянства зроблена даволі, сабраньне зноў вярнулася да разгляду канстытуціі. Але ў Парыжы закалоты ня спыняліся, асабліва калі кароль зноў стаў гуртаваць войскі ўкруг сталіцы. У восені голад і беспрацоцьце выклікалі вялікае напружаньне сярод парыскага простага народу. 5 кастрычніка многатысячная таўпа, сярод якой было шмат кабет, скіравалася са сталіцы ў Вэрсаль, каб забраць с сабой і „хлебапёка“, як называлі караля. Лафайет з нацыянальнай гвардзіяй, складзенай з багатай буржуазіі, пайшоў за таўпой, але і ён мог толькі параіць каралю паддацца і пераехаць у Парыж, перавёўшы туды і Нацыянальнае сабраньне.

У Парыжы стварыліся палітычныя таварыствы для аб’еднаньня людзей з аднолькавымі паглядамі: арганізатарамі і галоўнымі дзеячамі гэтых „клубаў“ былі дэпутаты, якія тута сустрачаліся са сваімі аднадумцамі ня ўходзячымі ў склад сабраньня. Найбольшую вагу меў клуб „Прыяцяляў канстытуціі“. Ён памяшчаўся ў доме скасаванага якубінскага манастыра, і дзеля гэтага клуб сталі называць якубінскім, а сяброў якубінцамі. Парыскі клуб якубінцаў заснаваў некалькі сот аддзелаў па ўсей Францыі.

У Устаноўчым сабраньні на скрайнай правай старане селі прыхільнікі прывілеяў вышэйшых станаў, між імі шмат было шляхты, якая перад рэвалюцыяй шумела проціў злачынстваў манархіі, а цяпер, калі пачалася перавага трэцьцяга стану, яны кінуліся ратаваць каралеўскую ўладу; на скрайнай левай старане занялі мейсцы дэмакраты, якія падзялялі думкі Руссо аб народнай уладзе, паміж імі малады правінцыяльны адвакат Робэспьер.

Галоўную масу склалі ў цэнтры канстытуцыяналісты, якія ў свой чарод дзяліліся на ўмяркаваных і больш рашучых. Апошнія з Барнавам на чале, дамагаліся больш за ўсё абмежаньня каралеўскай улады, лічучы яе найбольшай перашкодай для свабоды. Паміж умяркаванымі вызначаўся Мірабо. На выбарах і ў першыя месяцы працы гэнэральных штатаў ён выступаў з самай рашучай крытыкай вышэйшых клясаў і двара. Але калі быў разбураны стары грамадзкі лад, Мірабо зьмяніў свае пагляды і стаў зьвяртаць увагу на небяспечнасьць народных рухаў; ён хацеў умацаваць манархію на новых асновах роўнасьці і нацыянальнага прадстаўніцтва. Беспарадачны ў сваіх грашовых справах ён стаў браць запамогі ад двара, за што абяцаўся даваць каралю рады. Пры двары, аднак, ня лішне верылі Мірабо і яго радоў ня слухалі, а ў грамадзянстве і ў сабраньні склаўся пагляд аб зрадзе самага здольнага дзеяча рэвалюціі.

### Царкоўная і сялянская рэформы.

Сабраньне пачало апрацоўку канстытуціі з дэклярацыі правоў чалавека і грамадзяніна. У першым пункце дэклярацыі гаварылася: „Людзі родзяцца і астаюцца вольнымі і роўнымі ў правох. Грамадзянская рожніца можа быць аснавана толькі на агульнай карысьці“.

Выходзячы з гэтай думкі, сабраньне зьнішчыла ўсе прывілеі станаў і тытулы, ў справах падатковых прыраўняла

шляхту і духавенства да трэцьцяга стану і г. д. Аснаўным правам была прызнана веразносьлівасьць і адменены ўсе сьцясьненьні пратэстантаў і жыдоў. Была ўведзена свабода друку і касавалася цэнзура. Суд быў пературованы на асновах роўнасьці; ён стаў даступным для ўсіх і безплатным, вядзеньне судовых спраў абвешчана галосным. Пастановы па крымінальных справах перададзены прысяжным засядацелям, якія выбіраліся з грамадзян.

Але ў важнэйшых рэформах асновы роўнасьці і свабоды былі ўрэзаны, і ў гэтых абмежаньнях выявіліся паняцьці асьвечанай і заможнай буржуазіі, якая пераважала ў Сабраньні.

Прымаючы пад увагу вельмі цяжкое грашовае становішча Франціі, Устаноўчае сабраньне прынялося за рэформу цэркві, якая ўладала ⅙ ўсей тэрыторыі ўсяго краю. Сярод французскага грамадзянства, якое вучылася ў прасьветнікаў XVIII ст., панаваў той пагляд, што духавенства ня можа кіраваць аграмаднымі багацьцямі, калі гаспадарства само патрабуе грошы. Даволі забаспечыць духоўнікаў пэнсіяй, а ўсю маемасьць атабраць на агульную карысьць. Згодна з гэтымі думкамі, Сабраньне абвесьціла ўсю царкоўную маемасьць, маемасьцю нацыянальнай, і парашыла яе прадаць за 400 міліёнаў. Атрыманыя грошы мелі пайсьці на пакрыцьцё дзяржаўнага доўгу, а пакуль што былі выпушчаны асыгнацыі, г. зн. крэдытныя білеты. Але у **1790** годзе Сабраньне пайшло яшчэ далей: яно абвесьціла палажэньне аб кліру, якім адмяніла архібіскупствы і скараціла лік біскупаў; з гэтага часу само жыхарства павінна было выбіраць біскупаў і ўсё духавенства. Выбраны біскуп не зацьвярджаўся папежам, а толькі паведамляў яго „як відочнага галаву цэркві“; духаўнікі, як „грамадзкія ўрадоўцы“, павінны былі прысягаць на вернасьць канстытуцыі і абяцаць поўнае паслухмянства нацыі, закону і каралю. Па праўдзе, гэта быў поўны разрыў з Рымам і адмена каталіцтва; Сабраньне само нарушыла сваю пастанову аб свабодзе сумленьня. Папеж адмовіўся прызнаць новае палажэньне і нова выбраных біскупаў. Сярод духавенства, і прытым ніжэйшага, якое да тэй пары было аддана справе рэвалюцыі, стварыўся раскол; яно было пастаўлена ў цяжкае палажэньне паміж родным краем і сваім духоўным кіраўнікоМ, папежам: адны згодзіліся прыняць прысягу, іншыя адмовіліся і як нявпрысяжныя атрымалі адстаўку і страцілі правы грамадзянства.



У траўню **1790** г. прайшоў закон аб выкупе фэадальных павіннасьцяў. Напрасна летам **1789** г. сяляне спадзяваліся здабыць сабе свабоду ад узносаў тым, што нішчылі фэадальныя граматы. Сабраньне прызнала, што сеньёр ня мае патрэбы даводзіць свае вымогі; наадварот, селянін можа звольніцца бяз выкупу толькі тады, калі пакажа дакумант, што ён ўжо з давён даўна вольны ад узносаў, гэта-ж было, блізка таго, немагчыма. Выкуп быў устаноўлены на вельмі цяжкіх варунках: селяніну прыходзілася адкупацца ад усіх павіннасьцяў зразу, гэта-ж каштавала вельмі дорага: каб выкупіць адны толькі штогодныя ўзносы сеньёрам, трэба было заплаціць суму у 20—25 разоў большую. Дзеля гэтага сяляне па большай часьці атказваліся ад выкупа, але не хацелі плаціць і старых павіннасьцяў. Аграрныя безпарадкі, г. зн. нішчаньне памешчычых двароў, насільны захват жніва, паўтарыліся летам **1790** г. пасьля абвешчаньня закона аб выкупе.

Сабраньне адняслося такжа няўважна да гарадзкіх і фабрычных работнікаў. Маючы на мэце поўнае асвабаджэньне асобы, яно забараніла ўсякае злучэньне грамадзян аднаго і таго-ж стану і занятку, бо падобныя таварыствы заключаюць у сабе „замах на свабоду і дэклярацію правоў чалавека“. Такім чынам былі зьнішчаны старыя цэхі, саюзы майстроў, якія перашкаджалі работнікам прабівацца ў гаспадары; але Сабраньне разам з тым забараніла рабочым закладаць саюзы паміж сабой для абароны сваіх спраў проціў прадпрыемцаў.

Тыя-ж паняцьці заможнай буржуазіі адбіліся ў канстытуцыі, якую апрацавала Устоноўчае Сабраньне за два гады яго чыннасьці.

## Канстытуцыя 1791 года.

Дэкларацыя прымала навуку аб народнай ўладзе, якую высунулі амэрыканская і англійская рэвалюцыі: „аснова вярхоўнай ўлады зьмешчана ў нацыі“. У той-жа час было дададзена, згодна с тэорыяй Монтэскье, што дзеля забаспечаньня

свабоды і правоў чалавека абавязкова патрэбен падзел ўлады. У той час, як каралю і яго міністрам пакінулі толькі выканаўчую ўладу, заканадаўчую пастанавілі перадаць адзінай палаце народных прадстаўнікаў (Заканадаўчаму сабраньню). Учасьце караля ў заканадаўстве было толькі ад'емнае, г. зн. ён можа накладаць veto (забарону) на пастановы сабраньня; але калі два разы зьмененыя сабраньні стаяць за тую-ж пастанову, то veto траціць сілу, і пастанова становіцца законам без каралеўскай згоды. Падзел ўлады быў даведзены аж да ізаляціі: дзеля страху каб старая ўлада ня стала рабіць націску на дэпутатаў, ня гледзячы на пратэсты Мірабо, было пастаноўлена, каб міністры ні ў якім здарэньні не належылі да палаты і ня былі на яе паседжаньнях.

Кароль і міністры былі абмежаны яшчэ і ў іншых здарэньнях: яны ня мелі ў сваім распараджэньні ўрадоўцаў. Стары распадзел Францыі на правінцыі быў зьнішчаны разам з адменай іх асаблівых правоў і устройства. Усе перашкоды для ўнутранай таргоўлі, мытныя камары, сольны падатак і г. д. адменены. Каралеўства было абвешчана „адзіным і непадзельным". Для больш лёгкага кіраваньня Францыю разрэзалі на роўныя, па велічыне тэрыторыі і жыхарства, 83 дэпартаманты, з назовамі, якія найчасьцей ўзяты ад рэкаў, гор, мысаў і г. д. Дзеля недаверья да старой бюрократыі, быў уведзены поўны самаўрад. У дэпартамантах, вокругах і грамадах ўсе ўлады, судзьдзі, старшыны, старасты, зборшчыкі падаткаў і г. д. выбіраліся самім жыхарствам; вышэйшая ўлада не магла ані зацьвярджаць, ані зьмяняць іх. Замест пасрэдных падаткаў на прадажу тавараў быў уведзены адзін просты падатак на землі, дамы, торговыя і прамысловыя прадпрыемствы.

Да рэвалюцыі магло здавацца, што трэці стан аб'еднаны ў сваіх інтэрасах, што буржуазія толькі зьяўляецца павадыром усяго народа ў імкненьні да агульнай роўнасьці. Аднак, выпадкі 1789 г., грозны выступ масаў зрабілі уражаньне ня толькі на ўрад, але такжа і на Сабраньне, ў якім пераважала заможная буржуазія. У дэкларацыі было сказана: „Усе грамадзяне маюць права асабіста або праз прадстаўнікаў прымаць учасьце ў апрацаваньні законаў." У супярэчнасьці з гэтай асновай Устаноўчае сабраньне разьдзяліла ўсіх грамадзян на актыўных і пасыўных. Да першых залічалі тых, хто плаціў простага падатку ня менш, як у ліку трохдзённай рабочай платы, і толькі яны мелі палітычныя правы г. зн. прымалі ўдзел у выбарах; для таго, каб быць выбраным, трэба паказаць яшчэ большую заможнасьць (цэнз). Маса бедных, у тым ліку большасьць работнікаў, была пад назовам пасыўных выключана ад усякага учасьніцтва ў палітычным жыцьці і самаўрадзе.



## Зьнішчаньне манархіі.

Кароль згаджаўся на ўсе рэформы з яўнай неахвотой; ён ня быў шчыры ў сваіх пастановах, лічыў іх прымусовымі і чакаў толькі здарэньня, каб выйсьці са свайго палону, скінуць апеку і адмяніць канстытуцыю, хоць ён ей і прысягнуў. Яшчэ больш падтрымлівалі яго ў гэтым каралева Марыя Антуанэтта, яго сваякі і астаткі прыдворнай партыі. Усе яны лічылі на тое, што чужаземныя двары ўмяшаюцца ў французскія справы, бо Марыя Антуанэтта была сястрой Язэпа II. Гэтага яўна дабіваліся і прынцы і сеньёры-эмігранты. Яны даводзілі суседзям, асабліва аўстрыйскаму і прускаму двару, што французская рэвалюцыя вельмі небяспечна для ўсіх манархічных урадаў.

Вясной **1791** г. памёр Мірабо, які, праўда, хацеў асвабадзіць караля с Парыжа, але рашуча быў проціў таго, каб шукаць за граніцай помач проціў сваей нацыі. У Людвіга XVI паўстала нешчасьлівая думка ўцячы з Францыі і далучыцца да эмігрантаў. Але недалёка ад бэльгійскай мяжы яго пазналі і вярнулі ў Парыж (летам **1791** г.) Спроба ўцячы выклікала ў народзе вялікае раздражненьне; цяпер праціўнікі манархіі адкрыта сталі гаварыць у клубах, у друку, на сходках і г. д. проціў караля. Сабраньне ўзяло караля пад стражу і часова адсунула яго ад выканаўчай ўлады, але ў той жа час рашуча выступіла проці рэспубліканцаў.

Праз месяц пасьля ўцечкі караля мелася быць сьвята фэдэрацыі, г. зн. агульнага аб'ядананьня ўсіх французаў. Праціўнікі манархіі склалі пэтыцыю аб пазбаўленьні Людвіга XVI пасаду і пасулілі ўсім падпісаць яе на „аўтару бацькаўшчыны", які быў пабудаваны на Марсавым полі, дзе народ павінен быў сабрацца на сьвяткаваньне. Па загаду Сабраньня, на поле зьявіліся гарадзкі галава Бальі і Лафайет з вой-

скам і нацыянальнай гвардзіяй. Таўпа стала кідаць у салдатаў камяні, а тыя далі залп у масу, скучаную на сходнях, забілі і ранілі некалькі чалавек. Адбылося першае крывавае здарэньне паміж двумя вялікімі групамі быўшага трэцяга стану. Найбольш чынны палітычны клуб якубінцаў такжа разьдзяліўся: Варнав і іншыя староньнікі канстытуцыйнай манархіі выйшлі з яго складу; з іх выхадам якубінскі клуб стаўся галоўным асяродкам скрайных дэмакратычных ідэяў.

У верасьні **1791** г. Устаноўчае сабраньне закончыла сваю працу і ўступіла зваё мейсца новаму Заканадаўчаму сабраньню, якое было выбрана згодна канстытуціі. Дэпутаты Устаноўчага сабраньня аднадушна пастанавілі адмовіцца ад учасьця ў наступнай за імі палаце, і Заканадаўчае сабраньне склалася з людзей саўсім новых, у большасьці маладых, другога пакаленьня, з яўнымі сымпаціямі да дэмакратычных ідэяў. У новай палаце староньнікі канстытуцыйнай манархіі ўжо склалі кансэрватыўную правую старану. Левую занялі дэмакраты, прыхільнікі рэспублікі; сярод іх большасьць належала да партыі, якая пасьля стала называцца жырондыстамі (ад дэпартаманта Жырондзы з г. Бордо, каторы паслаў некалькі здольных прамоўцаў). Партыя склалася адчасьці с купецтва правінціяльных гарадоў, адчасьці з журналістаў і вучоных, паміж каторымі вызначаўся Кондорсэ, блізкі да старога Вольтэра і учасьнік міністэрства Тюрго.

Жырандысты ня мелі апоры ў большасьці парыскага жыхарства, дробная буржуазія, крамнікі, рамесьнікі, фабрычныя работнікі, незабаспечаная інтэлігэнція, былі староньнікамі дзеячоў больш радыкальнага кірунку, якія ня былі ў Заканадаўчым сабраньні. З іх найбольш вызначаўся адвакат Дантон, бурнае красамоўства каторага мела вялікі ўплыў на масы; Робэспьер, вельмі папулярны ў абноўленым Якубінскім клубе, і Марат, які бязупынна раскрываў у сваей газэце скрытых праціўнікаў рэвалюціі і ўсякіх спэкулянтаў, што хацелі нажыцца на новым кіравецтве.

Прычынай да далейшага разьвіцьця рэвалюціі паслужыла тое, што эміграныты згуртаваліся на рэйнскай мяжы і пагражалі дэмакратычнай Франціі вайсковай расправай. У адповедзь Заканадаўчае сабраньне абвесьціла канфіскацію маемасьці і сьмяротную кару тым эмігрантам, каторыя да на-



значанага часу ня вернуцца на бацькаўшчыну. Кароль налажыў veto на дэкрэт сабраньня. Гэта толькі ўзмоцніла раздражненьне проціў яго; пачалі гаварыць аб яго тайных перагаворах с чужаземнымі дварамі, і што тыя гатовы ўмяшацца ва ўнутраныя справы Франціі. Жырандысты лічылі патрэбным папярэдзіць ворагаў і абвесьціць ім народную вайну, якая павінна была выклікаць агульнае паўстаньне проціў каралёў. Людвігу XVI ў свой чарод здавалася, што вайна дапаможа яму выйсьці с цяжкога становішча; ён склаў міністэрства з жырандыстаў і абвесьціў вайну Аўстрыі. У армію сталі масамі запісвацца дабрахотнікі з моладзі. Стварыліся рэвалюцыйна-патрыятычныя песьні, паміж імі вядомая Марсэльеза Ружэ дэ Ліля, якая абляцела пасьля ўсю Эўропу.

Але рух павярнуўся ў першы чарод проціў манархіі. Сталі прыходзіць весткі аб тым што ворагі, прусакі, уварваліся ў межы Франціі. Начальнік арміі на граніцы, Лафайет, гаварыў пагардліва з сабраньнем і абяцаў каралю падтрымку. Да апошняй ступені давёў устрывожаных парыжанаў маніфэст, выданы галоўнакамандуючым прускай армііяй, гэрцагам Браўншвэйгскім, і складзены, найхучэй, кім колечы з эмігрантаў: ён пагражаў усіх пакараць сьмерцьцю, папаліць дамы і разбурыць Парыж. Парыжанам было ясна, што ў каралеўскім палацы скрываецца зрада, якая мае зносіны са зьнешнімі ворагамі. Пакуль жырандысты вуснамі сваіх прамоўцаў сулілі абвесьціць „бацькаўшчыну ў небаспецы“ і думалі што пачаць, скрайныя якубінцы павялі справу рашуча. Яны узброілі работнікаў у прадмесьцях Парыжа, захапілі будынак Думы і замянілі выбраную ў **1789** годзе Камуну новымі дэмакратычнымі сябрамі. 10 жніўня паўстанцы пад гук звана рухнулі на каралеўскі палац, які быў пад ахранай наёмнай швайцарскай гвардзіі. Распачалася жорсткая перастрэлка, ў часе якой Людвіг XVI з сямьёй уцёк у Заканадаўчае сабраньне: тутака пры ім каралеўская ўлада была „спынена“, а сам ён пасаджаны ў турму. Лафайет спрабаваў намовіць войска ісьці на рэвалюцыйны Парыж, але яму гэта не ўдалося і ён прымушаны быў уцякаць загранііцу. Міністэрства жырандыстаў павінна было прыняць да сябе аднаго з арганізатараў паўстаньня, Дантона.

Пад ўражаньнем зьнешняй небаспекі, каб падняць патрыятычны настрой народа, заканадаўчае сабраньне пастанавіла

зрабіць што колечы і для сялян. У свой час Устаноўчае сабраньне вымагала ад сялян дакумантальных довадаў свабоды, цяпер-жа наадварот, было пастаноўлена, што памешчыкі павінны мець дакуманты на свае правы, інакш усе павіннасьці адмяняліся бяз выкупу. Дзеля таго, што многія памешчыкі былі ў эміграціі, і масы фэадальных грамат былі зьнішчаны, пастанова Заканадаўчага сабраньня азначала па праўдзе асвабаджэньне сялян бяз выкупу.

Канстытуцыя **1791** года з адменай манархіі рухнула. Заканадаўчае сабраньне пастанавіла разыйсьціся, каб уступіць мейсца Нацыянальнаму Канвэнту (у верасьні **1792** г.), каторы павінен быў назначыць форму кіравецтва. Першай справай Канвэнта было абвешчаньне рэспублікі. Заснаваньне рэспублікі ў Францыі пастаноўлена было прызнаць пачаткам новай эры і наступны год лічыць першым годам рэвалюцыйнага календара. На пяродадні адкрыцьця Канвэнта новы галоўнакамандуючы Думурье адбіў напад прусакоў пры Вальмі і хутка пасьля гэтага перайшоў у наступ. Французы занялі Бэльгію, левы бераг Рэйна і на поўдні ад сардынскага караля атабралі Савою і Ніцу. Канвэнт быў яшчэ больш лева настроены чым Заканадаўчае сабраньне. Жырандысты ў Канвэнце занялі ўжо правую старану. Найбольш рашучыя групы якубінцаў стварылі партыю мантаньяраў (г. зн. Горы, па палажэньню на высокіх мейсцах амфітэатра).

### Якубінская рэспубліка.

Палажэньне Францыі ў канцы **1792** г. і пачатку **1793** г. было вельмі цяжкім. Новастворaная рэспубліка атрымала ў спадчыну ад манархіі банкроцтва фінансаў. Продаж нацыянальных маемасьцяў далёка не магла пакрыць даўгоў: выпушчаныя пад іх забаспечаньне папяровыя грошы вельмі ўпалі ў цане, і іх ніхто не хацеў прымаць. Абядненьне прадаўжалася, крэдыту ня было, і маса людзей знаходзілася ў роспачы.

Мантаньяры вымагалі энэргічнага вядзеньня вайны і постраху унутраных ворагаў рэвалюцыі. Найбольшай небаспекай, па іхнай думцы, быў палонны кароль, на асвабаджэньне якога ішлі войскі рэакцыйных урадаў Эўропы; ў жалезнай шафе



Туільрыйскага палацу была знайдзена перапіска яго з эмігрантамі. Так-жа, як у свой час індэпэндэнская армія, радыкальныя якубінцы хацелі сьмяротнай карай караля стварыць непапраўны разрыў з прошлым. Жырандысты хацелі выратаваць караля; яны згаджаліся на суд Канвэнта спадзяючыся на тое, што прыгавор будзе аддaны на аканчальнае вырашэньне народа і што народ кару сьмерцьцю адменіць. Але большасьць Канвэнту, пад націскам парыжанаў, грозна шумеўшых на вуліцах і ў галерэях самога сабраньня, галасавала праціў апэляцыі да народа і за сьмяротную кару, якая і была выпаўнена ў студным **1793** года.

Між тым зьнешняя небаспека расла. Да ворагаў Францыі пасьля сьмерці караля далучылася Англія. На Думурье, галоўнакамандуючага арміі, якая заваявала Бэльгію, пакладаць надзеі нельга было. Ён яўна варожа аднасіўся да мантаньяраў і зьбіраўся ўзнавіць манархію. Разбіты аўстрыякамі, Думурье пачаў з імі пераговоры і, такжа як Лафайет, ўцёк да ворага. Унутры такжа паднялося паўстаньне. Калі Канвэнт абвесьціў новы набор жаўнераў, то ў Вандээ, мяйсцовасьці каля вусьця Луары, і ў Брэтані, самых адсталых ваколіцах Францыі, сяляне адмовілісяісьці на службу; яны ўзброіліся і пад імям „Хрыстовага войска“ сабраліся каля непрысягнуўшага канстытуцыі духавенства; да іх далучылася шляхта і пачалася вайна ў абарону манархіі.

Дзеля гэтай пагрозы мантаньяры сулілі павялічыць меры срогасьці праціў ворагоў рэвалюцыі (тэрар) і стварыць моцную цантральную ўладу для арганізацыі абароны. Дантон пасуліў заснаваць надзвычайны рэвалюцыйны трыбунал для суда і пакараньня зраднікаў і ворагаў рэспублікі, ня сумленных дастатчыкаў у армію, людзей што падрабляюць папяровыя грошы і г. д. Канвэнт гэты праект прыняў. У адповедзь на вандэйскае паўстаньне Канвэнт абвесьціў сьмерць усім эмігрантам і безпрысяжнаму духавенству, якія толькі будуць найдзены ў Францыі; ва ўсіх грамадах павінны быць створаны рэвалюцыйныя камітэты для назору за „падазронымі“. Над усім быў устаноўлены вышэйшы назор Камітэта грамадзкага ратунку, якому Канвэнт перадаў надзвычайную выканаўчую ўладу. У правінцыю пасылаліся камісары Канвэнта; распараджаючыся

тутака поўнаўладна, ўмешваючыся ў кіравецтва грамад, яны зьяўляліся як-бы паўтарэньнем быўшых інтэндантаў абсалютнай манархіі. Дзеля таго, што чыннай арміі не хапала Канвэнт загадаў сабраць у войска ўсё маладое пакаленьне ад 18 да 25 гадоў. Пастаноўлена было сабраць надзвычайны падатак на вайсковыя патрэбы, які павінен быць наложаны пераважна на багатых.

Усе гэты пастановы выходзілі ад групы радыкальных якубінцаў. Жырандысты былі адціснуты ад ўлады. Як правінцыяльныя дэпутаты, яны былі вельмі нездаволены палітычнай перавагай Парыжа, які па іх думцы, не павінен мець большага значэньня чым $1/_{83}$ часьць Францыі. Жырандысты запатрабавалі адмены дэмакратычнай камуны. Гэтым нападам на сваіх супернікаў Жыронда выклікала іх помсту. Камуна падняла дробных майстроў і работнікаў парыскіх прадмесьцяў; іх узброеныя дружыны два разы ўрываліся ў залю паседжаньня Канвэнту і дамагліся выключаньня і арышту 29 выдатных жырандыскіх дэпутатаў (у пачатку чэрвеня **1793** г.). Іх пасадзілі ў турму і праз нейкі час пакаралі сьмерцьцю разам з множствам асуджаных рэвалюцыйным трыбуналам.

Некаторыя жырандысты пасьпелі ўцячы і паднялі паўстаньне проціў Канвэнта ў правінцыях. У вялікіх гарадох, Бордо, Ліоне, Марсэлі, Тулоне, Тулузе, якубінцаў выгналі з гарадзкіх радаў і замянілі жырандыстамі. Шмат дзе сярод паўстаўшых паявіліся р о я л і с т ы (прыхільнікі манархіі), каторыя ў Ліоне нат захапілі ўладу. Корсіка аддзялілася, Тулон прыняў у свой порт англа-гішпанскі флот. Быў момант калі проціў Канвэнта і Парыжа паўстала 60 дэпартамантаў, а вернымі асталіся толькі 20. У гэтым крытычным палажэньні кіруючыя мантаньяры ня страціліся. Сябра камітэту грамадзкага ратунку, вызначны вайсковы арганізатар Карно стварыў з рэкрутаў некалькі арміяў і скіраваў іх у загрожаныя ваколіцы. Проціў унутраных ворагаў прынялі самыя рашучыя меры: Ліон меліся зраўняць з зямлёй, у Нанце камісар Канвэнта разстрэліваў і тапіў сотні людзей, проціў вандэйцаў адпраўлены для вынішчаньня „пякельныя калонны“.

У **1793** г. Канвэнт прыняў новую канстытуцію, па якой першы раз была прызнана п а л і т ы ч н а я р о ў н а с ь ц ь усіх французаў. Канвэнт такжа прызнаў абавязковую для ўсіх і дармовую навуку. Мужчыны і жанкі сталі насіць цёмную адзежу без усякіх аздобаў, каб адгарадзіць сябе ад бліскучасьці папярэдняга часу, гаварылі адзін аднаму „ты“, „грамадзянін“, „грамадзянка“. Дэмакраты, заняўшыя мейсцы у гарадзкім самаўрадзе Парыжа, прабавалі памагчы бедным, якія апынуліся ў вельмі цяжкім палажэньні ў часе нападу ворага і паўстаньня ў дэпартамантах, бо гэта вельмі утрудніла падвоз прадуктаў. Камуна назначыла таксу на хлеб, за нарушэньне каторай купцоў срога каралі.



К канцу **1793** г. зьнешнее палажэньне зьмянілася. Войскі Канвэнта, пад камандай маладых афіцэраў, высунутых рэвалюцыяй, сталі ўсюды перамагаць: Гош выбіў прусакаў з Рэйна. Банапарт удачнай аблогай прымусіў здацца Тулон; у Вандээ, Ліоне і іншых мейсцах паўстаньне было зломлена. Але сярод пераможцаў-мантаньяраў стаўся раскол. Дантон лічыў, што пара ўжо спыніць тэрар. Робэспьер, які паддаў сабэ Камітэт грамадзкага ратунку, вымагаў новых ахвяраў. Ён, як прыхільнік рэлігіі ў духу Руссо, вёў барацьбу такжа з рацыяналістамі, каторыя хацелі адмяніць хрысціянская набажэнства і замяніць яго к у л ь т а м Р о з у м у. Робэспьер прадставіў і Дантона і „атэістаў“ ворагамі рэвалюціі і прымусіў напужаны Канвэнт згадзіцца з іх арыштам.

Пасьля сьмяротнай кары над Дантонам і атэістамі, Робэспьер меў неабмежаны ўплыў, сваё становішча ён выкарыстаў на тое, каб увесьці ў Парыжу паклон В ы ш э й ш а й І с т о ц е, абраднасьць прыпамінала каталіцкі культ. Яго недаверье і запасочнасьць пачала, ўрэшце, пужаць сяброў ўсесільнага Камітэта грамадзкага ратунку. Проціў яго змовіліся, і ў Канвэнце арыштавалі. Разам з сотней прыхільнікаў, сярод каторых была большасьць сяброў Камуны з самым мэрам, яго прысудзілі на сьмерць і прыгавор выканалі на другі-ж дзень пасьля арышту (27 ліпеня **1794** г., 9 тэрмідора 2 году па рэспубліканскаму календару).

## Пачатак рэакціі.

Са сьмерцьцю Робэспьера ў Парыжы пачалася рэакція. Канвэнт зьнішчыў рэвалюцыйную Камуну, вярнуў жырандыстаў, што яшчэ асталіся жывымі, і закрыў Якубінскі клуб. Калі астаткі Якубінцаў узброілі работнікаў проціў Канвэнта з вымогамі „хлеба і канстытуціі **1793** года“, напад быў адбі-

ты аружнай сілай. Заможныя клясы парыскага грамадзянства зноў атрымалі правы, якія прыпаміналі стары лад; у гутарках лічылі ветласьцю сьмяяцца над рэспублікай і санкюлотамі (безштаннікамі, як сталі называць простых людзей).

Рэспубліка, заснаваная ў **1792** г. пад уражаньнем страха перад чужаземным нападам, праз два гады аказалася вельмі нямоцнай; яна мела дужа мала прыхільнікаў. Процiў яе, апрача шляхты, паўстала ўсё духавенства; яна ані чым не здабыла прыхільнасьці сялянства; заможная буржуазія была напужана самаволяй канвэнцкіх камісараў. Асталіся адны рамесьнікі і работнікі Парыжа, якія сваімі паўстаньнямі (14 ліпеня і 5 кастрычніка **1789** г., 10 жніўня **1792** г.) давалі галоўную моц рэвалюцыі. Але Канвэнт, зьнішчыўшы астаткі мантаньяраў адпіхнуў ад сябе работнікаў і дробную буржуазію Парыжа.

Наадварот, раялісты пачалі, нават у самым Парыжы, мацнець. У восені **1795** г., праз 5 месяцаў пасьля апошняга якубінскага паўстаньня, на Туільрыйскі палац, дзе адбывалася паседжаньне, напалі раялісты, але Канвэнт быў выратаваны войскамі, пад камандай Банапарта. Між тым Канвэнт апрацаваў новую канстытуцыю, менш дэмакратычную, чым якубінская канстытуцыя **1793** г. Зноў увялі цэнз, як у **1791** годзе. Заканадаўчая ўлада павінна была перайсьці да двух палатаў: Старэйшын і Пяцісот. Страх, што рэспубліка будзе зьнішчана, быў такі вялікі, што Канвэнт пастанавіў перадаць ²/₃ мейсцаў у новых палатах сваім сябрам і толькі для ¹/₃ назначыў новыя выбары. Выканаўчая ўлада была перададзена не аднаму прэзыдэнту, як у Амэрыцы, а калегіі пяці дырэктароў.

Дырэкторыя, па праўдзе, такжа трымалася дзякуючы войску, да начальнікаў якога хутка і перайшла запраўдная ўлада. У **1793** г. дэмакратычная Францыя была ў вялікай небяспецы; ў войска ішлі людзі, або адухоўленыя новымі ідэямі або нездаволеныя ўнутранімі закалотамі; ішлі бедныя ад дрэнных заработкаў і голаду. Перабудова арміі на дэмакратычных асновах адпавядала агульнаму энтузыязму; у той час як раней афіцэры былі выключна арыстакратамі, цяпер усе пасады былі адкрыты для людзей усіх станаў: слаўныя гэнэралы рэспублікі і імпэрыі, блізка, ўсе вышлі з дробнай буржуазіі, а сам Банапарт, быў чужаземцам, які паходзіў з



заваяванага ў яго дзяцінстве вострава Корсікі; ўсе гэты людзі высунуліся дзякуючы дэмакратычнаму ладу вельмі хутка, ў веку ўсяго 24—30 гадоў.

### Рэзультаты рэвалюцыі.

У той час як урад новай рэспублікі быў вельмі нямоцны, грамадзкія зьмены, зробленыя рэвалюцыяй, наадварот, аказалізя вельмі астоістымі. Землі, адабраныя ад цэркві, ад шляхты-эмігрантаў былі скуплены буржуазіяй, буйнай і дробнай, а такжа сялянамі; многія беззямельныя парабкі сталі дробнымі ўласьнікамі. Новыя ўласьнікі вельмі розніліся ад старых. Раней, блізка, на ўсіх сялянскіх землях ляжалі вялікія (фэадальныя) павіннасьці: падаткі сеньёру, праца на яго і г. д.; на адну і тую-ж зямлю мела права некалькі гаспадароў. Цяпер кождая маемасьць мела толькі аднаго ўласьніка; права яго на зямлю было безумоўнае, ён павінен быў плаціць толькі адзін дзяржаўны просты падатак.

---

III.

## Рэвалюцыйныя войны, імпэрыя ў Францыі і пачатак рэформаў у Нямеччыне.

Француская рэвалюцыя захапіла ўрады старой Эўропы нячэўкі, але не магла ня выклікаць вялікай сымпатыі да сябе асьвечанага эўропэйскага грамадзянства. Асабліва відаць гэта ў Нямеччыне, дзяржаве, якая вельмі адстала ў палітычным ладзе, але моцна вызначылася сваей прасьветай.

### Культура Нямеччыны ў канцы XVIII ст.

У Нямеччыне можна было налічыць да 360 самастойных адзінак, калі прыняць пад увагу ўладаньні незалежных імпэрскіх рыцараў. Сярод іх былі два вялікіх гаспадарствы, Аўстрыя і Прусія, якія апрача таго мелі значныя ўладаньні зьне межаў імпэрыі; некалькі княжстваў сярэдняй велічыні (Баварыя, Саксонія, Гановэр); духоўныя ўладаньні з дажывотнымі гаспадарамі (архібіскупамі, біскупамі і аббатамі); не-

вялікія гарадзкія рэспублікі з арыстакратычным ладам. Нямеччына была вялікім ваенным полем, на якім вырашаліся эўрапэйскія спрэчкі; яна апрача таго зьяўлялася сталым запасным абозам, дзе набіралі для ўсей Эўропы жаўнераў, каторых прадавалі дробныя князі. Нямецкія князі прывыклі, асабліва ад Франціі, браць запамогі і карыстацца падтрымкай пры заваяваньні зямель сваіх больш дробных суседаў. Інтарэсы ня толькі буйных ўладараў, аўстрыйскага і прускага, але і іншых сярэдніх часта скіроўваліся за межы імпэрыі: гановэрскі курфюрст быў англійскім каралём, а саксонскі—каралём польскім; яны жылі, адзін у Лёндане, другі ў Варшаве, а апошні нават, дзеля сваіх падданых (палякаў) прыняў каталіцтва. Урэшце, некатарыя часьці імпэрыі былі ў руках чужаземных дзяржаваў, Швэдзіі і Даніі.

Раздробненьне ня шкодзіла Нямеччыне выказваць вялікую энэргію ў прасьветнай рабоце. Кожды князь сярэдней рукі імкнуўся мець на сваей тэрыторыі унівэрсытэт; дзякуючы гэтаму стварылася множства культурных асяродкаў, якія паміж сабой супернічалі. У канцы XVIII ст. пры адным з дробных двароў, Саксэн-Вэймарскім, пры дапамозе гэрцага стварыўся літаратурна-навуковы гурток, у якім злучыліся найвялікшыя пісьменьнікі Нямеччыны—Гэрдэр, Гётэ і Шылер.

Нямецкая навука сваім зьместам і характарам, рожнілася ад англійска-францускай: тутака на першым мейсцы йшлі ня столькі прыродніцкія навукі, сколькі старадаўная літаратура, гісторыя Рыму, Грэціі і раннага хрысьціянства. Навука нямецкая сучаснасьцю цікавілася мала і дзеля гэтага мела адвалочны характар. Яе вывады былі часам вельмі сьмелымі, але аставаліся на недаступнай вышыне сьветагляду. Такой была чыннасьць і вялікага кэнігсбэрскага філёзафа Канта. Само жыцьцё гэтага ўсестароннага вучонага было вельмі характэрным: у працягу ўсіх 80 гадоў (**1724—1804**) г. зн. ад нараджэньня да сьмерці, Кант ня выяжджаў далей чым 7 міль ад свайго роднага, маленькага ўсходня-прускага гарадка; ўсё яго жыцьцё прайшло ў пэдантычнай аднастайнасьці; гэта—поўная процілегласьць многастароньняй назорчывасьці і жыцьцёвым досьледам Монтэскье, Локка, Вольтэра.

У сярэдзіне XVIII ст. прасьветны рух у Нямеччыне прыняў новы характар—а д р а д ж э н ь н я н а ц ы я н а л ь н а й с а м а б ы т н а с ь ц і. На перадзе ўсей работы ідзе Лесінг (**1729—1781**), вельмі разнародны пісьменьнік, філёзаф, крытык, драматург. Адна з галоўных мэтаў Лесінга—барацьба с францускім класыцызмам, які запоўніў нямецкую літаратуру. Філёзаф і гісторык Гэрдэр суліць шукаць мудрасьці ў творчасьці вялікіх групаў, н а р о д а ў. Трэба зьбіраць „галасы народаў", міты, паверы, песьні, звычаі, каб адкрыць ступені умысловага разьвіцьця чалавецтва. Нямецкія асьвечаныя людзі былі галоўным чынам з б ю р г э р а ў, сярэдняй клясы гарадзкога жыхарства, падобнага да францускай буржуазіі.



На пяродадні францускай рэвалюціі маладое пакаленьне літаратараў, аддаючыся „бурным захопленьням" (такі быў агаловак аднэй драмы), горача пратэстуе; разам з Руссо, ў імя свабоды і сьвятасьці безпасярэдняга пачуцьця, стараецца стварыць моцныя і арыгінальныя характары. Сюды можна залічыць ранныя творы Гётэ (**1749—1832**): „Мукі маладога Вэртэра", „Эгмонт" і інш. У першай драме Шылера (**1759—1805**) „Разбойнікі" група студэнтаў, абураных няпраўдай і апатыяй рэшты грамадзянства, хоча тварыць вялікія справы; яны ідуць у лясы і там ствараюць грамаду ідэальных разбойнікаў, каторыя не прызнаюць ўласьнасьці, паляць і нішчаць злачынцаў і багачоў і дапамагаюць бедным. Яны ламаюць установлены лад, таму што вышэйшыя асновы і права зьмешчаны ў іх свабодным імкненьні.

Увесь гэты бурны пратэст, аднак, мае вельмі неазначаны зьмест. У аднэй з апошніх драм („Дон-Карлос") Шылер задаволіўся ідэалам гаспадара-філёзафа і дабрачынцы, які меў неабмежаную ўладу. Гётэ і Шылер, абадвы ў сваей супольнай дзейнасьці пры вэймарскім двары, шукалі праяўленьня свабоды, галоўным чынам, у асновах мастацтва і навукі, ў нясьцесьненым дасьледаваньні і творчасьці. Гётэ ў „Фаўсьце" стараўся прадставіць усю сучаснасьць у двух сымбалічных фігурах: вучонага Фаўста, які шукае крыніцу жыцьця і ключ да шчасьця, і Мэфістофэля, які ўсё адкідае і ва ўсім сумняваецца. Мэфістофэль сваей крытыкай і аналізам стараецца збурыць і разьбіць усе імкненьні чалавека, але Фаўст ня застанаўліваецца над гэтым, ён знаходзіць задаволеньне ў шырокай дзейнасьці для дабра народу.

## Войны францускай рэспублікі.

У Нямеччыне ўздоўж мяжы з Франціяй народ быў па старане рэвалюціі. У **1792** годзе невялікае францускае войска лёгка апанавала гарадамі на Рэйне; французы ўвайшлі ў крэпасьць Майнц, ключ імпэрыі; ўсюды яны абвяшчалі адмену прывілеяў і фэадальных павіннасьцяў і перакладалі падаткі на вышэйшыя клясы. Асабліва шчасьліва для Франціі вялася вайна с **1794** г., калі пасьля часовых няўдач французы




Рыс. 2.—Разьдзелы Польшчы. I—першы, II—другі, III—трэці разьдзел.

адбілі арміі эўрапэйскага саюзу (коаліціі). З заняцьцем Бэльгіі, духоўных курфюршаств і заходных ўладаньняў Прусіі мяжы францускай рэспублікі пасунуліся да Рэйна; заваяваныя нямецкія і нідэрландзкія ваколіцы былі, падобна Франціі, падзелены на дэпартаманты. Францускім заваяваньням многа дапамагло тое, што яе праціўнікі на ўсходзе былі заняты разьдзеламі Польшчы. Пасьля п е р ш а г а разьдзелу (**1772** г.)



у Польшчы стварылася партыя патрыётаў-рэфарматараў. Апрацаваная ёй так званая майская канстытуція **1791** г., адначасна с працай Устаноўчага сабраньня ў Франціі, забеспакоіла Прусію і Расію, якія баяліся новага ўсіленьня Польшчы.

Абедзьве дзяржавы прыступілі да д р у г о г а разьдзелу (**1793** г.), пры чым Расія заняла Курляндзію і літоўскабеларускія землі, а Прусія—Пазнань і Вялікую Польшчу. Гэты ўдачы ўсходніх дзяржаваў выклікалі зайздрасьць у Аўстрыі. Калі расійскія войскі спынілі польскае паўстаньне, на чале якога стаяў Касьцюшка, Аўстрыя далучылася да аканчальнага т р э ц я г а разьдзелу Польшчы (**1795** г.).

Прусія адцягнула свае вайскі с Францускай мяжы яшчэ пасьля бітвы пры Вальмі, каб трымаць іх гатовымі для Ўсходу. Задаволеная сваімі усходнімі здабычамі, Прусія адстала ад кааліціі і першая падпісала міравую (Б а з э л ь с к і мір **1795** г.) з новай францускай рэспублікай, прызнаўшы гэткім чынам яе за дзяржаву. У **1795**—**1796** г. г. французы ідуць пераможцамі на перад. Гэнэрал Пішэгрю заваяваў Галандзію, гэнэрал Банапарт заняў паўночную Італію, атабраў ад сардынскага караля Савою, Ніцу і Пьемонт і выціснуў з Ламбардзіі аўстрыякаў. Пры сваіх пабедах у Італіі, Банапарт накладаў вялікія кантрыбуціі, паміж іншым на Геную, Вэнэцію і папескую ваколіцу, што дало магчымасьць ня толькі аплаціць жаўнераў, але і пасылаць значныя сумы рэспубліканскаму ўраду ў Францію. Войска рэспублікі заняло Рым і папескі палац Ватыкан; без найменшай пашаны да папескага пасаду з яго пакояў выносілі ўсе рэчы, зьнялі з рукі папежа пярсьцёнік, а самога папежа Піуса VI, 80-летняга старога, вывезьлі ў Францію, дзе ён і памёр. З Ламбардзіі Банапарт скіраваўся праз тырольскія Альпы проста на Вену і прымусіў Аўстрыю да Міравой (ў К а м п о - Ф о р м і о **1797** г.), па якой Аўстрыя пакінула Італію ў поўнае распараджэньне францускай рэспублікі. Так закончылася вялікая п е р ш а я кааліція **1793** года.

Толькі адзін праціўнік Франціі захаваў перавагу, — Англія. Дырэкторыя пастанавіла падтрымаць паўстаньне ў Ірландзіі проціў англічанаў і паслаць туды гэнэрала Гоша. Згодна с пасулам Банапарта, ён быў адпраўлены з вялікай экспэдыціяй у Эгіпет (**1798** г.), дзе французы меліся нанясьці Англіі рашучы удар; Банапарт імкнуўся заваяваць увесь Усход разам з Індыяй, падобна да Александра Македонскага.

У заваяваных землях французы дапамагалі дэмакратам рабіць рэвалюціі і наладжваць новае кіравецтва на асновах грамадзкай роўнасьці; ўсюды узьнікалі рэспублікі, падобныя да французкай і саюзныя з ёй. Першая была заснавана ў Галандзіі (Батаеўская) рэспубліка „адзіная і непадзельная“ замест старога фэдэратыўнага і арыстакратычнага кіравецтва самастойных штатаў. У Швайцарыі такжа, замест саюза са-




Рыс. 3. — Француская рэспубліка, яе заваяваньні і рэспублікі саюзныя, створаныя дзякуючы Франціі. I—здобыч Франціі: 1) Бэльгія, 1а) Рэйнскія землі Нямеччыны, 2) Пьемонт. II—Новастворaныя рэспублікі 3) Батаеўская, 4) Гэльвэцкая, 5) Цызальпінская, 6) Лігурыйская, 7) Рымская, 8) Парфенопэйская. III—Сама Францыя.

мастойных кантонаў з арыстакратычнымі радамі, была абвешчана адзіная дэмакратычная (Гэльвэцкая) рэспубліка. З атабранай ад Аўстрыі Ламбардзіі разам з паловай быўшых папескіх земляў была створана Цызальпінская рэспубліка.



Урэшце, з Нэапалітанскага каралеўства былі выгнаны Бурбоны і створана Парфэнапэйская рэспубліка.

У пачатку вайны з Эўропай Канвэнт абвяшчаў, што заваяваньняў ня будзе, што свабодная Францыя толькі працягвае брацкую руку іншым народам. Але ў меру удачаў у Франціі забываліся аб абяцанках; войска імкнулася да славы і нагрworld кошта падбітых, гэнэралы вымагалі цяжкіх кантрыбуціяў, як і ў старадаўныя войны каторыя вяліся манархамі. Яны пачувалі сябе як-бы рымскімі консуламі ці імпэратарамі. Ўнутры Франціі для іх адкрываліся магчымасьці перавароту падобнага да тых, што выканалі Цэзар і Аўгуст.

## Пераварот 18 брумэра.

У часе Дырэкторыі ўсё мацней развівалася рэакція проціў рэвалюціі. Ад ідэала роўнасьці, які так высувалі якубінцы **1793** г., грамадзянства адыйшло вельмі далёка. Стварылася новая арыстакрація багачоў; капітал пры ваяўнічай рэспубліцы набіраў яшчэ большую моц, чым раней. Вайна адкрывала новыя прамысловыя карысьці; можна было добра зарабляць на дастачах у армію; здобыч, кантрыбуціі, якія зьбіралі з заваяваных краін, служылі для заснаваньня вялікіх прадпрыемстваў. Вялікі зварот быў і ў рэлігійным пачуцьці. Незацікаўленасьць і роўнадушнасьць рэспубліканцаў Канвэнта да рэлігіі зьмяніліся ў пабожнасьць і прыхільнасьць да абрадкаў, якія адпраўляліся няпрысяжным, г. зн. верным старой цэркві, духавенствам.

Аднак, памыліліся і тыя праціўнікі рэвалюціі, каторыя распашыралі „маніфэсты Людвіга XVIII“ (гэта імя прыняў старшы брат забітага Людвіга XVI, лічучы Людвігам XVII памёршага малалетняга дафіна). Проціў звароту старога ладу была большасьць буржуазіі: яго баяліся ўласьнікі маемасьцяў, адабраных ад цэркві і эмігрантаў, пужаліся ўсе тыя, каму роўнасьць правоў аткрыла службу, пасады і пашану; блізка ўсе гэнэралы рэспублікі пры старым ладзе былі-бы на ніжэйшых пасадах. Большасьць згаджалася цяпер пагадзіцца с такой ўладой, якая дала-б магчымасьць спакойна карыстаць новым правам і ўласнасьцю, хаця-б пры гэтым і была страчана палітычная свабода.

Рэспубліка трымалася толькі аружнай сілай. У **1797** г. большасьць сяброў палатаў былі роялісты; па іх старане было двох дырэктароў. Калі выявілася, што роялісты гатовы на зварот (рэставрацію) манархіі, рэшта дырэктароў паведаміла аб небаспецы камандуючых арміямі. Банапарт з Італіі прыслаў падуладнага гэнэрала, каторы арыштаваў манархістычных дэпутатаў. Сам рэспрбліканскі ўрад падгатаўляў перадачу ўлады ў рукі вайсковага дыктатара. У **1799** г., ў той час як Моро, начальнік рэйнскай арміі, разважаў, Банапарт раптам пакінуў Эгіпэт і вярнуўся ў Францію. За яго былі два дырэктары, між іншым вельмі папулярны сярод заможнай буржуазіі Сіэс. Банапарт быў назначаны камандантам Парыжа, а палаты, пад відам ратунку ад якубінскай змовы, перадвезены у горад Сан-Клу, пад Парыжам. Дзевятага лістапада **1799** г. (па рэспубліканскім календару 18 брумэра VIII году) дырэктары-прыхільнікі Банапарта дабравольна адмовіліся ад пасадаў, рэшту прымусілі падацца ў адстаўку, а двох ўзялі пад арышт. На другі дзень гэнэрал увёў жаўнераў у залю паседжаньняў рады пяцісот і выгнаў народных прадстаўнікаў.

## Лад консульства і імпэрыі.

Па праекту Сіэса, які лічыўся асаблівым знаўцом канстытуцыяў, быў апрацаваны новы лад (чацьвёрты, за 10 гадоў рэвалюціі). Гэта канстытуція VIII году была поўнай процілеглаcьцю самаўраду, які быў заведзены канстытуцыяй **1791** г., і зьверхніцтву Канвэнта **1793** г. Яна захавала імя рэспублікі і для зацьверджаньня яе быў праведзены п л е б і с ц ы т, г. зн. ўсенароднае галасаваньне. Але гэта была толькі дэкаратыўная старана. Народ ня выбіраў ані дэпутатаў, ані ўрадоўцаў. Праўдзівага парляманту ня было, а было некалькі дзіўна разьдзеленых заканадаўчых установаў; д з я р ж а ў н а я р а д а толькі суліла праекты, першая палата (т р ы б у н а т) толькі разглядаў гэты праекты, другая (з а к а н а д а ў ч ы к о р п у с) толькі галасавала, г. зн. гаварыла „так“ ці „не“ і дазваляла падаткі; ўрэшце, вышэйшы орган (с э н а т) зацьвярджаў або адмяняў закон, гледзячы на тое, ці адпавядаў закон канстытуціі ці не. Сэнат, с Сіэсам на чале, быў назначы Банапартам і ў свой чарод назначыў дэпутатаў двох палат па сьпіску грамадзян. Па праўдзе ўсё вырашалася воляй зьверхніка дзяржавы, „грамадзяніна Банапарта“, які быў толькі па назове сябрам калегіі трох консулаў, а ў самай рэчы як п е р ш ы к о н с у л, выбіраны на 10 гадоў, быў адзіным начальнікам усіх вайсковых сіл і ўсей адміністрацыі, с правам поўнага распараджэньня справамі вайны і міру; назначаючы міністраў, паслоу, сяброў дзяржаўнай рады, судзьдзяў, ён мог обвяшчаць загады, роўныя законам.



Пры помачы некалькіх зьмен Банапарт яшчэ больш павялічыў сваю ўладу: праз два гады сэнат абвесьціў яго ўладу дажывотнай, а яшчэ праз два (**1804**) абвесьціў Банапарта „і м п э р а т а р а м ф р а ц ў з а ў“, і як такі ён стаў называцца па імяні Напалеонам I. Разам з неабмежанай ўладай аджылі і многія ўстановы старой манархіі: у дэпартамантах былі назначаны паслушныя вярхоўнай ўладзе п р э ф э к т ы, наступнікі інтэндантаў і канвэнскіх камісараў; у кождай грамадзе, вёсьцы і горадзе ўрад назначыў м э р а. У сталіцы была створана вельмі чуйная і прычэпская паліція. Палітычныя заваяваньні рэвалюціі ўнутры Франціі былі Напалеонам саўсім зьнішчаны. У моладасьці ён быў прыхільнікам дэмакратычных ідэяў, быў адзін час сябрам якубінскага клуба; дзякуючы мантаньярам, ён атрымаў камандаваньне італьянскай арміяй; гэта яго высунула на першае мейсца сярод гэнэралоў рэспублікі. Але с часу перавароту Напалеон ня скрываючы выражаў сваю пагарду да „ідэалістаў“, г. зн. людзей рэспубліканскіх і констытуцыйных паглядаў.

Грамадзкія зьмены, праведзеныя рэвалюціяй, наадварот, па большай часьці захаваліся. Хаця многія эмігранты маглі цяпер вярнуцца, аднак, нацыянальная і канфіскаваная маемасьць асталася ў руках новых ўласьнікаў, каторыя купілі іх у часе рэвалюціі. Захавалася такжа праведзеная Устаноўчым сабраньнем грамадзкая роўнасьць. Камісія юрыстаў злучыла ў вялікі збор законаў працы заканадаўчых установаў і выдала пад назовам к о д э к с а Н а п а л е о н а, законы гэты мелі моц для ўсіх земляў на захад ад Рэйна і Альпаў.

Асталася такжа свабода веравызнаньня. Але ў палажэньні цэркві, ўсё-ж былі праведзены зьмены. Дзяржава ў пачатку рэвалюціі лёгка адабрала ад абязсіленай цэркві яе прывілеі і маемасьць; але калі сталі праводзіць рэформы ў царкоўным ладзе і ў самой навуцы, то аказаласл вельмі многа веруючых, каторыя страцілі цярплівасьць. Няпрысяжнае духавенства, якое было ў саюзе з Рымам, карыстала вялікай

прыхільнасьцю, тым больш, што у часе рэвалюціі ім прышлося многа перацярпець. Першы консул і яго раднікі па царкоўных справах, самі саўсім роўнадушныя да рэлігіі, лічылі карысным пагадзіцца з Рымам. У свой чарод папеж Пію VII, з якім яны вялі перагаворы, стараўся справу палагодзіць. Па канкардату **1801** года, каталіцтва было прызнана толькі рэлігіяй „большасьці французскіх грамадзян“, свабода набажэнстваў і публічных абрадаў — абмежана паліцэйскімі распараджэньнямі, якія ўрад знойдзе патрэбным увясьці. Біскупы павінны быць сьпярша назначаны зьверхнікам дзяржавы, а пасьля ўжо зацьверджаны папежам.

Людзі, што акружалі Напалеона, быўшыя яго калегі — гэнэралы, урадоўцы, адчасьці быўшыя дзеячы Канвэнта, імкнуліся стварыць новую арыстакрацію, так-жа як і іх зьверхнік не хацеў астацца прэзыдэнтам рэспублікі, а хацеў увайсьці ў круг эўропэйскіх сеньёраў-гаспадароў. Дзеля гэтага Напалеон стварыў праўдзівы двор с пышнымі прыёмамі і сьвятамі, адзеў нядаўных дэмакратаў і якубінцаў у бліскучыя, шытыя золатам, кафтаны і страўсавыя перья, пачаў раздаваць тытулы баронаў, графаў, гэрцагаў.

### Зьнешняя палітыка Напалеона.

У часе перавароту 18 брумэра Францыя вяла вайну з новым, другім саюзам (кааліціяй), да якога, апрача заўзятага ворага—Англіі, далучыліся Расія (імпэратар Павал I), Аўстрыя, Нямеччына і Турцыя. Сьледам за экспэдыціяй Банапарта ў Эгіпет адправіўся па Сяродземнаму мору англійскі адмірал Нэльсон і коля вусьця Ніла спаліў французскі флот. Расія ў саюзе з Аустрыяй, пад камандай Суворава, выціснулі Француаў з Італіі; ў Нэапалі і другіх часьцях поўвострава былі вернуты старыя ўрады (1799). Пры консульстве Францыя зноў атрымала перавагу. Імпэратар Павал, нездаволены тым, што Аўстрыя замест звароту старых італьянскіх гаспадароў, шукае ўласных здабыч, атазваў свае войскі і выступіў з саюзу. Першы консул зноў заваяваў паўночную Італію, а другая французская армія ўвайшла ў Нямеччыну і адкрыла дарогу да Вены. Астаўшыяся саюзьнікі Аўстрыя ды Англія, падпісалі с Францыяй мір (**1801—1802**). У Англіі галоўны староньнік вайны Пітт вышаў у адстаўку; большасьць англійскага грамадзянства была проціў вайны.



Напалеон прыдаў цяпер Італіі больш упрошчаны від і абвесьціў сябе прэзыдэнтам Італьянскай рэспублікі. Але найбольшыя зьмены былі зроблены ў Нямеччыне. Францыя абяцала адплаціць тым нямецкім князям, якія страцілі землі на левым берагу Рэйна, гэтым яна здабыла сабе саюзьнікаў ў Нямеччыне, асабліва палуднёвай яе часьці. Матэрыялам для расплаты павінны былі паслужыць землі духоўных курфюрстаў, вольныя імпэрскія гарады і землі, якія належылі да імпэрскіх рыцараў: гэты сэкулярызаціі і мэдыатызаціі (падданьне княжствам вольных часьцей імпэрыі) памаглі Бадэну, Вюртэмбэргу і Баварыі значна павялічыць і акругліць свае ўладаньні, баварскі і вюртэмбэрскі князі прынялі ад Напалеона каралеўскія тытулы. Але і Прусія значна скарысталася міласьцямі Францыі і разьдзелам Нямеччыны: за страты на левым берагу яна атрымала блізка у чатыры разы больш на правым, забраўшы землі біскапаў, аббатаў і вольных гарадоў.

Напалеон не хацеў спыніцца на гэтым вельмі добрым для Францыі палажэньні. С прыняцьцем тытула імпэратара, ён імкнуўся распашырыць сваё панаваньне на ўсю Эўропу, падобна да Рымскай імпэрыі. Але Францыя мела аднаго, яшчэ ня зьбітага суперніка на моры і ў выселках—Англію. Напалеон стаў падгатоўліваць высадку проціў Англіі ў Булоні; разам с французскім флотам павінен быў ісьці і гішпанскі. Пітт, які с **1804 г.** быў зноў на чале міністэрства, адцягнуў небяспеку, каторая пагражала Англіі. Ён стварыў трэці саюз (коаліцію) проціў Францыі, ў які увайшлі Аўстрыя і Расія (Александр I). Падтрыманы паўднёва-нямецкімі князямі Напалеон хутка надышоў і разьбіў галоўныя сілы Аўстрыі і Расіі ў вялікай бітве пад Аўстэрліцам у Маравіі (**1805**). Аўстрыя прымушана была адмовіцца ад усіх земляў ў Італіі і Нямеччыне. Але ў той жа час флот Напалеона разам з гішпанскім быў зьнішчаны Нэльсонам каля берагоў Гішпаніі (пры Трафальгары), і Англія была выратавана ад высадкі. Пераможца Нэльсон быў ў часе бойкі забіты. Хутка, ад нэрвовага напружаньня, памёр другі праціўнік Напалеона—Пітт, які стварыў коаліцію проціў Францыі.

У наступным (**1806**) годзе Напалеон меў новыя ўдачы на сухапуцьці. Прусія да гэтага часу годзілася з усімі французскімі заваяваньнямі і нават мела з іх карысьць. Але калі Напалеон пачаў распараджацца землямі, якія ён перш абяцаў

Прусіі, то яна абвесьціла вайну Францыі. Яе чакала скорая і поўная катастрофа. Напалеон вельмі хутка прайшоў праз паўдзённую Нямеччыну і разьбіў прускую армію пры Іене. Пасьля гэтага здаліся адна за аднэй ўсе крэпасьці па дарозе да сталіцы, і праз два тыдні Напалеон быў ўжо ў Бэрліне. Праслаўленая вайсковая сіла Прусіі аказалася толькі мітам, ня было і ценю тэй энэргіі, дысцыпліны і выучкі, якія лічыліся бязумоўнымі ў дзяржаве Фрыдрыха II. Прасьледуючы ўцякаючую каралеўскую сямью, Напалеон увайшоў ў землі, якія гадоў 10—13 таму былі далучаны па разьдзелах Польшчы, і абвесьціў незалежнасьць Польшчы. Баючыся за свае польскія землі, Александр I вырушыў на абарону Прусіі і другі раз пачалася барацьба Расіі з Напалеонам, але ў гэтай усходна—прускай вайне Расіі не пашчасьціла. Напалеон стварыў гэрцагства Варшаўскае і перадаў яго саксонскаму курфюрсту, які прыняў каралеўскі тытул. Прусія павінна была выплаціць вялікую кантрыбуцію, зрабіць вялікія дастачы; скараціць сваю армію да 40000; яна стала цяпер дзяржавай трэцяга парадку, як Баварыя або Саксонія.

Крыху раней і пазьней Напалеон распарадзіўся яшчэ шмат якімі тёрыторыямі. Рэспублікі, створаныя Дырэкторыяй, былі ператвораны ў каралеўствы і раздадзены напалеонідам: Батаўская стала каралеўствам Галандзіяй; ў паўночнай Італіі віцэ-каралём быў пасаджаны пасынак Напалеона. З быўшых прускіх прырэйнскіх земляў стварылі каралеўства Вэстфальскае для брата імпэратара; Напалеон паставіў яго на чале рэшты нямецкіх князёў, якія склалі Рэйнскі саюз. Бурбонаў з Нэапаля Напалеон выдаліў абвесьціўшы, што „яны перасталі панаваць“, і пасадзіў там свайго зяця Мюрата, сына карчмара. Такой-жа заявай ён пазбавіў папежа сьвецкай ўлады і зьмясьціў дынастыю ў Партугаліі. Ўрэшце, ён прымусіў адрачыся ад пасаду свайго вернага саюзьніка, караля гішпанскага, і замяніў яго сваім братам.

У гэтых захопленых землях адбываліся сталыя зьмены. Так, Напалеон узяў ў сваё асабістае кіравецтва Галандзію і долучыў да Францыі паўночную Нямеччыну да заходнага кута Балтыцкага мора, а такжа паўночна-заходную Італію. Францыя далёка вышла за свае прыродныя межы, яна выцягнулася двумя языкамі ўздоўж абадвых мораў, якія абмываюць сярэднюю Эўропу; панаваньне яе, калі прыняць пад увагу



напалеанідаў і нямецкіх князёў, дахадзіла да Эльбы і Дуная, куды былі адціснуты аслабленыя і зьменшаныя Аўстрыя і Прусія; апрача таго, як перадавая варта Напалеонскай імпэрыі, было на Вісьле гэрцагства Варшаўскае. Толькі з Англіяй Напалеон ня мог справіцца. Бязсільны проціў яе на моры, Напалеон пастанавіў здушыць яе таргоўлю ў самой Эўропе, дзеля гэтага ён правёў у Францыі і прымусіў усіх сваіх васалаў прыняць кантынэнтальную сыстэму, г. зн. забарону купляць якія колечы тавары, каторыя прывозіліся на англійскіх караблях.

У часе рэвалюціі Францыі прышлося першы раз у Эўропе падняць народную вайну: проціў наёмных войскаў кааліціі **1893** г. біліся французскія дабрахотнікі і апалчэнцы, прызваныя з усіх клясаў на абарону бацькаўшчыны. Наступныя войны рэспублікі былі ўжо, праўда, заваёўніцкія, але жаўнераў ўсё-ж прызывалі масамі з усіх станаў і апрацавалі сыстэму агульнай вайсковай павіннасьці. Напалеон выкарыстаў гэту сыстэму ў стварэньні сваей Вялікай арміі, якая служыла яму ў безперарыўных паходах для расшырэньня імпэрыі; ён вымагаў такжа вялікіх успаможных дружын з падуладных дзяржаваў і ад васалаў—галандцаў, немцаў, італьянцаў, палякаў. Напалеон выкарыстаў яшчэ адну рысу, якая асталася ў арміі ад рэвалюціі: ў ёй ня было клясавай рожніцы, ня было палачнай дысцыпліны, яна была дэмакратызавана, людзі вышэйшых клясаў пачыналі службу з ніжэйшых пасадаў, простыя жаўнеры маглі спадзявацца на ўсякія павышэньні. Рэспубліканскі настрой з бегам часу уступіў мейсца паняцьцю аб вайсковым гонары, сазнаньню славы непабеднага народу. Напалеон спрытна падхапіў гэты настрой, ахрысьціў Францію імям „вялікай націі“, падтрымліваў імкненьне да славы сваіх жаўнераў і афіцэраў, шчодра раздаваў вайсковыя даходы, некаторыя дайшлі да каралеўскага тытула.

Проціў Напалеона ваявалі не народы, а двары, якія апіраліся на старую сыстэму кіравецтва, на прывілейныя клясы, на арміі, якія на палову складаліся с прыгоньнікаў. У той час, калі французская буржуазія была с **1789** г. галоўнай чыннай сілай націі, якая імкнулася наперад, прускае бюргерства спатыкала заваёўніка без нянавісьці, роўнадушна, а сяляне, можа, нат з затаянай радасьцю, асабліва калі ў атабраных ад Прусіі польскіх частках Варшаўскага гэрцагства

Напалеон асвабадзіў сялан ад прыгону. Гэта вялікая рожніца на карысьць Францыі, аднак, павінна была шчэзнуць пад уплывам агульнай вайны: вайна ўсюды прысьпяшала правядзеньне зьменаў, падобных адчасьці да рэвалюцыі францускага грамадзянства.

## Рэформы ў Прусіі.

На самперш адбыліся зьмены ў Прусіі. У той час, як набліжалася катастрофа дзяржавы, сярод самых урадоўцаў зьявіліся прыхільнікі рэформаў: Гардэнбэрг, Вільгэльм Гумбольт віталі францускую рэвалюцыю, ў якой яны бачылі „асвабаджэньне асобы“; аснаўное пераканаyньне іх было ў тым, што „кожды грамадзянін лягчэй сам знайдзе свой асабісты інтэрас, чым гэта можа яму загадаць урад“. З гэтага вынікала, што трэба пакінуць сыстэму апекі, і ўмешваньніся ўраду ва ўсе драбніцы жыцьця; павінны быць зьнішчаны рамкі паміж клясамі, зьнішчаны прывілеі, адменена „ганебная пляма“—прыгон, і грамадзянству трэба пакінуць самадзельнасьць. Недалёкі, заўсёды хістаючыся, павольны кароль Фрыдрых-Вільгэльм III (1797-1840), даведзены да скрайнасьці ўпадкам Прусіі, паміма волі замяніў сваіх старых райцаў людзьмі больш рашучымі, якія дамагаліся вялікіх рэформаў, каб „узрадзіць грамадзкі дух“.

На чале спраў „быў пастаўлены вораг рэвалюцыі, Штэйн. Ён паходзіў з імпэрскіх рыцараў, быў праціўнікам роўнасьці ў францускім разуменьні і трымаўся старадаўных паглядаў. Аднак, пачынаючы барацьбу проціў новага Цэзара, Штэйн думаў выкарыстаць сродкі рэвалюцыі для падняцьця народнага настрою і заваяваньня незалежнасьці. Праз колькі дзён пасьля ўступленьня ў міністэрства, Штэйн падпісаў ужо гатовы праект рэформаў, якімі думалі падняць патрыятызм у грамадзянстве. Гэты эдыкт 9 кастрычніка 1807 г. адмяніў клясавыя прывілелі устанавіў свабодны пераход зямлі і дазволіў бюргерам і сялянам купляць шляхоцкія двары; пасьля ён адмяніў асабістую залежнасьць сяляніна ад пана, г. зн. даваў ім права пакідаць земляробства і шукаць сабе занятку. Работы і павіннасьці памешчычых сялян асталіся ў поўнай сіле. Далей Штэйн пасуліў рэформу кіравецтва гарадоў і вакаліць. Напалеон, думаючы, што Штэйн староньнік адпадзеньня Прусіі, запатрабаваў яго адстаўкі.



Наступнік Штэйна Гардэнбэрг адмяніў цэхі, якія сьцясьнялі свабодную дзейнасьць прамыслоўцаў, і ўвеў падаткі, аднолькавыя для ўсіх станаў. Два разы склікалі ў яго міністэрства „народных прадстаўнікаў“, г. зн. нямногіх дэпутатаў ад правінціяў, пры чым шляхта мела поўную перавагу над бюргерамі. У 1812 г. дэпутаты аднагалосна запатрабавалі ўвядзеньня канстытуцыі; але на іх заяву ўрад адповедзі ня даў. Уладны і фанабэрысты, калі справа йшла аб палітычных дамаганьнях, Гардэнбэрг, наадварот, саўсім уступаў юнкерству ў яго клясавых пажаданьнях.

У міністэрстве Гардэнбэрга былі староннікі асвабаджэньня сялян з надзеламі зямлёй за выкуп. Але памешчыкі саўсім не хацелі падобнай рэформы. У сабраньні дэпутатаў зьмянілі праект ўраду, і Гардэнбэрг быў у гэтым здарэньні такі слабы, што згадзіўся з усімі вымогамі юнкерства. Па эдыкту 1811 г. аб рэгуляваньні выкуп дапушчаўся толькі пры ўзаемным жаданьні памешчыка і селяніна, але ня быў абавязковым, як сьпярша было ў праекце. Сяляне повінны былі выкупаць паншчыну зямлёй, а не грашамі, пры чым ўласьнікі павінны былі аддаваць $1/3$ часьць сваей зямлі, а дажывотныя і тэрміновыя арандары—$1/2$. Такім чынам староньнікі вызваленскіх рэформаў пачатку XIX ст. ўступілі ў самым важным пытаньні, ў якім не паддавалася нават абсалютная манархія, якая аберагала сялянскую зямлю ад пераxода яе ў рукі рыцараў.

Але і гэта яшчэ было ня усё. Шляхта дамагалася поўнай адмены „абароны сялян“, якую ўвёў Фрыдрых II. Дзеля наступіўшай вызваленчай вайны 1813 г., справы выкупа прышлося пакінуць. Калі вайна скончылася, ў 1815 годзе, множства сялянскіх сяліб аказаліся закінутымі і разбуранымі. Памешчыкі дамагліся, каб па закону 1816 года ім было дазволена забіраць усе сялянскія землі, ўладары каторых былі прымушаны хоць на нейкі час пакінуць свае сялібы. На моцы таго-ж закону 1816 г., выкуп быў вельмі абмежаны. Памешчыкі згодзіліся толькі на адмену павіннасьцяў панарадных, якія нясьлі больш заможныя сяляне, тыя, што мелі коні; паншчына рэшты, бядьнейшых, сялян адменена ня была, і яны не маглі выкупіцца; у гэтых сялянах памешчыкі захавалі прыгонных парабкоў.

## Нацыянальны рух ў Эўропе.

Заваяваньні Напалеона выклікалі ў жыхарстве розных краін Эўропы адпор нацыянальнага пачуцьця. У Прусіі галоўным асяродкам патрыятычных настрояў стаўся новастворыны (1810 г.) Бэрлінскі унівэрсытэт. У ліку яго прафэсароў быў філёзаф Фіхтэ, былышы ў свой час касмапалітам і паклоньнікам француcкай рэвалюцыі. Пад ўражаньнем заваяваньня ён друкуе „Прамовы да нямецкага народу“, якія прасочаны варожасьцю да чужынцаў і іх культуры. Фіхтэ са злосьцю накідваецца на філязофію XVIII ст.; ў ёй адбіваецца „бяздушная“ прасьвета французаў і іншых раманскіх народаў. Грамадзянства развальваецца і гіне ад маральнай сапсаванасьці. Ратунак усяму сьвету прынясе парод-цаліна, немцы, якія маюць ў сабе ідэі вялікай маральнасьці. Толькі немцы маюць мову па праўдзе жывую, якая пранікае да глыбіны душы.

У гэтым-жа часе на другім канцы напалеонскай імпэрыі, на Пірэнэйскім поўвостраве, ўжо падымаўся адпор. У Партугаліі і Гішпаніі ніколі ня было поўнага послуху Напалеону: ў горных мяйсцовасьцях гуртаваліся партызаны і вялі дробную вайну проціў асобных частак францускай арміі. Гэта народнае паўстаньне сталі падтрымліваць англічане і ў год пахода Напалеона ў Расію (1812 г.) англійскі галоўнакамандуючы Ўэлінгтон, атрымаў некалькі важных удачаў і стаў выцясьняць французаў с поўвострава. У Кадыксе, ў паўднёва-заходняй часьці Гішпаніі, сабраліся народныя прадстаўнікі і апрацавалі канстытуцыю, якую думалі ўвясьці пасьля таго, як выганяць французаў.

## Падзеньне імпэрыі Напалеона I.

Адначасна з гэтым імпэрыя пачынае, хістацца і ў самой Францыі. Вышэйшыя і сярэднія клясы, якія віталі Банапарта ў 1799 г., як закладчыка парадку і спакою, пачынаюць адносіцца варожа да імпэрыі, дзеля яе безперарыўнай ваяўнічай палітыкі. У народзе яшчэ ня чутно простага пратэсту, але ўсё расьце нездаволеньне са сталых, жорсткіх прызываў, якіх вымагаюць войны; множства людзей ўцякае ў горы ды лясы; ўраду прыходзіцца пасылаць аблавы і ладзіць вайсковыя экспэдыцыі ўнутры Францыі, каб набіраць жаўнераў.



С 1812 году пачынаецца аканчальны вайсковы развал імпэрыі. Напалеон быў нездаволены тым, што Аляксандр дрэнна праводзіць кантынэнтальную сыстэму проціў Англіі; расійскі-ж імпэратар быў ў свой чарод нездаволены істнаваньнем гэрцагства Варшаўскага, якое пагражала ўзнавіць быўшую Польшчу. Напалеон хацеў паканаць апошнюю на кантынэнце Эўропы дзяржаву, якая яшчэ яму не паддалася; за паходам на Маскву ён думаў аб далейшым руху на ўсход для адваяваньня ад англічанаў азіяцкіх калёніяў. Былі зроблены вялікія прыгатаўленьні, з усіх падуладных краін сабралі армію звыш поўміліёна чалавек. Пасьля бітвы пад Барадзіным Напалеон заняў Маскву, але ўсюды ён сустрачаў апусташэньні. Наступленьне зімы прымусіла Напалеона выйсьці з Масквы на поўдзень; але расійская армія адціснула яго на старую зруйнаваную дарогу, і адход французаў хутка стаўся безпарадачнай уцечкай. Каля польскай мяжы Напалеон кінуў астаткі Вялікай арміі і пасьпяшыў у Францыю, каб набраць і зарганізаваць новае войска для адпору пагражаўшай цяпер яму кааліціі.

Эўрапэйская вайна наступных двох гадоў 1813—1814 не падобна да папярэдніх войнаў з рэспублікай і імпэрыяй. Гаспадары павінны былі зьвяртацца да тэй самай народнай сілы, якую яны стараліся перамагчы ў францускай рэвалюцыі. Злучыўшыся з Аляксандрам I, Фрыдрых-Вільгэльм III абвесьціў „Прызыў да народу“, ў якім гаварыў, што народы маюць права на азначаньне сваей долі.

Усе зразумелі яго ня толькі як покліч да барацьбы з чужаземным панаваньнем, але і як абяцаньне даць народу свабодныя прадстаўнічыя ўстановы.

У паўстаньні проціў Францускай імпэрыі была, аднак, яшчэ саўсім іншая рыса. Галоўною ролю ў патрыятычным руху Прусіі гралі юнкеры. Разьбітыя ў 1806 годзе, яны сабралі ў 1813 годзе новыя сілы і выкарысталі практыку рэвалюцыі, асабліва трапіла ім да перакананьня агульная вайсковая павіннасьць,якую ўвёў у Францыі Канвэнт. Пруская шляхта пасьля развалу Вялікай арміі Напалеона, пачала працаваць самастойна, цягнучы за сабой караля, блізка таго, што насільна. Не чакаючы дазволу з Бэрліна, шляхта зьяжджаецца на ландтаг у Кэнігсбэргу і пастанаўляе прызваць л а н д в э р

(народнае азброеньне). Наборам азбройнікаў ўсюды кіруе шляхта; ў афіцэры яны дапушчаюць толькі людзей свайго стану. У гэты-ж час яны дамагліся вельмі карысных для сябе варункаў у сялянскай рэформе (саўпадзеньне: вайна **1813—1815** г.г.; рэформа **1811—1816** г.г.). Гэткім чынам тыя самыя клясы, каторых рэвалюцыя ў Францыі пазбавіла зямлі і ўплываў, у Прусіі паднімаюцца проціў дэмакратычных зьменаў, карыстаючыся, аднак, спосабамі, створанымі рэвалюцыяй.

Ворагамі Напалеона ў пачатку **1813** г. былі — Расія, Прусія і Англія; большасьць нямецкіх князёў асталіся па старане Напалеона, каторы пасьпеў сабраць новую армію і сам напаў на саюзьнікаў. Становішча яго стала вельмі цяжкім, калі да кааліцыі далучылася Аўстрыя. У трохдзеннай бойцы пад Лейпцыгам (ў кастрычніку **1813** г.) Напалеон быў разьбіты і адступіў за Рэйн. Нямецкія князі адсталі ад яго, але далучыліся да саюзу (кааліцыі) толькі пад варункам, што за імі будуць прызнаны ўсе здобычы, якія яны атрымалі пры помачы Напалеона.

У наступным **1814** г., расійскія прускія і аўстрыйскія войскі ўступілі з ўсходу ў Францыю, у той час. калі з-за Пірэнэяў пасуваўся Ўэлінгтон. Францыя была лішне аслаблена, каб бараніцца, як у **1793** г.: войска Напалеона складалася па большай часьці з саўсім маладых людзей. Злучаныя арміі расчысьцілі сабе дарогу і ўзялі Парыж, між тым як Напалеон падпісаў сваё адрачэньне. Саюзьнікі пастанавілі зрабіць яго князям невялікага вострава Эльбы, а ў Францыі, якая павінна была скараціцца да межаў **1792** г., узнавіць дынасьцію Бурбонаў (Людвіг XVIII) с тым, каб яна дала дзяржаве канстытуцыю. Для вырэшаньня іншых спраў, якія датычылі распадзелу эўрапэйскіх тэрыторыяў, звароту выгнаных гаспадароў і ўнутранага ладу дзяржаваў, каторыя былі захоплены рэвалюцыяй і вайной, гаспадары-саюзьнікі склікалі Венскі кангрэс.

Яшчэ перш, чым кангрэс пасьпеў прыняць пастановы, ў Францыі адбылося ўзноўленьне напалеонскай імпэрыі. Гэта было, па праўдзе кажучы, паўстаньне арміі проціў парадкаў, якія прынясьлі Бурбоны і вярнуўшыяся з імі эмігранты. Напалеон скарыстаўся вайсковай рэвалюцыяй і высядзіўся на поўдні Францыі (вясной **1815** г.). Бурбоны ўцяклі, Напалеон



зноў вярнуўся ў Парыж, але на гэты раз ён быў ўжо прымушаны зблізіцца са старонькамі палітычнай свабоды і абяцаць канстытуцыю, якая моцна абмяжоўвала яго ўладу. У Бэльгіі зьбіраліся англійскія і прускія войскі (Уэлінгтон і Блюхэр). Напалеон пайшоў проціў іх, ня змог іх разлучыць і быў разьбіты іхнымі злучанымі сіламі пры Ватэрлоо. Пасьля гэтых „Ста дзён“ ён спрабаваў ўцячы ў Амэрыку, але яго злавілі англічаны і са згоды саюзьнікаў адправілі на востраў сьв. Галены ў паўдзённай часьці Атлянтыцкага акіяну, дзе і быў ён ў англійскім палоне 6 гадоў ажно да сьмерці (**1821** г.).

Саюзьнікі зноў увайшлі ў Парыж і зноў пасадзілі на пасад Бурбонаў. Францыя павінна была заплаціць кантрыбуцыю, а для абаспечаньня яе ў працягу 5 гадоў трымаць на сваей тэрыторыі 150.000 войска саюзьнікаў. Венскі кангрэс прадаўжаў сваю працу. У яго пастановах так-жа, як у здарэньнях наступных 10—15 гадоў, адбіліся настроі, выкліканыя самой рэвалюцыяй і барацьбой з ею.

Інтэрэсы тых ўладароў, якія былі скінуты або зачэплены рэвалюцыяй, злучыліся ў р э а к ц ы ю, г. зн. ў імкненьне вярнуць старадаўшчыну і расправіцца з бунтарнай дэмакрацыяй.

---

## IV.

## Агульнаэўрапэйская рэакцыя.

### Рэакцыйныя навукі і лібэралізм.

Да рэвалюцыі 1789 году нідзе ў літаратуры нельга было знайсьці простых нападак на рэлігійныя і палітычныя ідэі прасьветы. І вышэйшыя клясы, і гаспадары адносіліся да іх роўнадушна або нават спачувалі ім, лічучы іх утапічнымі, адвалочнымі і вельмі далёкімі да зьдзейсьненьня. Саўсім інакш сталі да іх аднасіцца, калі ў Францыі паднялася рэвалюцыя, а ідэі асвабаджэньня сталі распашырацца ў другіх краінах Эўропы. Усе, каго толькі зачапіў пераварот, сталі гаварыць аб разбураючым, труцячым уплыве тых самых прынцыпаў, аб якіх раней ахвотна гаварылі ў салёнах і літаратуры. Да простых ворагаў рэвалюцыі, якімі былі французскія эмігранты,

дробныя ўладары Нямеччыны пазбаўленыя ўлады, вышэйшае каталіцкае духавенства і г. д., пачалі далучацца ўчасьнікі рэвалюцыі, прыкл., значная часьць буржуазіі, каторую зачапіў лішне бурны характар пераварату. У паняцьцях усіх гэтых раздражненых, збітых з мейсца і становішча, напужаных або расчараваных людзей адбываюцца значныя зьмены. Яны пачынаюць выхваляць мінуўшы час, клясьці „зімны“ розум, які піхнуў на перамены, і проціўставіць яму безпасярэднае пачуцьцё, веру.

Першае мейсца сярод французскіх пісьменьнікаў, варожых рэвалюцыі, займае Жозэф дэ Мэстр, эмігрант с Пьемонта, які даволі доўга жыў ў Пецярбургу. У сваіх „Думках аб французскай рэвалюцыі“ дэ Мэстр высьмеівае „Створаныя“ францускія канстытуціі. Толькі тая канстытуцыя моцная, якая вырасла як дрэва, якая зьяўляецца творам прыроды, а між тым прыродны парадак зьмяшчае ў сабе няроўнасьць, панаваньне адных над другімі; дармо абвяшчаць свабоду тых людзей, якія радзіліся нявольнікамі і створаны быць імі. Аснова моцнага ладу грамадзянства —рэлігія; але рэлігія ня ёсьць справай сумленьня кождага паасобнага чалавека, гэта—грозны агульны закон. У творы „Аб папежы“ дэ Мэстр даводзіць, што на зямлі павінен быць вышэйшы безапэляцыйны аўтарытэт, які-б мог сказаць людзям: „вы памыляецеся“. Для людзей патрэбна не свабода, а срогія, жорсткія стрымкі, аковы, кары; дзеля гэтага дэ Мэстр праслаўляе інквізыцыю.

Галлер, выгнаны швайцарскімі дэмакратамі патрыцы старой бэрнскай сямьі, ў кнізе „Рэстаўрацыя дзяржўнай навукі“, паўстае проціў роўнасьці і свабоды асобы, таму што гэта выдумкі прасьветнікаў XVIII ст., а ён хоча ўзнавіць „чэсьць бога і прыроды“. На зямлі істнуе толькі права сільнага, а з яго выплывае права прыватнай ўласнасьці. Гаспадар ўладае дзяржавай, як памешчык сваім дваром; ён свабодны ад усякіх абавязкаў. Зьверхніцтва народу ня мае ніякага сэнсу, дзеля таго што народ, як суцэльнае, істнуе толькі тады, калі яго паклічуць выслухаць загад.

Ідэалам для рэакцыянераў было Сярэднявечча, па іх азначаньню,—эпоха веры, ваяўнічага рыцарства, падуладнасьці рабочай клясы, моцнага патрыархальнага ладу. Проціў вымаганьняў розуму яны высувалі гістарычныя правы, г.



зн. тоя, што асьвячана даўнасьцю: такім зьяўляюцца правы дынастыяў на спадчынную і неабмежаную ўладу, права ўласьнікаў на даход з зямлі і на прыгон, прывілеі станаў, выключныя правы старадаўных карпарацыяў.

У разважаньнях іх праціўнікаў, лібэралаў (гэта назова першы раз зьявілася ў часе гішпанскага паўстаньня 1812 г.) былі рысы новыя ў параўнаньні з XVIII ст. Прасьветнікі XVIII ст. гаварылі аб правох чалавека і чалавецтва, былі касмапалітамі. У рэвалюцыйнай Франціі і ў барацьбе эўрапэйскага грамадзянства проціў напалеонскага панаваньня яскрава выступілі сілы паасобных націяў. Стала ясным, што паасобныя людзі могуць дайсьці свабоды толькі пры сумесных высілках тых, хто падзяляе з імі аднолькавыя пачуцьці і паняцьці, гавораць аднэй мовай. Так узьнікала чужая для XVIII ст. нацыянальная ідэя. Лібэралы і дэма-




Рыс. 4.—Шлях Напалеона ў войне з Расіяй 1812 г. 1—Наступ (Коўна, Вільня, Сьвенцяны, Лепэль, Вітэбск, Красны, Смаленск, Барадзіно, Мажайск, Масква). II—зварот (Масква, Бароўск, Мажайск, Барадзіно, Смаленск, Красны, Барысаў, Вільня, Коўна).

краты робяцца нацыяналістамі, асабліва ў раздробненых краінах, як нямеччына і Італія. Лібэралы так-жа, як рэакцыянеры, хацелі свае дамаганьні апраўдаць гісторыяй. Лібэральныя гісторыкі даводзілі, што праўдзівую свабоду мелі немцы (гэрманцы) ў лясох, ў тыя часы, калі аб іх пісаў Тацыт; дзеля свабоды біліся непераможныя гараджаны сярэднявечных камун.

Абедзьве праціўныя староны ідэалізавалі старадаўшчыну, аддаваліся рамантызму, але кождая па-свойму: быў рамантызм рэакцыйны і лібэральны.

## Пастановы Венскага кангрэсу і ўзноўленьне абсалютызму.

У барацьбе Эўропы праціў Напалеона прымалі ўдзел вельмі рожнародныя сілы. Эмігранты 1789 г., выгнаныя ўладары і дынасьція піхалі эўрапэйскіх гаспадароў да вайны, яны ішлі за арміямі і зьявіліся пасьля на вялікім эўрапэйскім кангрэсе, каб прыпомніць аб сваіх правох. Але ў той жа час народныя масы падняліся ў Нямеччыне, Італіі і Гішпаніі, чакаючы палітычнага асвабаджэньня. Старыя кіраўнікі эўрапэйскай палітыкі, манархіі, былі цяпер ў клопаце, калі паўстала пытаньне аб узноўленьні парадку пасьля вялікага развалу. Яны павінны былі выпаўніць свае абяцанкі, якія яны далі сваім народам, але з другога боку баяліся нанова прабуджанай народнай сілы, каторая пагражала абмежыць іх ўладу; яны хацелі устанаўленьня старадаўных правоў, стаялі за легітымізм, але яны-ж і самі прымалі ўчасьніцтва ў падзелах, якія былі ў часе вайны, яны-ж пазахоплівалі землі сагнаных ўладароў і аддаваць іх не хацелі.

У рабоце Венскага кангрэсу, на якім была большасьць эўрапэйскіх гаспадароў і дыплёматы ўсіх краін, і выявілася гэта супярэчнасьць. Алехсандр I, выгадаваны рэспубліканцам Лагарпам, ў маладасьці прыхільнік францускай рэвалюцііі, цяпер лічыў сябе назначаным самой доляй, каб перамагчы злога генія, Напалеона, але ў ім захаваліся яшчэ некаторыя рысы яго папярэдняга лібэралізму: ён дамогся таго, што вернутыя ў Францію Бурбоны далі краю конституцію (па Хартыі 1814 г.), і сам у перайшоўшым да яго Варшаўскім гэрцагстве абяцаў ўвесьці канстытуцію. Дробныя ўладары поўдня Нямеччыны (каралі баварскі і вюртэмбэрскі, вялікі гэрцаг бадэнскі) захавалі свае ўладаньні такжа пад варункам, што ўвядуць у сябе канстытуціі.

Але гэты зьмены распашыраліся на меншую частку Эўропы. Пры падзеле здобычы кожды з саюзьнікаў сачыў за тым, каб ня даць іншым лішне ўсіліцца; сільныя дзяржавы, Расія, Аўстрыя, Прусія, Англія, а такжа Францыя, каторую саюзьнікі прынялі ў свой круг, пачалі дзеля гэтага сачыць за палітычнай раўнавагай. Пры гэтым па большай часьці выбіралі шлях, які пярэчыў нацыянальным інтэрасам. Польшчу пакінулі разьдзеленай паміж трымя дзяржавамі: Пазнань



вярнулі Прусіі; рэшту Варшаўскага гэрцагства, пад назовам царства Польскага, атрымаў Александр I. Бэльгію насільна злучылі з Галандзіяй ў Нідэрляндзкае гаспадарства с перадачай ўлады ў рукі Арлеанскай фаміліі. У Італіі вярнулі дынастыі, але зьнішчаныя старыя рэспублікі не ўзнавілі: Гэную аддалі Сардынскаму каралю, які вярнуў сабе Пьемонт, Савою і Ніцу; паўночна-ўсходнія ваколіцы (Ламбарда-Вэнэцыянскае каралеўства) аддалі Аўстрыі, якая такім чынам атрымала значную перавагу на поўвостраве.

У Нямеччыне прызналі ўсіх ўладароў Рэйнскага саюзу з іх здобычамі коштам прагнаных князёў, духоўных ўладароў і вольных гарадоў (38 адзінак замест быўшых 360) і захавалі, праўда ў меншай меры, яе раздрабненьне. Па тыпу Рэйнскага саюза цяпер быў створаны Саюз Нямецкі апрача дробных ўладаньняў, ў яго ўвайшлі Прусія і Аустрыя сваімі заходнімі землямі: на саюзны сойм у Франкфурце на Майне павінны былі зьяўляцца ўраднікі, ўпоўнаважаныя ўсіх нямецкіх урадаў пры перавазе галасоў Аўстрыі і Прусіі. Сама складзеная з рожных народнасьцяў, баючыся праяўленьня імі самабытнасьці, Аўстрыя стала ў Эўропе абаронцай нярухавага ладу, галоўным ворагам усякіх нацыянальных рухаў. Яе першы міністр, князь Мэтэрніх, які кіраваў замежнымі справамі да 1848 г., за аснову сваей палітыкі ставіў спраціўленьне ўсякім новым рухам.

Гэткім паглядам саўсім адпавядаў задуманы Александрам I Сьвятарны саюз. Расійскі імпэратар ўсё больш і больш меў нахіл да рэлігійнасьці. Пад уплывам абкружаўшых яго містыкаў ён спадзяваўся знайсьці ў хрысьціянстве аснову для падтрыманьня парадку ў Эўропе і для спыненьня паміжнародных войнаў. Ён сам склаў акт Сьвятарнага саюзу ў якім ставілася гаспадарам як абвязак па брацку дапамагаць адзін аднаму, а такжа па бацькаўску кіраваць сваімі падданымі. У саюз увайшлі: Расія, Аўстрыя, Прусія і Францыя; Англія адмовілася ад учасьніцтва, паклікаючыся на свой парлямантарны лад. Тры першыя дзяржавы асобнай сакрэтнай ўмовай пастанавілі праз сталы час склікаць агульна эўрапэйскія кангрэсы для захаваньня міру.

Першы такі кангрэс быў скліканы праз тры гады пасьля Венскага (1818 г.) у Ахэне. Справа йшла аб выхадзе саюз-

ных войскаў з Францыі. Мэтэрніх намовіў Александра I, Фрыдрыха-Вільгельма III і аўстрыйскага імпэратара Францішка II даць абяцаньне задушыць у Францыі рэвалюцыю, калі-б яна там зноў ўспыхнула. Гэты настрой ўрадаў Мэтэрніх выкарыстаў для сваей галоўнай мэты—зьнішчэньня лібэралізма ў Нямеччыне.

## Рэакцыя ў Нямеччыне.

Барацьба проціў чужаземцаў, французаў, разам з рэлігійным настроем, стварыла асобны ідэал нямецка-хрысьціянскіх абычаяў. Староньнікі гэтых абычаяў ма́рылі аб узноўленьні старадаўнага гэрманскага жыцьця, магутных характарах і фізычнай сіле злучаных з багабойнасьцю; і праўда, яны займаліся гімнастыкай, насілі доўгія нястрыжаныя валасы і вопратку з грубой матэрыі з аткрытым каўняром. Паняцьце аб чыста-гэрманскім ліхарстве выразілася ў стварэньні сярод студэнтаў агульнанямецкай д р у ж ы н ы б у р ш а ў. Яна павінна была служыць, галоўным чынам, для разьвіцьця нацыянальнага пачуцьця. Яе асяродкам быў унівэрсітэт у г. Іене, які знаходзіўся ў невялікім Саксэн-Вэймарскім гэрцагстве, дзе асьвечаны князь, дабрачынца і апякун Гэрдэра, Гётэ і Шылера, першы ўвёў ў нямеччыне Канстытуцію і свабоду друку.

Існавалі сярод моладзі і палітычныя гурткі, так званыя „шэрыя“ і больш радыкальныя „чорныя“, але іх было ня шмат, і яны былі слабыя. Гэты гурткі імкнуліся зрабіць змову і вынішчыць усіх ворагаў еднасьці і свабоды Нямеччыны і апрацавалі праект канстытуціі ў рэспубліканскім духу. Але ў гэтай групы ня было ані азначанага пляну, ані грошы для таго каб хоць пачаць які колечы рух. Забойства дробнага нямецкага пісьменьніка, быушага радніка Александра I, і дэманстрацыі студэтаў у Вартбургу ў часе сьвята трохсотлецьця рэфармацыі **(1817 г.)** паслужылі для Мэттэрніха прычэпкай, каб сьцясьніць свабоду. Нямецкія ўладары згадзіліся ўвясьці ў сябе апрацаваныя ў К а р л с б а д з е пастановы: меліся распусьціць саюзы буршаў і ўвясьці цэнзуру для перагляду кождай выходзячай газэты і кніжкі **(1819 г.)**.

Кароль Фрыдрых-Вільгэльм III, які перад бойкай пры Ватэрлоо абяцаў „даць прускай нацыі асабным пісаным актам канстытуцію“, і ня думаў склікаць парлямант. Усё кіравецтва аста-



лося ў руках урадоўцаў. У асобе Гэгеля (Hegel) бэрлінскі ўрад меў прафэсара філязофіі, які даваў поўнае апраўданьне існуючаму парадку.

Гэгэль **(1770—1831)**, як і яго прыяцель філязоф-паэт Шэллінг, былі ўраджэнцамі паўдзённай Нямэччыны і ў 90-х годах XVIII ст. былі вялікімі прыхільнікамі францускай рэвалюцыі Шэллінг пэратлумачыў на нямецкую мову марсэльезу. Гэгель садзіў дрэва свабоды ў Тубінгене і гаварыў якубінскія прамовы. Абадвы філязофы пасьля вялікай эўрапэйскай вайны аддаюцца




Рыс. 5.—Час Венскага Кангрэсу і рэакціі. I—Дзяржавы с канстытуціямі старымі, або ўведзенымі каля 1815 г. II. — Краіны, дзе ў 20-х гадох XIX ст. ўспыхнулі рэвалюціі.

рэакціі. Шэллінг бачыць ва ўсім матэрьяльным жыцьці адпадзеньне ад Бога і ставіць мэтай чалавека ачышчэньне ад грахоў і зла. Гэгель у „Філязофіі права“ нападае на рэвалюцыянэраў, якія разбурылі гаспадарства і замест яго ўчынілі давольны саюз паасобных людзей. Гаспадарства трэба чціць

як зямнога бога: паасобны чалавек мае ўсю цану, ўсё сваё духоўнае істнаваньне ад гаспадарства.

Навука Гэгеля мела, аднак, яшчэ адну рысу, ў якой ён астаўся прадаўжацелям прасьветы XVIII ст.: Гэгель высока ставіў розум чалавечы. Уся гісторыя культуры ў яго вачах ёсьць работа безперарыўна прасьвятляючайся думкі. Непарушных дагматаў быць ня можа; аналіз і крытыка ідуць неадступна, знаходзячы сілу ў самай істоце чалавецкай душы. Усесьветная гісторыя ёсьць разьвіцьцё ідэі свабоды.

## Рэвалюція ў Гішпаніі.

Больш бурны характар меў рух на поўдні Эўропы. Гішпанія дажыла да XIX ст. з установамі, якія заснаваліся дзякуючы каталіцкай рэакціі XVI ст. У ёй было ўсесільнае духавенства, якое мела вялізныя абшары зямлі і множства манастыроў. Манастыры падаткаў не плацілі, трымалі ў сваіх руках інквізыцію і цэнзуру усіх выданьняў. Становыя прадстаўнікі не зьбіраліся, і край быў пад кіравецтвам „камарыльлі“, г. зн. каралевы, каралеўскага духаўніка і якога колечы каралеўскага фаварыта. Толькі напад французаў першы раз ўскалыхнуў Гішпанію і вывяў яе з амярцьвеньня. Была скасавана інквізыція, заведзена роўнасьць усіх перад законам, ўсе станы аднолькава былі ападаткаваны. Патрыёты, якія не жадалі панаваньня чужаземцаў, у свой чарод павінны былі выказаць самадзельнасьць пры паўстаньнях: у паўстанскіх дружынах афіцэры прывыклі распараджацца незалежна.

Калі англічане пасьля пабеды над французкімі войскамі вярнулі у Гішпанію выгнанага бурбонскага караля Фэрдынанда VII, каля яго згуртаваліся староньнікі неабмежанай ўлады і панаваньня духавенства. Кароль абвесьціў што канстытуція **1812** г., апрацаваная ў Кадыксе (гл. стр. 44), ня мае ніякай сілы, загадаў арыштаваць павадыроў лібэралізму, і сам, ня чытаючы судовага вызнаньня, іх асудзіў на катаргу і ў манастыры. Ён ўзнавіў пасьля камарыльлю, інквізыцію, манастыры і прывілеі; вечарамі каралеўскія духоўнікі зьбіраліся і разам з ім укладалі загады аб арыштах. Але ўрад быў бязсільны што колечы зрабіць проціў паўстаўшых і аддзяліўшыхся калоніяў паўдзённай і асяродкавай Амэрыкі, Пэру і Мэксікі. У абарону палітычнай свабоды выступілі гурткі афіцэраў, каторыя аб'ядналіся ў масонскіх лёжах. Лёжы ўзьніклі ў Гішпаніі разам с прыходам французаў і англічанаў. У **1812** г. Рыего, начальнік невялікай вайсковай дружыны, якая знаходзілася каля Кадыкса і чакала адпраўкі ў Амэрыку, абвесьціў канстытуцію **1812** г. Ніхто не хацеў выступіць проціў паўстанцаў; напужаны кароль згадзіўся на ўсё, прысягнуў канстытуціі і прызваў да кіравецтва лібэралаў.



## Італьянская рэвалюція і асвабаджэньне грэкаў.

Гаспадары Сьвятарнага саюзу не захацелі ўвесьці ў Італіі нават такой зьвязі паасобных уладаньняў, якую яны дапусьцілі ў Нямеччыне. Аўстрыя дамаглася таго, каб вернутыя дынастыі ня ствaралі ў сябе установаў, якія не падобны да аўстрыйскіх, г. зн. каб ня было свабоды ані асабістай ані палітычнай. Сардынскі кароль адмяніў верaзносьлівасьць, даручыў цэнзуру кніг духавенству, вярнуў атабраную ад цэркві маемасьць, устанавіў сьмяротную кару за сьвятакрадзтва. Папеж адстраніў сьвецкіх урадоўцаў і для кіраваньня разьдзяліў край паміж кардыналамі; духоўная адміністрація адмяніла прышчэпку воспы і асьвятленьне рымскіх вуліц, таму што гэта ўвялі французы. Сільныя, калі справа йшла аб праследаваньні разрозьненых лібэралаў і нацыяналістаў, ўрады італьянскія нічога не маглі зрабіць, калі справа йшла аб падтрыманьні парадку: разбойнікі рабавалі ў папескай ваколіцы і ў самым Рыме, а ў Нэапалі кароль наняў на службу адну шайку для прасьледаваньня іншых. Асабліва цяжкое было становішча ў паўночна-ўсходняй аўстрыйскай Італіі; тутака італьянцаў адпіхнулі ад кіравецтва, адмянілі суд прысяжных; увялі вельмі срогую цэнзуру і таёмную паліцію, якая сачыла за поглядамі і праглядала прыватныя пісьмы.

У **1820** годзе, пад уплывам гішпанскай рэвалюціі у Італіі пачаўся рух. На ім адбілася чыннасьць таёмных таварыстваў к а р б а н а р а ў (вугальшчыкаў), якія заснавалі свае аддзелы і ў войску. У Нэапалі некалькі афіцэраў абвесьцілі папулярную на поўдні Эўропы канстытуцію **1812** г., і кароль згодзіўся яе прыняць. У сардынскім каралеўстве сталася тоя-ж самае, але апрача таго паўстанцы паднялі нацыянальны зялена-бела-чырвоны сьцяг і абвесьцілі ўзноўленьне італьянскага каралеўства ў межах, якія займае італьянскі народ.

Усе гэты рухі вельмі ўстрывожылі рэакцыйныя ўрады Эўропы. Аўстрыя, якая была ў Італіі безпасярэдна зачэплена, хацела аружна здушыць рэвалюцію. На скліканай зноў агульнай нарадзе у Тропаў (1820 г.), Англія заявіла, што яна стаіць толькі за непарушнасьць тэрыторыяў у Эўропе, але саўсім ня хоча ўмешвацца ва ўнутраныя справы іншых дзяржаваў. Мэтэрніху ўдалося ўгаварыць Александра I, што трэба выступіць проціў руху ў Італіі. Так і было пастаноўлена галасамі Аўстрыі, Прусіі і Расіі, Англія і Францыя былі проціў гэтага.

Пасланая ў Нэапаль аўстрыйская армія хутка разбіла неарганізаванае войска канстытуцыяналістаў, пасадзіла караля, які аддаўся Аўстрыі, і ўзнавіла яго неабмежаную ўладу; так-жа хутка Аўстрыя здушыла рух і ў Сардыніі: кароль, які згадзіўся прысягнуць канстытуціі, адрокся ад пасаду на карысьць свайго брата, а той ўвёў абсалютызм; дзеля таго, што у барацьбе проціў Аўстрыі прымалі ўдзел студэнты, то кароль закрыў абадвы сардынскія ўнівэрсітэты. Праз год агульна-эўрапэйскі кангрэс ў Вэроне (1822 г.) даручыў французам учыніць такую-ж экзэкуцію над Гішпаніяй: і тутка француская армія перайшла праз Пірэнэі і не сустрэла аружнага спраціўленьня; прайшоўшы праз увесь край да Кадыкса, яна дапамагла ўзнавіць абсалютызм (1823 г.).

У другой палове 20-х гадоў згода паміж рэакцыйнымі ўрадамі стала зьмяншацца. Англія, пры міністэрстве Канінга пачала зносіны з паўдзённа амэрыканскімі рэспублікамі і гэтым самым прызнала іх незалежнасьць ад Гішпаніі. На Балканскім поўвостраве эўрапэйскія дзяржавы самі дапамаглі паўстаньню проціў ўрадаў.

У XVIII ст. Атаманская імпэрыя (заснаваная туркамі), с прычыны войнаў з Расіяй і Аўстрыяй, пачынае развальвацца. Сярод падуладных ёй славянаў і грэкаў прабуджаецца імкненьне да незалежнасьці. Жыхары паўднёвых горных краін (Марэі і сярэдней Грэціі), бедныя і ваяўнічыя, апрача іх яшчэ і разбойнікі з вострываў Эгэйскага мора, якія наймаліся на турэцкую службу для ахраны морскай таргоўлі, сталі нападаць на земляўласьнікаў і ўрадоўцаў - мусульманаў. Каля 1820 г. пачалася жорсткая разьня паміж двумя рожнавернымі і рожнапляменнымі групамі жыхарства.



У Эўропе, сярод лібэральных кругоў, захопліваліся адраджэньнем слаўнай старадаўнай нацыі; пашана да антычнай культуры грэкаў злучылася са спачуцьцём да іх патомкаў, якія шукалі асвабаджэньня. Філэліны *) пасылалі грэкам дапамогі, да іх ехалі самахотнікі, паміж іншымі англійскі паэт Байрон. Мэтэрніх баяўся, што паўстаньне грэкаў можа выклікаць агульны рэвалюцыйны пажар у Эўропе і ўгаварыў Александра I ня прымаць грэцкіх дэлегатаў, якія зьвярнуліся да хрысьціянскіх дзяржаваў, каб ім памаглі. Туркі, якія мелі сталае войска і флот, сталі перамагаць паўстанцаў. Між тым Англія пастанавіла ўмяшацца з мэтай прымусіць туркаў даць грэкам асобную адміністрацію. Тады наступнік Александра, імпэратар Мікалай I, ня хочучы каб Англія грала першую ролю на Балканскім поўвостраве, заступіўся за грэкаў сам, а за ім і Францыя: злучаны флот трох дзяржаваў зьнішчыў пры Наварыне флот турэцкі (1827) і прымусіў іх згадзіцца на прызнаньне незалежнасьці паўдзённых грэкаў.

---

V.

## Англія ў першай палове XIX ст.

### Рэакція ў Англіі і палажэньне работніцкай клясы.

У Англіі, раней чым дзе-колечы ў Эўропе, пачаўся прамысловы пераварот, каторы высунуў новыя працоўныя клясы і ўпорчыва вымагаў свабоды абмену. Але калі француская рэвалюцыя выставіла ідэі народнага зьверхніцтва, грамадзкай роўнасьці і асабістай свабоды, вышэйшыя кіруючыя клясы Англіі аднясьліся да руху варожа. Арыстакрація, і без таго няпрыхільная да рэформаў, уступіла на шлях рэакціі. Устарэўшы дзяржаўны лад утрымаўся непарушаным яшчэ доўгія годы, да парляманцкай рэформы 1832 г.

Гэта затрымка саўпала с самым сільным развіцьцём прамысловага пераварату і найцяжэйшым палажэньнем работніцкай клясы ў Англіі. Работнікі былі атарваны ад зямлі і пастаўлены ў выключную залежнасьць ад найма і заработку ў вялікіх прадпрыемствах. Між тым самі прадпрыемствы кіраваліся

*) Філэліны—грэкафілы, прыхільнікі грэкаў.

патрэбнасьцю ў таварах на вялікіх, часта вельмі аддаленых рынках. Патрэбнасьць гэта часта вельмі хісталася, асабліва с прычыны войнаў, якія перашкаджалі таргоўлі: часта здараліся прамысловыя крызісы, г. зн. фабрыкі павінны былі скарачаць лік сваіх вырабаў або саўсім спыняць работу і распускаць множства работнікаў, якія саўсім бяднелі. Новая вялікая работніцкая кляса апрача таго была падпарадкавана устарэўшым і жорсткім законам аб працы часоў каралевы Альжбеты. Плату за работу устанаўлівалі ў паасобных мяйсцовасьцях міравыя судзьдзі, якія належылі да клясы вялікіх земляўласьнікаў і прамыслоўцаў. Звычайна фабрыканты і земляўласнікі маглі абыйсьці, пры найме работнікаў і параб-каў, і гэты ужо вельмі нізкія цэны: яны заяўлялі, што хочуць мець работнікаў з ліку беднякоў, якіх утрымлівае прыход. Па закону аб дабрачыннасьці, з прыхоцкай касы для бедных, выдавалі работнікам „дадатковую“ жабрачую пэнсію, велічыня якой залежыла ад цаны на хлеб і ліку дзяцей: дзеля таго, што ў касу для бедных рабілі ўзносы пераважна фабрыканты і земляўласьнікі, то выходзіла, што пад відам дабрачыннасьці, яны зводзілі сваіх работнікаў на самую нізкую аплату, якую толькі можна сабе выабразіць.

Ніколі работнікі ня былі так сьцесьнены у барацьбе за паляпшэньне сваей долі, як у гэты час рэакціі. У сярэдзіне стагодзьдзя існавалі саюзы майстроў і падмайстроў, якія давалі пэўную падтрымку сваім сябрам; астаткі гэтых саюзаў рабілі спробы вясьці барацьбу с буйнымі прадпрыемцамі. Але ў **1800** г. прайшоў закон аб саюзах, каторы забараніў ня толькі забастоўкі, але і ўсякія злучэньні работнікаў з мэтай дамаганьняся большай заработнай платы, або зьменшаньня рабочага дня, ці нават узаемнай дапамогі і падтрымкі безработных, хворых і асірацеўшых. Вышэйшыя клясы хацелі абараніць свае інтэрасы. Беднасьць выклікала жабраніну, валацужніцтва і зладзейства; парлямант выставіў процiў злачынстваў сыстэму безчалавечных караў; за 200 з лішкай праступкаў была назначана сьмяротная кара, прыкладам, за кражу якой колечы рэчы з вакна крамы.

## Ірландзія.

Асабліва цяжка жылося сялянам і работнікам у Ірландзіі. Край гэты быў заваяваны, і дзеля гэтага над яго сялянскім



кельцкім жыхарствам панавала кляса паноў-чужынцаў. Ірландзія была далучана ўжо ў XII ст., але поўная яе падуладнасьць пачалася з XVII ст., с часоў англійскай рэвалюціі. Ірландзія асталася вернай каталіцтву і ўся моц англійскага пурытанства зьвярнулася процiў яе. Кромвэль з надзвычайнай жорсткасьцю здушыў паўстаньне ірландзкіх каталікоў, атабраў ад тубыльцаў паўночна-ўсходную часьць вострова і засяліў яго выселачнікамі-пурытанамі.

Пазьней, ў часе панаваньня англійскай арыстакраціі і асабліва пры Ўільяме III, рэшта ірландзкіх зямель стала пераходзіць у рукі буйных англійскіх уласьнікаў (лэндлордаў), а ірландзкія сяляне зышлі на палажэньне дробных залежных арандатараў. Тэрміны арэнды ў Ірландзіі не азначаліся, земляўласьнік, па свайму хаценьню, мог пакінуць зямлю ў руках быўшага арандатара або перадаць яе іншаму і выгнаць старога без усякага адшкадаваньня. У Ірландзіі распашырылася найбольш танная культура бульбы; жыхарства жыло вельмі бедна і брудна. Цяжкое становішча пагоршвалася яшчэ і тым, што рэлігія большасьці (каталіцтва) лічылася па закону забароненай: каталікі павінны былі ўтрымліваць чужых англійскіх духоўнікаў і біскупаў, якія ня мелі прыхаджан і жылі на палажэньні багатых памешчыкаў, у той час як каталіцкае духавенства ня мела ніякіх даходаў і існавала на народныя ахвяры.

Да **1800** г. Ірландзія мела свой парлямант, у каторым мелі права быць толькі пратэстанскія дэпутаты. У часе вайны Англіі з рэвалюцыйнай Францыяй ў краі паднялася патрыятычная партыя, якая хацела пры помачы французаў пачаць паўстаньне. Але французкая экспэдыція **1797** г. не удалася, і Пітт пасьпяшыў адмяніць асобны парлямант і перавясьці ірландзкіх дэпутатаў ў агульны англійскі парлямант (ірландзкая унія **1800** г.). Пітт хацеў даць каталіцкаму жыхарству выборчыя правы, але кароль Юры III рашуча спраціўся; гэткім чынам для большасьці ірландцаў доступ у англійскі парлямант быў зачынены.

## Хлебны закон і апазыцыя прамысловай клясы.

Усе гэты пытаньні асталіся ад XVIII ст. і яшчэ больш завострыліся дзеля доўгай вайны с Францыяй. Вайна вялася

для падняцьця англійскай прамысловасьці; Англія здабыла сабе некалькі важных калёніяў, паміж іншым атабрала ад галандцаў часьць паўдзённай Афрыкі (Капскую зямлю). Але ў той жа час расходы на вайну былі вельмі вялікія: дзяржаўны доўг за 25 гадоў павялічыўся, блізка, ў чатыры разы; патрэбны былі надзвычайныя падаткі, каб пакрыць адны толькі працэнты; ў часе вайны і дзеля кантынэнтальнай сыстэмы, якая забараняла доступ англійскім фабрыкантам на кантынэнт, падняліся цэны на хлэб і зьменшылася заработная плата.

Вельмі характэрна было пры гэтым паступаньне земляўласьніцкай арыстакраціі, якая трымала ўладу ў сваіх руках. Парлямант адмяніў няпрыемны для памешчыкаў падаходны падатак, які быў ўведзены Піттам для пакрыцьця расходаў на вайну, і ўрочыста абяцаў не дапушчаць яго ніколі. Замест гэтага былі абложаны падаткам тавары першай патрэбы, г. зн. ападаткаваны шырэйшыя слаі жыхарства, галоўным чынам бедната; асаблівую вагу меў абвешчаны зараз-жа пасьля канца вайны так званы *хлебны закон*. Лэндлорды баяліся, што вялікі прывоз збожжа (асабліва з Расіі) панізіць цэны на іхнае збожжа; чужаземнае зярно пастанавілі пушчаць у продаж толькі тады, калі англійскае падыміцца да цаны 4 фунтаў стэрлінгаў за 9 пудоў пшаніцы (больш 4 рублёў за пуд) і браць с прывознага забожжа мыта, каторае падымала яго цану яшчэ больш. Гэтым законам (**1815** г.) земляўласьнікі забаспечылі сабе пры ўсякім ураджаі цьвёрдыя высокія цэны на хлеб.

Фабрыканты і таргоўцы былі не здаволены хлебным законам, бо ён прымушаў іх павышаць заработную плату і сьцясьняў міжнародную таргоўлю; работнікі былі ім не здаволены, бо ён выклікаў дарагоўлю. Сярод работнікаў нездаволеньне часам выражалася вельмі бурна: яны палілі сьвірны, разбівалі фабрыкі і крамы, ламалі машыны, якіх, паміж іншым, лічылі прычынай сваей беднасьці; **1816** год быў асабліва цяжкі. Абедзьве прамысловыя клясы, работніцкая і капіталістычная, пазбаўленыя прадстаўніцтва ў парляманце, пратэставалі проціў вузка эгаістычнай арыстакраціі.

### Рыкардо і Оўэн.

Інтарэсы капіталістычна прамысловай клясы найяскравей выразіліся ў творах лёнданскага банкіра-міліянэра Давіда



мінгамскага саюза пастанавілі не плаціць падаткаў, калі лорды будуц прадаўжаць упорства. Але, па праўдзе, біль вынесьлі на аіх плечах работнікі. С часу закона **1824** г. шмат работн сталі аткрыта злучацца у *трэды*, г. зн. саюзы паводле слаў. Работнікі пастанавілі падтрымаць сярэднюю клясу барацьбе за ўмяркаваную рэформу с тым, каб пасьля іцца больш радыкальнай. У Брыстолю ўспыхнула паўньне, войска, ў працягу колькі дзён, страляла ў таўпу і ліла шмат дамоў. У іншых мейсцах работнікі зброіліся, каб ці на Лёндан, калі біль ня пройдзе. Вігскія міністры пасулі каралю зрабіць націск на палату лордаў назначэньнем у новых сяброў, якія бы стварылі патрэбную большасьць. ле да гэтага не дайшло, бо лорды зрабілі ўступку і біль райшоў.

Рэформа **1832** года, праведзеная с такім высілкам, была далёка ня поўная. Яна атабрала выборчыя правы ад поўсоткі мястэчак з лікам жыхароў менш 2000, пакінула 30 іншым мястэчкам, з лікам жыхароў менш 4000, права пасылаць толькі аднаго дэпутата замест быўшых двох. Гэты мейсцы былі аддазены 42 вялікім гарадам, па большай часьці ў паўночназаходнай часьці Англіі, якія да тэй пары саусім ня мелі прадстаўнікаў ў парляманце (паміж іншымі Манчэстэр, Бірмінгам, Ідсу). Але столькі-ж мейсцаў было аддадзена графствам ельскім ваколіцам) для таго, каб ня даць умацавацца гарадзй дэмакраціі. Выборчыя правы былі дадзены толькі ўласькам нярухомасьці: у графствах уласьнікам з даходам ня нш 10 фунтаў і арандатарам ня менш 50, у гарадох уласьам або арандатарам дамоў з даходам большым 10 ф. У обах апошніх і ўступіла ў парлямант сярэдняя кляса, прасловыя прадпрыемцы; работнікі асталіся саўсім выключамі ад прадстаўніцтва.

Але, ўсё-ж такі, рэформа мела аграмаднае значэньне: ламала гістарычныя правы, замяняла іх парадкамі, якія аваны на практычным жыцьці; яна падарвала выключнае аваньне земляўласьніцкай арыстакраціі і дапусьціла паліныя ўплывы тарговай і прамысловай Англіі.

### Узмацненьне таргова-прамысловай клясы.

С **1832** г. арыстакратычная Англія, якая склалася ў XVII ачынае ўступаць першае мейсца Англіі буржуазнай, якая

стварылася ў выніку прамысловага пераварату XVIII ст. У кіравецтве, ў грамадзкім жыцьці можна заўважыць іншыя паняцьці, іншыя способы.

Разьвіцьцё прамысловасьці выклікала ўсё новыя тэхнічныя вынахадкі. З дзесятых гадоў XIX ст. ў Англіі зьявіліся параплавы, сьпярша рэчныя, пасьля морскія, с канца 20-х гадоў паравозы. Першая чыгунка была пабудавана ў прамысловай краіне паміж Манчэстэрам і Лівэрпулям (**1829** г.). Будова чыгунак паасобнымі прадпрыемцамі і прыватнымі суполкамі пайшла вельмі хутка.

Сярод узвысіўшайся прамысловай клясы найбольшую папулярнасьць мелі навукі Сміта і Рыкардо: прадстаўнікі прамыслоўцаў вымагалі фрытрэда, разумеючы пад гэтым няўмешваньнесе дзяржавы ў гаспадарчыя адносіны, адмену сьцясьненьняў, а такжа апекі для таргоўлі, прастор для прытасаваньня прыватнага капіталу і свабоду найма; яны цанілі практычную падгатоўку, веду „фактаў“, г. зн. карысных тэхнічных рэчаў, яны прывыклі высока ставіць самадзейнасьць, зараднасьць. Гэты погляды вельмі зыходзіліся с палітычнай навукай лібэралізма, каторы ў імя інтэрэсаў асобы також хацеў абмежыць дзяржаўную ўладу. Пад уплывам увайшоўшай ў парлямант клясы, старая партыя вігаў прыняланазоў лібэральнай, а тарыйскія земляўласьнікі сталі к а н с э р в а т ы ў н а й партыяй.

Пасьля выборчай рэформы лібэралы кіравалі, з невялікімі перарывамі, да **1841** г. (с **1837** г. пачынаецца доўгае панаваньне каралевы Вікторыі—да **1901** г.). Яны правялі яшчэ шмат зьменаў у англійскім кіравецтве, якія спынілі ўплывы арыстакрацыі ў мяйсцовых справах. У гарадох былі заснаваны аднолькавыя г а р а д з к і я р а д ы, якія выбіраліся ўсімі жыхарамі, што плацілі падаткі. Лібэральная партыя зьмяніла з а к о н ы а б б е д н ы х у сэнсе фрытрэда: аснаўная думка была у тым, каб саўсім адмовіцца ад грамадзкай дапамогі бедным работнікам. Рэформа для беднай клясы была вельмі срогая: прыходы былі абавязаны выдаваць дапамогі толькі тым бедным, якія па старасьці, ці па хворасьці не маглі працаваць; здаровыя работнікі, якія зьвярталіся па дапамогу, павінны былі ісьці ў работны дом, дзе іх кармілі і трымалі ў срогай дысцыпліне. У гэты новыя „бастыліі для бедных“



работнікі не згаджаліся ісьці, але і прадпрыемцы былі пазбаўлены магчымасьці звадзіць работнікаў на жабрачае прыходзкае ўтрыманьне, дзеля чаго павінны былі павышаць заработную плату.

Пры лібэральным міністэрстве прайшло асвабаджэньне нэграў у вэстіндзкіх калёніях. Француская рэвалюцыя першая абвесьціла свабоду чорных. Англійскі ўрад яшчэ ў **1808** г. забараніў таргоўлю нэграмі. Але плантатары, асабліва на востр. Ямайцэ, захавалі надзвычайную жорсткасьць у абходжаньні з нэграмі. У **1833** г. ў імя свабоды чалавечай асобы англійскі парлямант абвесьціў асвабаджэньне чорных нявольнікаў і зраўняў іх правы с правамі белых людзей.

Пасьля гэтага нельга было не зьвярнуць увагу на становішча работніцкай клясы ў самой Англіі. Шмат дапамагло работнікам у іхнай барацьбе за свае правы тоя, што ў парляманце с **1832** года былі два супернікі: лэндлорды і таргова-прамысловыя капіталісты. Кождая старана старалася аслабіць свайго праціўніка. У той час, як земляўласьнікі аткрывалі недахваты ў палажэньні фабрычных работнікаў, прамыслоўцы знаходзілі цёмныя староны ў жыцьці сельскіх парабкаў. Кансэрватыўныя філянтропы аб'яжджалі фабрычныя і капальняныя районы паўночна-заходняй Англіі і вымагалі ў парляманце энэргічных чынаў, каб спыніць эксплаатацыю працы слабейшых работнікаў, асабліва жанок і дзяцей. Дзякуючы адчасьці іх высілкам, узьнікла ф а б р ы ч н а е з а к о н а д а ў с т в а. На самперш абмежылі працу на фабрыках дзяцей і няпоўналетніх 8-мю гадзінамі і забаранілі ўжываць дзяцей да ночнай працы. Пазьней, пасьля даклада ў парляманце аб тым, што ў вугольных капальнях працуюць пяцілетнія дзеці, што жанкі поўзкам цягнуць тачкі з вуглем і г. д., былі забаронены падземныя работы для жанчын і дзяцей; за выпаўненьнем новых правілаў на фабрыках і капальнях павінны былі даглядаць фабрычныя інспэктары (гэты ўрад быў тады першы раз створаны).

### Народная Хартыя.

Самі работнікі ўскладалі вялікія надзеі на новую выборчую рэформу. Калі радыкальныя дэпутаты выступілі з пасулам расшырыць выборчыя правы, лібэральны міністр

Россэль заявіў, што справа скончана „на заўсёды“, і яго падтрымала 500 галасоў процiў 72. Пасьля гэтага радыкалаў запрасілі ў створанае ў Лёндане „работніцкае“ таварыства, дзе сумесна з імі былі апрацаваны шэсьць пунктаў, склаўшых Н а р о д н у ю  Х а р т ы ю. Увесь рух наступных дзесяці гадоў (**1838—1848**) дзеля гэтага быў названы ч а р т ы з м (англічане гэдак чытаюць слова charter).

Чартысты вымагалі: 1) агульнага выборчага права (сьпярша для ўсіх узрослых, г. зн. і для жанок, але пасьля абмежылі толькі мужчынамі); 2) штогоднага ўзноўленьня парляманту; 3) таёмнага галасаваньня; 4) адмены цэнзу для дэпутатаў; 5) пэнсіі для парляманцкіх дэпутатаў; 6) разьдзелу дзяржавы на роўныя выборчыя ваколіцы. У пісьме англічан да работнікаў кантынэнта было сказана: „Вышэйшыя клясы стварылі сабе ўстановы, каб закаваць нас і трымаць у послуху...—Але перашкоды, якія тыраны сьвета стварылі процiў патока прасьветы, сарваны, і мы адчулі несправядлівасьць, якую нам робяць... Мы павінны зразумець наша запраўднае становішча ў грамадзянстве і адчуць, што як вытворцы багацьцяў, мы маем пераважнае права на карыстаньне імі“.

Рух чартыстаў узмоцніваўся некалькі разоў ў часе прамысловых крызысаў і безрабоцьця і ўсякі раз выражаўся ў масовых мітынгах і падачы ў парлямант заяваў аб рэформе, якія падпісваліся больш чым міліёнам людзей. У **1839** г. у Лёндане, пад назовам Нацыянальнага канвэнту, сабраўся парлямант работнікаў, які адкрыў паседжаньні побач з дзяржаўным парлямантам, дзе работнікі ня былі прадстаўлены. Калі заява была адкінута дзяржаўным парлямантам, у работніцкім сабраньні стаўся раскол. Адна часьць хацела прадаўжаць мірную агітацію; сюды належылі больш незалежныя, лепш зарганізаваныя работнікі; другая, якая атрымала назоў „партыі фізычнай сілы“ і складзеная з бяднейшых групаў, ткачоў, прадзільнікаў, думала вясьці барацьбу насільлем і пачаць „сьвятарным месяцам“, г. зн. агульнай забастоўкай. Хаця сярод чартыстаў шмат гаварылі аб паўстаньні, але ня было ані пляну, ані грошы нават для пачатку; адбылося толькі некалькі боек з войскамі і паліціяй, большая часьць павадыроў партыі „фізычнай сілы“ была арыштавана і Канвэнт разышоўся.



## Адмена хлебнага закону і перамога свабоднага абмену.

Адначасна з рухам чартыстаў падняўся другі, які ішоў, галоўным чынам, з буржуазных таргова-прамысловых клясаў. Прадстаўнікі англійскай фабрычнай прамысловасьці казалі, што абмену ня дадзена поўнага прастору; яшчэ істнуе старая сыстэма апекі і забароны; ў ёй першае мейсца займае хлебны закон. У **1838** годзе ў Манчэстэры Кобдэн, сын фэрмэра, сьпярша тарговы агент, пасьля самастойны ўласьнік фабрыкі, заснаваў л і г у  п р о ц і ў  х л е б н а г а  з а к о н у. Кобдэн даводзіў, што сыстэма апекі нямінуча вядзе да ўмешваньняся ў чужыя справы і да вайнаў; свабодная таргоўля была бы карысная для Англіі, бо яна аткрыла бы простор збыту англійскіх, ўсе растучых, вырабаў, але яна будзе такжа карыснай для іншых краін, якія прадаюць Англіі сырыя прадукты для апрацоўкі або емныя рэчы, асабліва збожжа; дзеля гэтага агульная свабодная таргоўля, сама собой прывядзе да агульнага міру. Кобдэн лічыў фрытрэд дабрадзейным і для работніцкай клясы; дзяржава не павінна ўмешвацца ў работніцкія справы, а павінна даць простор свабоднаму суперніцтву ці ўмове; работнікі, ў каторых ёсьць ашчаднасьці, могуць выехаць у Амэрыку; калі яны могуць пагражаць, што кінуць працу, то яны незалежны ад гаспадароў і, знача, могуць дамагацца паляпшэньня сваей долі, прыкладам, скарочаньнем рабочага дня.

Ліга пачала прапаганду сваіх ідэяў ў нячуваных да тэй пары памерах, карыстаючыся чыгуначным рухам і патанеўшай почтай. Яна зьбірала ўзносы з ўсіх сяброў і на гэты грошы выдавала журналы і брашуры, безперарыўна ладзіла вялікія сабраньні і гуртковыя гутаркі з лекціямі і спрэчкамі, старалася даць кождаму сябру эканамічную бібліатэку. Кобдэн езьдзіў па ўсей Англіі і на сходах выступаў процiў кождага, хто хацеў яму пярэчыць. Вялікія тэатры ў Лёндане сталіся палітычнымі трыбунамі. У трох сталіцах—Лёндане, Эдынбургу, Дубліне—і вялікіх прамысловых асяродках ліга хутка заваявала прыхільнасьць. Чартысты варожа адносіліся да гэтага руху. „Людзям сярэдняй клясы,—гаварыў адзін з павадыроў работнікаў,—патрэбны толькі нашы галасы. Пасьля яны скажуць: ідзіце на ўсе чатыры староны! Яны крычаць аб танным хлебе, а разумеюць гэта як нізкую заработную плату“.

У 1841 г. лібэралы страцілі ўладу, і на чале кансэрватыўнага міністэрства стаў Піл. Гэты палітык ня быў лішне ўпорчывы ў сваіх поглядах: пасьля рэформы 1832 г. ён прызнаў разумнасьць новых парадкаў. Цяпер, пэўны ў карыснасьці для Англіі свабоднай таргоўлі, ён стаў разыходзіцца з большасьцю сваей партыі, моцна бараніўшай інтэрасы земляўласьнікаў.

Галоўнай прычынай адмены хлебнага закону паслужыў ірландзкі голад 1845 г., які стаўся ад хваробы бульбы, адзінай стравы беднага жыхарства краю. Ліга запатрабавала, каб зараз-жа былі аткрыты порты для свабоднага ўвозу чужаземнага збожжа. Лібэралы ў парлямаице далучыліся да прыхільнікаў свабоднай таргоўлі. Тады Піл пасуліў адмяніць хоебны закон і разам с тым распашырыць свабодную таргоўлю на ўсю прамысловасьць. Палова кабінэта ня згодзілася з ім і ён вышаў у адстаўку. Але дзеля таго, што ў лібэралаў ня было большасьці, Піл вярнуўся ў міністэрства. Спрэчкі па яго праекту вяліся ў працягу 12 ночных паседжаньняў і было сказана 103 прамовы. Міністэрства атрымала большасьць, пры чым за яго праект галасавалі лібэралы, а большая часьць кансэрватараў высказалася процiў свайго павадыра (1846).

З адменай хлебнага закону таргова-прамысловая кляса, якая прыступіла да ўлады ў 1832 годзе, атрымала поўную перамогу. Яе моц асабліва выявілася ў 1848 г., калі ўспыхнуў у Англіі яшчэ раз рух чартыстаў. Пад уражаньнем Парыскай рэваюцыі ў лютым месяцы, павадыры чартыстаў запатрабавалі адстаўкі міністэрства, роспуску парляманта, прыняцьця хартыі. Зноў у Лёндане сабраўся Нацыянальны канвэнт, каторы ўступіў ў перагаворы с часовым ўрадам толькі што абвешчанай Французскай рэспублікі. Пастаноўлена было зноў падаць заяву ў парлямант і для падтрыманьня яе арганізаваць аграмадную дэманстрацію. Меліся сабрацца ў прадмесьці Лёндана, каб пасьля ў вайсковым парадку ісьці да парляманту.

Ўрад абвесьціў, што допусьціць мітынг толькі пад варункам, што народныя масы адмовяцца ісьці да парляманту. Дзеля гэтай прычыны сярод чартыстаў стаўся раскол. Больш радыкальныя адмовіліся ад учасьніцтва ў мірнай дэманстрацыі. Сабралося нямнога народу і адзін з павадыроў адвез заяву



ў парлямант. Між тым стары гэрцаг Уэлінгтон, якому было даручана начальства над вайсковымі сіламі Лёндана, прыняў рашучыя меры абароны, павялічыў войска, ўмацаваў грамадзкія будынкі, асабліва англійскі банк, ачысьціў вуліцы ад павозак і ўсяго, што магло паслужыць для пабудовы барыкадаў; на яго покліч запісалася ў паліцэйскія да 150.000 чалавек з сярэдняй клясы для абароны істнуючага ладу. Але да закалоту не дайшло. Канвэнт, раз'едианы варожасьцю партыяў, ніякай пастановы ня прыняў.

Грамадзкі рух у Англіі і на гэты раз, як раней каля 1820 г. і 1830 г., не перайшоў у рэвалюцію. Множства найбяднейшых ірландцаў, якія былі найбольш неспакойнай групай, а такжа многа англійскіх работнікаў выехалі пасьля 1847—1848 г. ў Амэрыку.

---

VI.

## Францыя ў першай палове XIX стагодзьдзя.

### Францыя ў 1814 годзе.

Французскае грамадзянства ад часу рэвалюцыі 1789 года саўсім перабудавалася. У ім зьніклі ўсякія прывілеі і перагародкі паміж станамі, якія былі найбольшай характэрнасьцю старога ладу; ў сьведамасьці людзей ўмацаваліся паняцьці роўнасьці правоў. Аграмадныя народныя масы вышлі з бяспраўнага палажэньня. За 25 гадоў ад пачатку рэвалюцыі да ўпадку Напалеона (1789—1814) Францыя перажыла шмат катастрофаў, была канстытуцыйнай манархіяй, рэспублікай з агульным і абмежаным выборчым правам, вайскова-ўрадніцкай імпэрыяй. Сярод усіх гэтых раптоўных зьмен, адна здобыч рэвалюцыі, г р а м а д з к а я  р о ў н а с ь ц ь, захавалася бязумоўна; ў гэтым пытаньні да старадаўшчыны вярнуцца было нельга. Другая здобыч, п а л і т ы ч н а я  с в а б о д а, саўсім яшчэ ня была забаспечана. Але нават эўрапэйскія саюзьнікі, ворагі Напалеона, якія садзілі на французскі пасад Бурбонаў, разумелі, што ўзнавіць абсалютную манархію ў Францыі нельга.

Людвіг XVIII такжа разумеў, што трэба згадзіцца з многімі пераменамі, якія адбыліся за тыя 22 гады (с 1792),

калі Бурбонаў, як выгнанцаў ў краі саўсім забыліся; ён гарантаваў новым уласьнікам валаданьне нацыянальнай і канфіскаванай маемасьцю, прыняў напалеонскі кодэкс і пакінуў напалеонскую адміністрацію. Хартыя, якую ён выдаў у **1814** годзе, зьмяшчала ў сабе актраіраваную (дазволеную каралём, а не ўведзеную народам) канстытуцію. Людвіг XVIII апублікаваў яе ў старадаўных выразах „даруем і жалуем“ і назваўся „каралём Божай міласьцю“. Але ў той-жа час ён абавязаўся прысягнуць на вернасьць канстытуціі і забаспечыў ў ёй аснаўныя правы і свабоду асобы, сумленьня, прадстаўнічую форму кіравецтва пры дзьвёх палатах, якія галасуюць падаткі і законы па праектах ўраду, адпавядальнасьць міністраў і нязьменнасьць судзьдзяў.

Новы палітычны лад, аднак, саўсім не адпавядаў грамадзкаму ладу Франціі. Была абвешчана роўнасьць перад законам і аднолькавы для ўсіх доступ да пасадаў, а між тым выборчае права распашыралася толькі на нязначную меншасьць жыхарства. Выбаршчыкамі лічыліся толькі тыя хто плаціў падатку больш 300 франкаў, і хто векам больш за 30 гадоў. Гэткіх выбаршчыкаў было менш 100.000 пры 25 міліёнах жыхарства. Для таго, как быць выбраным ў дэпутаты вымагаўся яшчэ большы цэнз: падатку больш 1000 франкаў і веку 40 гадоў; гэткіх асоб ва ўсей Франціі было ўсяго 15000 чалавек.

Ад палітычнага жыцьця, гэткім чынам, былі адціснуты сяляне, множства буржуазіі, сярэдняй і дробнай, прамысловай, служачай і інтэлігэнтнай, а такжа работнікі. Палітычнымі правамі карысталіся толькі дзьве, нязначныя лікам, групы грамадзянства: багатыя земляўласьнікі, адчасьці старая шляхта асабліва на поўдні і захадзе Франціі, і багатыя прадпрыемцы, ўласьнікі жалезных і іншых фабрык поўначы і ўсхода Франціі. За час вайны з Англіяй і панаваньня кантынэнтальнай сыстэмы як першыя, так і другія прывыклі да добрага збыту сваіх вырабаў і прадуктаў, бяз суперніцтва чужаземнага прывоза.

Паміж дзьвема арыстакраціямі, старой шляхоцкай і новай буржуазнай, да якой далучыліся вышэйшыя ўрадоўцы імпэрыі і багацейшыя валадары нацыянальнымі маемасьцямі, былі варожыя адносіны. Дарагі хлеб быў не карысьцен для



фабрыкантаў, бо гэта прымушала паднімаць заработную плату, дзеля гэтага яны былі настроены проціў земляўласьнікаў; людзі якія вызначыліся пры імпэрыі ў арміі або ў адміністрацыі, а такжа валадары нацыянальнай маемасьці, баяліся, што эмігранты, каторыя вярнуліся разам з Бурбонамі адбяруць ад іх зямлю і становішча. У свой чарод эмігранты „нічога не забыліся і нічога не навучыліся“ і далучыліся да старой земляўласьніцкай шляхты. Яны мелі падтрымку ў асобе брата бяздзетнага караля, графа д'Артуа; да яго мелі сымпацію такжа езуіты, якія таёмна вярнуліся ў Францію.

### Эмігранцкая рэакція.

Францыя пры рэстаўрацыі Бурбонаў (гэты назоў „рэстаўрація“, што знача „зварот“, распашырыўся на ўсю эпоху **1814—1830** г.г. да зрынуцьця Бурбонаў), як бы разьдзялілася на два варожыя абозы. Паяўленьне у **1815** годзе Напалеона яшчэ больш узмоцніла гэту варожасьць. Імпэратара падтрымалі ня толькі дэмакратычна настроеное войска, але і лібэральная буржуазія, якой ён абяцаў канстытуцію. Усе хто далучваўся да Напалеона, павінны былі баяцца помсты Бурбонаў і эмігрантаў, якія зноў вярнуліся пад прыкрыцьцем вайсковай сілы саюзьнікаў. Асоба Напалеона атрымала цяпер, дзеля апошніх здарэньняў, як бы новы арэол: пачалі забывацца аб дэспатызме і аграмадных ахвярах імпэрыі і, наадварот, пачалі зьвязваць з ёй думкі аб славе, магутнасьці і багацьці Франціі з дэмакратычным ладам; так узьнікла лягенда аб Напалеоне—рэспубліканскім гярою, аб прыяцелю народа—маленькім капрале.

З другога боку, рэакцыянеры ажно гарэлі каб зараз-жа ўчыніць расправу з рэвалюцыянерамі і бунтарамі. Стварылася партыя скрайных, якія былі „большымі манархістамі, чым манарх“. Яны склалі падаўляючую большасьць у новай палаце, выбранай ў **1815** г. зараз-жа пасьля другога звароту (рэстаўрації). Сам кароль назваў палату безпадобнай. Яна прыняла выключны закон аб адмене асабістай свабоды, і ўвяла надзвычайныя суды, якія мелі судзіць „бунтароў“: пад старшынствам афіцэраў, бяз учасьніцтва прысяжных, судзьдзі маглі прысуджаць да ссылкі, сьмерці і г. д. і выконываць прыгаворы ў 24 гадзіны. Закону надалі зваротную моц, каб

прыцягнуць пад суд усіх учасьнікаў Ста дзён. Людвіг XVIII пры другім звароце абяцаў амністыю (дараваньне), але палата выключыла з яе множства асоб і асудзіла на выгнаньне вышэйшых урадоўцаў Ста дзён і „забойцаў караля“, г. зн. сяброў Канвэнта, якія яшчэ асталіся жывымі. Паміма гэтых чынаў па закону, ў розных мейсцах, асабліва на поўдні Франціі, рабіліся крывавыя расправы і пагромы прыватнымі асобамі: прыхільнікі б е л а г а т э р а р а (яны працавалі пад белым сьцягам Бурбонаў) перабілі арыштованых гэнэралаў і афіцэраў, забівалі і рабавалі ўладароў нацыянальнай маемасьці, лібэралаў і пратэстантаў.

Безпадобная палата хацела „ўзнавіць усё, што было зрынута Устаноўчым сабраньнем **1789** года“, адмяніла развод, дапушчаны рэвалюцыяй і кадэксам Напалеона, зьбіралася зьнішчыць установы народнай асьветы і запатрабавала зварот нацыянальнай маемасьці. Сам кароль, які больш за ўсё хацеў спакою, не згаджаўся ісьці так далёка. Атрымалася даволі арыгінальнае становішча: скрайныя роялісты (манархісты) былі перш праціўнікамі канстытуціі, але раз захапіўшы ў свае рукі палату, яны адчулі, якое значэньне мае для іх панаваньня парляманцкі лад. Ад імя „народнай волі“, яны сталі вымагаць, каб кароль ўвёў ангелійскі звычай, па якім ён павінен браць міністраў з пануючай ў палаце партыі. Кароль быў прымушаны шукаць падтрымкі ў партыі ўмяркаваных лібэралаў: прафэсар гісторыі Гізо даводзіў, што палата паклікана толькі даваць рады, і кароль мае права выбраць міністраў, якіх захоча. Раптам, нячэўкі для эмігрантаў і не паведаміўшы свайго брата, Людвіг XVIII распусьціў безпадобную палату.

У новай палаце, выбранай пад націскам прэфэктаў, каторым было даручана адсуваць скрайных, большасьць была староньнікаў хартыі і міністэрства Рышэльё, эмігранта (бывшага кіраўніка Наваросіі пры Александры I), але чалавека ўмяркаваных поглядаў. У працягу 4 гадоў кароль кіраваў, апіраючыся на ўмяркаваных: Францыя заплаціла кантрыбуцыю, а чужаземныя войскі былі выведзены з яе тэрыторыі.

### Кіравецтва рэакцыянэраў

У **1820** годзе адзін з парыскіх рамесьнікаў зарэзаў сына графа д'Артуа, які павінен быў быць у будучыне каралём



Францыі. Скрайныя раялісты скарысталі з гэтага здарэньня, каб зрынуць ненавіснае ім міністэрства, слабасьць якога, па іхнай думцы, была прычынай забойства. Састарэўшы і пераморaны палітыкай Людвіг XVIII паставіў на чале кіравецтва павадыра скрайных, Віледя. У палаце прынялі закон аб парадку выбараў, які стварыў падвойную прывілегію багатых выбаршчыкаў: людзі з цэнзам у 1000 франкаў падатку і больш атрымалі права выбіраць яшчэ асобных дэпутатаў апрача папярэдняга агульнага ліку, і гэты дэпутаты склалі каля двох пятых палаты. Пры помачы такіх мераў скрайныя зноў атрымалі аграмадную большасьць. Пасьля яны правялі законы аб друку. Праступкі, зробленыя пры помачы друку, прызыў да паўстаньня, ўзбуджаньне нездаволеньня сярод жыхарства, перадаваліся ня суду прысяжных, а паліцэйскаму; была ўведзена цэнзура: для выданьня газэты трэба было мець дазвол ўраду і апрача таго дазвол цэнзара на выпуск кождага нумара. Біскупам быў даручаны надзор за школамі, лібэральным прафэсарам, паміж імі Гізо, забаранілі чытаць лекціі ў Сарбонне. Урэшце, скрайныя дамагліся таго, што былі пасланы францускія войскі для здушэньня гішпанскай рэвалюцыі, згодна з пастановай аднаго з эўрапэйскіх кангрэсаў.

Рэакцыя пайшла яшчэ мацней, калі са сьмерцьцю Людвіга XVIII ў асобе д'Артуа ўступіў на пасад „кароль эмігрантаў“ (**1824**). Скрайныя чакалі ад Караля X даўно абяцанай награды. Вілель знайшоў спосаб задаволіць іх вымогі, не забіраючы зямель ад валадароў нацыянальнай маемасьці. Урад выплаціў эмігрантам мілён, дастаўшы гэты грошы ад пазычкі і к а н в э р с і і, г. зн. ад паніжэньня процэнта з дзяржаўных папераў з 5 да 3.

Панаваньне скрайных выклікала нездаволеньне сярод розных клясаў жыхарства. Умешваньнеся духавенства ў школьныя справы, таёмная дзейнасьць езуітаў і стварэньне імі к о н г р э г а ц і і (аддзел калегіі кардыналаў) раздражнялі множства людзей, саўсім не варожых рэлігіі, але не хацеўшых такжа, каб цэрква выхадзіла ад падуладнасьці, ў якое яе паставіла рэвалюцыя і напалеонскі канкардат. Яны далучыліся да апазыцыі так-жа, як валадары дзяржаўных папераў, страціўшых на канвэрсіі ў карысьць эмігрантаў. Калі кароль прымаў парад нацыянальнай гвардзіі, складзенай з

заможных буржуа, яму крычалі з шыхаў: „Няхай жыве хартыя! далоў Вілея!“ Раззлошчаны кароль распусьціў гвардзію.

Вілель пасьля 7-мілетняго кіраваньня павінен быў выйсьці ў адстаўку, кароль склаў міністэрства з умяркаваных і яно, пасуліла адмяніць папярэднюю цэнзуру, абаспечыць свабодныя выбары дэпутатаў у палату бяз націску прэфэктаў, атабраць ад духоўных ордэнаў права кіраваць школамі. Каралю не падабаліся, аднак, гэты ўступкі, і яго сьцясьняла тое, што ён прымушаны быў апірацца на грамадзкую думку; ён гаварыў: „Лепш пілаваць дровы, чым мець карону як у ангельскага караля!“.

## Сан-Сімон і Фурье.

У той час, калі лібэралы ў парляманце і друку баранілі інтэрасы заможных клясаў, занятых у таргоўлі і прамысловасьці, — сярод невялічкіх гурткоў зьявілася сацыялістычная навука, якая мела на мэце, галоўным чынам долю вялікай работніцкай клясы, створанай прамысловым пераваротам.

Граф Сан-Сімон **(1760—1825)**, у моладасьці ўчасьнік амэрыканскай вайны, дэмакрат, які разбагацеў на куплі нацыянальнай маемасьці, блізкі да вучоных новастворанай Палітэхнічнай школы, хутка зруйнаваны пры Напалеоне і рэстаўрацыі, трывожыў урад і вучоныя таварыстві сваімі плянамі, брашурамі і зборнікамі. Па яго думцы, сучасны лад з яго ўзаемнай барацьбой людзей, войнамі, несправядлівым распадзелам жыцьцёвых багацьцяў—ненавучны і неразумны. Багацьце павінна лучыцца з ведай, і кіравецтва павінна належыць не да заваёўнікаў і дыпляматаў, а да вучоных, тэхнікаў і прамыслоўцаў. Сан-Сімону здаецца, што інтэрасы работнікаў і прадпрыемцаў не разыходзяцца паміж сабой; наадварот, банкіры, фабрыканты, купцы, стаўшы на чале ўсяго працоўнага народа, змогуць паляпшаць яго долю. Галоўная задача ня ў лепшай палітычнай канстытуціі, а ў разьвязаньні сацыяльнага пытаньня, г. зн. ў найлепшым грамадзкім ладзе.

Фурье **(1772—1837)**, купецкі прыкашчык і канторшчык па прафэсіі, блізкі па ідэях да свайго адначасьніка Оўэна. Фурье быў абураны несправядлівасьцю торговых барышоў, ашуканствам і спэкуляцыяй, а такжа аграмаднай тратай сілы множствам пасрэднікаў, без якіх можна было-бы абыйсьціся



пры іншых варунках абмену. І спэкуляцыя, і манаполія, і раздрабненьне сілы бывае, па яго думцы, ад свабоднага суперніцтва. Трэба атабраць абмен тавараў ад прыватных асоб і зрабіць таргоўлю справай грамадзянскай. Аграмадная энэргія якая трацiцца цяпер дарма ў множстве дробных гаспадарак, зберажэцца пры стварэньні вытворчых установаў. Але тады наогул страціць сэнс прыватная гаспадарка і прыватны дом. Разьдзеленыя на часьці паводле работы, масы людзей найпрактычней, і найвыгадней памесьцяцца ў аграмадных будынках з залямі для сходаў, бібліатэкамі, чытальнямі, тэатрамі, школамі і. г. д.

Ідэі сансіманістаў і фурьістаў, варожыя лібэралізму, распашыраліся сьпярша толькі сярод прасьвечанай часьці буржуазіі. Работнікі ў Франціі яшче ня мелі азначанай думкі што да новага грамадзкага ладу. Але сярод іх падымаўся вялікі рух. У пераварочы **1830** года, зрынўшым Бурбонаў, яны гралі вызначную ролю.

## Ліпнёўская рэвалюція.

Разлад паміж дынастыяй і грамадзянствам рабіўся ўсё большым. Кароль X ахвотна даў адстаўку умяркаваным міністрам і даручыў кіравецтва князю Паліньяку, чаловеку вузкіх поглядаў, сябру каталіцкай кангрэгаціі, які хацеў здзейсьніць дзяржаўны пераварот на карысьць манархіі. Журналісты лібэральнай партыі, асабліва Тьер, загаварылі аб тым, што прышоў час мірнай рэвалюціі, падобнай да ангелійскай **1688** г.; трэба зьмяніць дынастыю, якая стала немагчымай ў Франціі; як спосаб паставіць урад у бязвыхаднае палажэньне, яны раілі адмовіцца плаціць падаткі. Людзі капіталісты, фінансісты і банкіры, мелі на ўвазе прынца Арлеанскага, Луі Піліпа, як новага караля, які ў першай рэвалюціі належыў да якубінскага клуба. Са студэнтаў і парыскіх работнікаў склалася рэспубліканская партыя, гатовая на аружнае паўстаньне; яны гуртаваліся каля гэнэрала Лафайэта, дзеяча першай рэвалюціі.

Вясной **1830** году выбары ў палату далі аграмадную пераваγу лібэралам. Тады Кароль X адважыўся на пераварот. Некалькімі загадамі ўрад распусьціў толькі што выбраную палату, зьмяніў выборчы закон на карысьць земляўласьнікаў

і адмяніў свабоду друку. У той жа дзень (26 ліпня) журналісты 10 вялікіх газэт, якія былі закрыты урадам, падпісалі і разасьлалі па правінцыі пратэст, складзены Тьерам. Заклікаючы да спраціўленьня, друк, а з імі дэпутаты і павадыры буржуазіі, ня мелі, аднак, ніякіх сродкаў для больш рашучых чынаў. На вуліцу вышлі наборшчыкі, якія, дзеля закрыцьця газэт, страцілі заработак, і фабрычныя работнікі, каторых гаспадары адпусьцілі з абяцанкай заплаціць за страчаны час, калі тыя ўступяць у бойку. У той час, калі буржуазныя дэпутаты і журналісты раіліся ў лібэральнага банкіра Лафіта, настроі работнікаў выкарыстала невялікая, але вельмі добра зарганізаваная і ўзброеная рэспубліканская партыя. Вузкія завілыя вулачкі работніцкіх кварталаў Парыжа былі загароджаны барыкадамі, і стуль паўстанцы пачалі напад на нязначнае лікам каралеўскае войска. Сам кароль знаходзіўся не ў Парыжы і ня прымаў ніякіх сродкаў. Часьць жаўнераў саўсім не хацела змагацца і браталася з народам. На трэці дзень бойкі быў захоплены каралеўскі палац Туільеры, гэтым ўсё і скончылася.

Гэту пабеду парыскіх студэнтаў і работнікаў выкарыстала буржуазія. Быў створаны часовы ўрад, які памесьціўся ў думе і даручыў вайсковую каманду Лафайету. Кароль X хацеў ўступіць з гэтым камітэтам у перагаворы, але было ўжо запозна. Большасьць дэпутатаў высказалася за Луі Піліпа, каторы быў абвешчаны намесьнікам каралеўства. Ён атправіўся ў Думу, на вачах народа абняў Лафайета і падняў трохкаляровы сьцяг. Кароль X адрокся на карысьць свайго ўнука. Але палата саўсім адпіхнула бурбонскую дынастыю і апавесьціла каралём Луі Піліпа. Дабрадушны Лафайет заявіў, што Луі Піліп — „лепшая з рэспублік", а барацьбісты ліпнёўскіх дзён, маладыя адважныя рэспубліканцы, хаця і не згаджаліся с такім вынікам справы, прымушаны былі дапусьціць манархію, тым больш, што ў Парыжы зноў узброілася распушчаная пры каралю X нацыянальная гвардзія складзеная з заможных буржуа.

Палата толькі крыху зьмяніла хартыю **1814** г.: да тытула караля далучылі словы „волей народа"; цэнзура была адменена „навекі"; праступкі друку, таксама як і палітычныя справы былі перададзены суду прысяжных. Аднак, што было найважней, аграмадная большасьць жыхарства асталася вы-



ключанай ад учасьніцтва ў палітычным жыцьці; выборчы цэнз с 300 франкаў быў паніжаны да 200, і лік выбаршчыкаў павялічыўся толькі на 100.000 чалавек.

Пераварот **1830** г. даў поўную перавагу буйнай буржуазіі, каторая ў свой час, пры рэстаўрацыі **1814** года павінна была ўступіць першае мейсца замляўласьнікам і эмігрантам. Галоўныя ўрады занялі капіталісты (банкір Лафіт, пасьля прадстаўнік вялікай купецкай фірмы Казімір Пэрье) або навучныя сілы сярэдняй клясы, якія спачувалі інтэрасам буйнай прамысловасьці (Гізо і Тьер). Сам кароль новай дынастыі (ад імя ліпнёўскай рэвалюцыі яго кіравецтва **1830—1848** г. г. назвалі л і п н ё ў с к а й  м а н а р х і я й) сваімі поглядамі і паняцьцямі далучаўся да таго-ж грамадзкага кірунку. Ён вучыў сваіх дзяцей ў сьвецкай гімназіі: ён як абярэжлівы камэрсант, у дзень каранацыі перавёў ўсю сваю маемасьць на сыноў і ў працягу свайго кіравецтва ўсякімі спосабамі стараўся павялічыць іх капітал, выпрашваючы ў палаты пэнсіі і падарункі.

У часе рэстаўрацыі Францыя, ня гледзячы на канстытуцыйную хартыю, падтрымоўвала рэакцыйныя ўрады Эўропы. Рэвалюцыя **1830** г., адбыўшаяся ў імя народных правоў, зьмяніла і зьнешнюю палітыку Францыі, і адносіны да яе Эўропы. Пад уражаньнем гэтага перавароту пачаліся народныя рухі ў Бэльгіі, Польшчы, Нямеччыне і Італіі. Бэльгія адмовілася слухаць нідэрляндзкага караля і абвесьціла сябе незалежнай, ў Царстве Польскім ўспыхнула паўстаньне каб аддзяліцца ад Расіі. У Францыі шмат хто вымагаў падтрымкі эўрапэйскіх рэвалюцыйных рухаў і заваёўніцкай вайны з мэтай прапаганды, як у **1793** г.

У свой чарод Мікалай I, Мэтэрніх і Прусія аднясьліся з вялікім недаверьем да новага ўраду ў Францыі. Гэта прымусіла яго шукаць зблізкэньня з Англіяй, адзінай вялікай дзяржавай ў Эўропе, дзе быў праведзены парляманцкі лад. Дзьве заходніх дзяржавы склалі якбы асобны саюз, процілеглы да рэакцыйных усходніх. Асновы на якіх будаваўся Сьвятарны саюз, былі нарушаны: Англія і Францыя сталі праводзіць свой прынцып н я ў м е ш в а н ь н я с я ва ўнутранія справы тых краін, дзе паднімаліся народныя рухі. Гэта аказалася карысным для бэльгійскай рэвалюцыі: заходнія ўрады падтрымалі незалежнасьць Бэльгіі і забаспечылі новаму ка-

ралеўству нэйтралітэт. Але для Польшчы гэта было некарысным, бо яна сама адна не змагла бароцца з Расіяй, і апошняя лёгка справілася з рухам.

### Панаваньне буйнай буржуазіі.

Ва ўнутраніх справах большасьць буйнай буржуазіі хацела спыненьня рэвалюцыйнага руху. Між тым для прамысловасьці пераварот меў вельмі цяжкія вынікі. Шмат спраў спынілася асабліва дзеля завостраньня адносін з суседзямі. Лафіт зруйнаваўся і зачыніў свой банк, а множства работнікаў страцілі заработкі і сталі ладзіць маніфэстацыі; шмат хто пакінуў сталіцу. У Ліоне targовы застой 1830 году выклікаў паніжэньне заработнай платы ткачоў шоўка; многія страцілі ўсякія заработкі. Прэфэкт спрабаваў пагадзіць ткачоў з гаспадарамі, але апошнія нарушылі ўмову. Тады работнікі вышлі на прадмесьце Чырвонага крыжа, дзе большасьць іх жыла, с чорным сьцягам, на якім быў надпіс: „Жыць працай або памерці ў бою!“. Яны захапілі ў свае рукі горад і ў працягу некалькіх дзён гаспадарылі ў ім. Але пасьля рух быў здушаны войскам і буржуазнай гвардзіяй.

Луі Піліп даў адстаўку Лафіту і іншым лібэральным міністрам. Новы зьверхнік міністэрства Казімір Пэрье, назваў сваю палітыку „залатой сярэдзінай“, правёў закон проціў збройных сходаў на вуліцах і забараніў урадоўцам прымаць учасьніцтва ў палітычных саюзах. Пасьля сьмерці Пэрье яго наступнікі ў міністэрстве, Гізо, Тьер і іншыя, прадаўжалі яго палітыку спраціўленьня зьменам. У свой чарод праціўнікі ліпнёўскай манархіі, л е г і т ы м і с т ы, г. зн. староньнікі Бурбонаў і асабліва рэспубліканцы, паднімалі адно паўстаньне за другім. У часе хаўтураў папулярнага гэнэрала Ламарка, летам **1832** г., ўсе вуліцы Парыжа былі запруджаны аграмаднай таўпой; ўсюды можна было пачуць прамовы апазыцыйных прамоўцаў; калі вярталіся назад, крычалі: „Далоў Луі Піліпа! хай жыве рэспубліка!“ Пад кіравецтвам рэспубліканцаў работнікі забарыкадаваліся ў ўсходней, цесна забудаванай, часьці горада. Толькі пасьля двухдзённай бойкі, ў выніку якой было некалькі сот забітых, войска і буржуазная нацыянальная гвардзія здушылі паўстаньне.

У **1834** г. паўтарылася паўстаньне ў Ліоне, Парыжы і іншых гарадох. Зноў адбыліся крывавыя бойкі на вуліцах.



Урэшце ўрад арыштаваў да 2000 чалавек і перадаў верхней палаце суд над множствам асоб, якія абвінавачваліся ў нарушэньні дзяржаўнага парадку. Пасьля, пры дапамозе аграмаднай большасьці палаты, былі праведзены так званыя в е р а с ь н е ў с к і я з а к о н ы (**1835**), якія моцна абмяжоўвалі абяцаную у **1830** годзе палітычную свабоду. Асабліва сьцяснілі свабоду друку: срогія кары былі назначаны за стацьці ў газэтах проціў асобы караля, за выступы проціў істнуючай формы кіравецтва і за пахвалы рэспубліцы, за ўзбуджаньне аднэй клясы проціў другой і за нападкі на прынцып уласнасьці.

У верасьнеўскіх законах выявіўся цесны саюз паміж ліпнёўскай манархіяй і вышэйшымі слаямі буржуазіі. Новая дынастыя ўсімі сіламі старалася падтрымліваць клясу капіталістаў. У той час, калі цяжар падаткаў падаў, галоўным чынам, на земляроба, вялікія фабрыканты, наадварот, атрымлівалі ад гаспадарства падтрымку дзякуючы вельмі высокаму мыту на многія ўвозныя тавары, хаця гэта вельмі шкодзіла пакупцам. Рэзка аддзяліўся гэты слой ад рэшты і на вайсковай службе: багатыя адкупаліся ад рэкруцтва і ў рэкруты бралі с клясаў менш заможных. Прадпрыемцы былі вельмі няўважлівымі да інтэрасаў работнікаў. Калі адзін раз пайшла дэпутацыя ад работнікаў да караля і расказала яму аб цяжкім становішчы людзей працы, ён сказаў: „Я магу толькі горка ўздыхнуць з вамі!“ Урад і парлямант і ня думалі аб рэформах. На заявы работнікаў адпавядалі, што „ня справа палаты вышуківаць работу“. У той час, як у Англіі пачыналася фабрычнае заканадаўства, ў Францыі блізка нічога ня было зроблена нават для абароны жаночай і дзяцiннай працы. Да першага слабога закону (**1841**), каторы абмежыў працу падросткаў да 12 гадзін, было дададзена: „ня трэба вымагаць срогага і бязумоўнага выпаўненьня“. У распараджэньні пануючай клясы была нацыянальная гвардзія, складзеная з гараджанаў сярэдняй заможнасьці; яна выконвала ў гарадах ролю паліціі, і ей найчасьцей прыходзілася змагацца з паўстаньнямі работнікаў.

У канцы канцоў страцілася ўсякая сувязь паміж краем і ўрадам: гэта адчуджэньне асабліва адчувалася ў апошнія гадоў ліпнёўскай манархіі (**1840—1848**), калі першым мі-

ністрам безперарыўна быў Гізо. Пры ім увайшло ў звычай рабіць націск на выбары пры помачы прэфэктаў; ў палату стараліся також правесьці як мага больш урадоўцаў. Паслушная міністэрству палата, вельмі павялічала самапэўнасьць Гізо. Аб агульным выборчым праве ён гаварыў, як а „бязглуздай сыстэме, якой няма мейсца на сьвеце". У зьнешней палітыцы Гізо стаў ухіляцца ад Англіі і зьбліжацца с кансэрватыўнай Эўропай, з Мэтэрніхам.

### Дэмакратычныя ідэі 40-х гадоў.

У грамадзянстве сталі мацнець кірункі варожыя ліпнёўскай манархіі. Сярод дробнай буржуазіі і небагатай інтэлігэнціі паднімаецца пратэст проціў безсардэчнасьці прамысловай і купецкай клясы, банкіраў, купцоў, натарыюсаў і г. д. Гарадзкое жыхарства сярэдняга дастатку, адсунутае ад палітычнага жыцьця, вымагае расшырэньня выборчых правоў. Нават на парадах нацыянальнай гвардзіі кароль пачуў галасы: „Хай жыве рэформа!" У літэратуры можна заўважыць зацікаўленасьць да вялікай рэвалюціі. Ламартын напісаў „Гісторыю жырандыстаў", Луі Блан у „Гісторыі рэвалюціі" выбражаў якубінцаў і партыю Гары як людзей праводзіўшых вялікія ідэі брацтва, каторае ішло на зьмену індывідуалізму. Маладыя пісьменьнікі і кудзебнікі, „багэма" (г. зн. цыгане, як іх называюць у Парыжы), студэнты Лацінскага кварталу выбражалі дэмакратычны якубінскі тып. На мяшчанскую ветласьць і цэрэмоннасьць, яны адказвалі вымогамі свабоды пачуцьця; яны гаварылі, што шчырасьць, праўдзівасьць, пачуцьця — найлепшы кіраўнік маральнасьці. Самым гарачым апаведнікам гэтага кірунку ў 30-х і 40-х г.г. была Дудэван, якая пісала пад мянюшкай (псэўданімам) Жорж Занд. У яе раманах адбіваецца також ідэальнае прадстаўленьне аб народных масах, якая пераховуе ў сабе ціхую і глыбокую праўду.

Да гэтай нараджаючайся французскай дэмакраціі далучаліся эмігранты з розных краін Эўропы, асабліва с Польшчы, Італіі і Нямеччыны. Парыж быў міжнародным асяродкам рэспубліканскай прапаганды ў Эўропе; тутака зыходзіліся павадыры выгнаных і прасьледаваных партыяў, зьбліжаючыся разам с тым с французскімі рэспубліканцамі; тутака друкаваліся кнігі па нямецку, італьянску і на іншых мовах, вы-



даньні гэты мелі на мэце падрыхтоўку рэвалюціі ў эўрапэйскіх дзяржавах. Разам з разьвіцьцём фабрычнай прамысловасьці ў Франціі зьявіліся новыя сацыялістычныя навукі. Прудон (**1809—1865**) рашуча нападае на істнуючы эканамічны лад, у якім няма і ценю справядлівага распадзелу багацьцяў. Але ён ня хоча, як таго дамагаецца Фурье, зьнішчыць асабістую гаспадрку, сямью, прыватны дом, каб зачыніць усіх у грамадзкія фаланстэры. Прудон думае, што работнікі маглі бы злучыцца ў вытворчыя таварыствы; забаспечыць кождаму пэнсію паводле працы можна пры помачы сыстэмы „ўзаемнай прыслугі"; трэба зьнішчыць грошы і процэнты і адкрыць народныя банкі, якія-б кіравалі абменам, выдаючы крэдытныя знакі.

Гэты знакі павінны адпавядаць гадзінам працы і плаціць за іх трэба працай. Дзяржаўная ўлада пры гэтым акажыцца непатрэбнай. Інакш адносіцца да дзяржавы Луі Блан (**1811—1882**). У сваей „Арганізаціі працы" ён раіць выкарыстаць аграмадную моц капітала, які кіруе вялікімі прадпрыемствамі. Як-бы ні былі моцны паасобныя прадпрыемцы, яны ня могуць вытрымаць суперніцтва з дзяржавай, калі тая возьме ў свае рукі вялікія галіны прамысловасьці. Кіравецтва ўсім гаспадарчым жыцьцём будзе сьпярша ў руках агентаў дзяржавы, а пасьля, калі грамадзянства прыгатуецца да новага ладу, кіравецтва пяройдзе да саміх работнікаў. Такі лад магчымы толькі пры народнай (дэмакратычнай) рэспубліцы, ў якой інтэрэсы ўсіх будуць прадстаўлены роўнамерна.

### Адраджэньне каталіцтва.

Адначасна з усіленьнем дэмакраціі паднімаўся рух і супроцьлеглага кірунку.

У **1814** годзе, папеж, той самы Піус VII, каторага Напалеон пазбавіў сьвецкай ўлады, ўзнавіў ордэн езуітаў. Папеж зноў, як-бы нічога ня сталася, запатрабаваў бязумоўнага послуху веруючых: ён асудзіў канстытуцыйную хартыю **1814** г. за тое, што ў ёй „не ўспаміналася імя божае", за абвешчаньне свабоды веравызнаньня, якое ставіла на роўні з гарэзіямі і жыдоўствам сьвятую цэркву, зьне каторай няма збаўленьня, і асабліва за свабоду друку, які „пагражае чыстасьці веры і звычаяў". З гэтага часу папежы не перастава-

лі ў сваіх энцykліках (граматах) выступаць проціў вызваленскіх ідэяў і навукі Новых часоў: яны паўставалі проціў канстытуцыйнага ладу, проціў навуковых досьледаў. Множства асьвечаных людзей напужаных рэвалюціяй і яе ідэямі, шукалі ў цэркві ратунку і ставілі ў прыклад яе арганізацію, аснаваную на сьляпой пакорнасьці.

Каталіцкая цэрква зноў стала гуртаваць сілы, захопліваючы тых, хто пачынаў хістацца, каму патрэбна была падтрымка, цёмным масам яна горача, хаця і неазначана, суліла заступніцтва. Духавенства ў XIX ст. куды больш надавалася да гэтай мэты, чым ў XVIII ст. Шчэзлі старыя пралаты — важныя і лянівыя паны з вышэйшых клясаў грамадзянства, якія ў роскашы пражывалі свае даходы. Цяпер біскупы і ніжэйшае духавенства вышла с сэмінарыяў, ведала працу і беднасьць; у іх распараджэньні апрача прамоваў—казаньняў, быў яшчэ і друк, і духавенства хутка выставіла шмат здольных публіцыстаў. Галоўнай мэтай каталіцкай партыі было захапіць у свае рукі школу, каб мець уплыў на падрастаючае пакаленьне. У барацьбе проціў урадаў каталікі розных краёў адчулі патрэбу злучыць свае сілы і аб'яднаць кіравецтва імі: ўлада папежа, даволі слабая ў XVIII ст., вельмі ўзмоцнілася ў XIX ст.

Каталіцтва шукала зьбліжэньня з дэмакраціяй. У ліку новых каталіцкіх апаведнікаў былі шчырыя народнікі. У Францыі Ламэннэ (**1782—1854**) пасьля ліпнёўскай рэвалюціі заснаваў са сваімі прыяцелямі журнал „Будучына“, ў якім вымагаў аддзяленьня цэркві ад гаспадарства, а такжа агульнага выборчага права і свабоды грамадзкіх саюзаў. Калі папеж выказаў сваё нездаволеньне журналам, Ламэннэ паехаў ў Рым каб апраўдацца. Сьпярша ён паслухаў і спыніў свой журнал, але праз два гады, сярод работніцкіх паўстаньняў, ён ня вытрымаў і надрукаваў надзвычайна гарачую адозву „Словы веруючага“. Біблейскімі выразамі прыпамінае ён, што Хрыстос абвесьціў асвабаджэньне бедных, але цяпер „зямля стала зноў пахмурнай і зімной, і народ з яго цяжкога становішча ня можа выратаваць ані сьвецкая, ані духоўная ўлада“. Папеж асудзіў гэту адозву як асабліва шкодную. Тады Ламэннэ аканчальна парваў з Рымам, растрыгся і стаў энэргічным апаведнікам рэспублікі.



Прыяцелі Ламэннэ не пайшлі так далёка, як ён сам. Яны хацелі пагодзіць папежа з дэмакраціяй, але самі бачылі ў дэмакраціі толькі спосаб для ўвядзеньня новага вышэйшага духоўнага аўторытэта над грамадзянствам: яны хацелі сабраць усіх напужаных новымі ідэямі кансэрватараў і вясьці змаганьне з новай прасьветай.

### Рэвалюція ў лютым м-цы

У той час як у Францыі расьлі радыкальныя і кансэрватыўныя партыі, манархія Луі Піліпа трациła пад нагамі грунт. Небагатая буржуазія стала дамагацца выборчай рэформы, распашырэньня правоў на служачых у нацыянальнай гвардзіі і на людзей з вышэйшай асьветай, а такжа выключэньня ўрадоўцаў с палаты. Калі сабралася палата ў **1847** г., палажэньне ў Францыі было трывожнае. Ня гледзячы на тое, што ў той год быў няўраджай, прывоз чужаземнага хлеба быў забаронены; гэта выклікала даражыню. У розных мяйсцовасьцях паўсталі сяляне і работнікі.

Староньнікі ўмяркаванай рэформы злучыліся з рэспубліканцамі. Палітычныя прамоўцы тэй і другой партыі сталі езьдзіць па правінцыі і ладзіць сходы, на якіх казалі прамовы ў карысьць расшырэньня выборчага права. Між тым урад ня прымаў ніякіх зьмен. Гізо забараніў назначаны на 22 лютага **1848** г. ў Парыжы сход староньнікаў рэформы, на якім меліся быць некаторыя дэпутаты, а такжа нацыянальныя гвардзейцы. Умяркаваныя павадыры паддаліся і адмовіліся, нат, ад працэсіі па вуліцах, якая мелася ісьці да мейсца сходу. Але масы работнікаў с прадмесьцяў і студэнтаў з Лацінскага кварталу, з усходу і с поўдня Парыжа, прайшлі ў заходнюю, арыстакратычную часьць Парыжа, з клічамі адстаўкі Гізо. Кароль уступіў, назначыў другіх міністраў, але было ўжо запозна; групы рэспубліканцаў пачалі, як у **1830** годзе, будаваць барыкады. Кароль прызваў войска і нацыянальную гвардзію. Дзеля таго, што войска вельмі неахвотна ішло проціў паўстаўшых, Луі Піліп уцёк і адрокся на карысьць свайго ўнука. Пакуль сабраліся паведаміць аб гэтым палату дэпутатаў, туды ўжо трапіла некалькі паўстанцаў; большасьць дэпутатаў разбеглася; тыя, што асталіся, паміж імі Ламартын, высказаліся за рэспубліку. Тутака-ж быў складзены спіс

сяброў **часовага** ўраду. З гэтым спісам, згодна са звычаям, пайшлі ў будынак гарадзкой думы, дзе ўжо знаходзілася другая група паўстаўшых рэспубліканцаў, больш рашучых і з нахілам да сацыялістычных ідэяў; у іх быў свой спіс часовага ўраду, які далучылі да першага, ўвёўшы ў яго Луі Блана і работніка Альбэра, каб забаспечыць інтэрасы чацьвёртага стану.

У часовым урадзе яскрава вызначыліся дзьве партыі: ўмяркаваныя, з Ламартынам на чале, хацелі толькі ўстанавіць агульнае выборчае права, ня зьмяняючы асноваў уласнасьці, адносінаў паміж капіталам і працай; ў партыі **сацыяльнай рэспублікі**, прымаўшай „чырвоны сьцяг“, Ледрю Роллэн хацеў адраджэньня якубінства **1793** году, Луі Блан лічыў магчымым прыступіць да арганізацыі працы. Дзеля таго, што работнікі, перамогшыя ў часе лютнёўскай рэвалюціі, аставаліся ўзброенымі, то, нат, умяркованыя прызнавалі патрэбным перш за ўсё задаволіць іх: часовы ўрад абвесьціў, згодна з вымогамі сацыялістаў, **права на працу**, г. зн. абавязак дзяржавы даць кождаму заработак. Пасьля была назначана „камісія аб работніках“ пад старшынствам Луі Блана, і пакліканы дэлэгаты ад работнікаў для абгавору вымогаў ўсей клясы. Камісія выдала правілы аб зьменшаньні гадзін працы, пасуліла трэцейскі суд паміж гаспадарамі і работнікамі, але прадпрыемцы ня зьвярталі ніякай ўвагі на яе распараджэньні.

Між тым умяркаваныя рэспубліканцы ачухаліся ад страху перад радыкаламі: новай работніцкай нацыянальнай гвардзіі яны проціўставілі старую буржуазную і сталі пры яе помачы разганяць маніфэстаціі работнікаў. Было пастаноўлена задаволіць вымаганьне сацыялістаў і пабудаваць **нацыянальныя майстэрні**, г. зн. грамадзкія работы для беспрацоўных. Але з усяго было відаць што з наладжаньнем работ ня сьпяшаліся.

Рэвалюціі **1848** г. прынясла, як і папярэднія рэвалюціі, безрабоцьце; множства незанятых людзей пацягнуліся ў Парыж шукаць заработку. Замест таго, каб распадзяліць іх па спэцыяльнасьцях і даць ім творчую работу, іх паслалі ўсіх бяз рожніцы на землякопныя работы на Марсавым полі. Але дзеля таго, што ўрад ня меў грошы, каб заплаціць за рабо-



ту, то было пастаноўлена павялічыць на 45% падаткі. Гэты новы падатак выклікаў сярод сялян варожасьць да рэспублікі і страх перад сацыялізмам, бо думалі, што ад сялян пачнуць адбіраць ўласныя землі. Яшчэ больш баялася сацыялізму буржуазія, якая бачыла перад сабой ўзброеных работнікаў. Дзеля гэтага агульнае галасаваньне ў Устаноўчае сабраньне не дало таго, чаго чакалі рэспубліканцы: ў палату трапіла шмат кансэрватараў, староньнікаў абедзьвех дынастыяў (Бурбонаў і Арлеанаў) і каталікі, якія также дамагаліся рэакціі.

Устаноўчае сабраньне пастанавіла звольніць работнікаў, якія прышлі з вёсак, і зачыніць нацыянальныя майстэрні: сабраньне пасуліла работнікам уступіць у армію або пайсьці на землякопныя работы ў правінцію. Тады работнікі забарыкадаваліся ва ўсходніх кварталах Парыжа. Сабраньне даручыла неабмежаную ўладу над Парыжам і начальства над войскамі і буржуазнай нацыянальнай гвардзіяй гэнэралу Кавэньяку. Дайшла справа да жорсткай бойкі: з 22 чэрвеня біліся 4 дні, каля 10 тысяч чалавек было забіта с тэй і другой стараны. Кавэньяк штурмаваў работніцкія прадмесьці па ўсіх правілах вайсковай навукі: пасьля пабеды палонных работнікаў растрэлівалі, як зраднікаў; павадыроў аддалі вайсковаму суду і саслалі на катаргу ў нездаровую калёнію Кайену. Луі Блан уцёк за граaніцу. Партыя сацыялістаў была саўсім разбіта.

## Другая рэспубліка і сацыяльная рэакція.

Устаноўчае сабраньне апрацавала рэспубліканскую канстытуцію **1848** г. Агульным галасаваньнем выбіраюць адзіную палату, якая мае заканадаўчую ўладу. Ўлада выканаўчая перадаецца прэзыдэнту. Апошні выбіраецца на 4 гады простым і агульным галасаваньнем. Прэзыдэнту падпарадкавана вайсковая сіла краю, і ад яго залежыць назначэньне міністраў, ня гледзячы на распадзел партыяў у парляманце. Умяркаваныя высунулі сваім кандыдатам Кавэньяка. Але ў яго, саўсім нячэўкі аказаўся праціўнік, на якім зышліся многія нездаволеныя пераваротам **1848** г.,—прынц Луі Банапарт, пляменьнік Напалеона I, Луі Банапарт прыняў імя Напалеона. Староньнікі выгнаных дынастыяў, мала шануючы Напалеона, бачылі

ў ім спосаб для ўзноўленьня манархічнага ладу; на яго пакладалі надзеі ўсе, хто баяўся сацыялізму і хацеў рэакціі. Тьер, быўшы вораг клерыкалізму (уплываў духавенства), далучыўся цяпер да каталікоў і прыцягнуў іх партыю на старану новага неазначанага кандыдата. У рэзультаце прэзыдэнцкіх выбараў ў восені **1848** года, Напалеон атрымаў аграмадную перавагу.

Новы прэзыдэнт запрасіў міністраў с кансэрватыўных партыяў, каторыя яго правялі ў прэзыдэнты. Зараз-жа пашла рэакція поўным ходам. Каталікі дамагліся адпраўкі францускай арміі ў Італію на помач папежу проціў яго падданых, якія паўсталі і абвесьцілі Рымскую рэспубліку. Гэта было якраз процілеглае тому, што абвесьцілі радыкалы ў пачатку рэвалюціі **1848** г. (радыкалы ў той час дамагаліся падтрымкі рэвалюцыйных рухаў у Эўропе). Далей каталікі правялі на сваю карысьць новы школьны закон (**1850** г.). Ўраду дадзена права выдаляць вучыцялёў бяз вызначаньня прычын; духавенства атрымала нагляд за народнымі школамі; пад відам свабоды навучаньня было абмежана права дзяржавы кіраваць школьнымі ўстановамі; прыватныя асобы дасталі права аткрываць гімназіі і ніжэйшыя школы. Гэта права выкарысталі багатыя конгрэгаціі, г. зн. духоўныя ордэны, сярод якіх выступілі і езуіты. Францыя хутка пакрылася каталіцкімі школамі і ўся жаночая асьвета перайшаа ў рукі манашак.

### Банапартыскі пераварот і другая імпэрыя.

Староньнікі рэакціі арудавалі 2 гады ў згодзе с прэзыдэнтам проціў рэспубліканцаў. Між тым Луі Напалеон стараўся запоўніць пасады сваімі прыхільнікамі здабыць сымпаціі арміі. У часе яго падарожаў па правінціі ладзіліся маніфэстаціі, ўчасьнікі якіх крычалі: „Хай жыве імпэратар!“ Канстытуція не дазваляла перавыбару прэзыдэнта рэспублікі на другіх чатыры гады. Калі банапартысты пасулілі адмяніць гэты пункт, у палаце не знайшлося такога ліку галасоў „за“, які вымагаўся для зьмены канстытуціі. Тады Напалеон стаў падгатаўляць пераварот.

2 сьнежня **1851** году ён загадаў арыштаваць і выслаць 80 варожых яму дэпутатаў, між імі Тьера, Кавэньяка, і некалькіх радыкалаў; Парыж і ваколіцы былі абвешчаны на



абступным (асадным) палажэньні. Трохлетняя рэакція разбурыла дэмакратычныя групіроўкі, і з іх боку спраціўленьня ня было. Напалеонскія войскі без перашкод прайшлі па вуліцах і стралялі ў бязбройную таўпу. У некаторых гарадох поўдня і усхода спрабавалі выступіць пад чырвоным сьцягам тайныя таварыствы дробных рамесьнікаў, вінаробаў, парабкаў, ніжэйшых служачых.

Гэты рухі былі здушаны ўрадам; усе ўрадоўцы, кіраваныя с цэнтра, аказаліся вельмі паслушнымі: прэфэктам было загадана затрымліваць сяброў тайных таварыстваў: іх судзілі камісіі, складзеныя з самога прэфэкта, пракурора і ваеннага гэнэрала; ў гэтых закрытых судах ня было ані абаронцаў ані сьведкаў і з арыштаваных больш 25000 чалавек— блізка палова—былі сасланы ў Кайену, якой баяліся горш чым сьмерці. Заможная буржуазія і земляўласьнікі, ўсе, хто пазбыўся страху перад таёмнымі саюзамі і сацыялізмам, былі здаволены і пасылалі падзякі Напалеону за „збаўленьне грамадзянства“. Сяляне сталі вялікімі ворагамі сацыялізму, ў якім яны бачылі страшны для іх „перадзел зямлі“.

Пад уражаньнем гэтых здарэньняў і пад націскам адміністраціі адбываўся плебісцыт. Множства людзей ад галасаваньня паўстрымалася; $7^1/_2$ міліёнаў высказалася за пераварот проціў 650.000. Плебісцыт разам с тым значыў і прыняцьце новай канстытуціі, якую ўзялі с так званай канстытуціі VIII году. Зноў быў ўведзен заканадаўчы корпус, сэнат і дзяржаўная рада; першы, без права ўносіць праекты і зьмяняць законы, толькі галасаваў урадовыя праекты; ён складаўся з невялікага ліку дэпутатаў; ўрад выстаўляў кандыдатаў і браў на сябе расходы выбараў. Усякія сходы для выясьненьня праграмаў і асоб кандыдатаў былі забаронены, каб „даць выборшчыкам поўную свабоду“, інакш кажучы, выборшчыкі і кандыдаты прымушаны былі захоўваць поўнае маўчаньне. Газэты наогул былі вельмі сьцесьнены; для іх выданьня вымагаўся вялікі залог; калі газэта зьмяшчала стацьці шкодныя с пункту гледжаньня ўраду, то ей пасылаліся перасьцярогі, пасьля другой перасьцярогі газэту закрывалі. Для таго, каб сьлядзіць за настроямі грамадзянства, спыняць змовы і т. д было заснавана міністэрства паліціі; ніці яго былі ўсюды, яго тайныя агенты, набіраныя па большай часьці с карсікан-

цаў, сачылі і вызнавалі самыя інтымныя староны прыватнага жыцьця. Праз год пасьля перавароту, 2 сьнежня **1852** г., прэзыдэнт атрымаў ад сэната тытул імпэратара французаў Напалеона III (Напалеонам II лічыўся рана памёршы сын Напалеона I).

---

VII.

## Рэвалюцыя 1848—1849 гадоў у Італіі, Нямеччыне і Аўстрыі.

### Нацыянальны рух у Італіі.

Адначасна с францускай рэвалюцыяй 48-га года і адчасьці пад яе ўплывам адбыліся пераварoты ў Італіі, Нямеччыне і аўстрыйскіх землях.

У Італіі, пасьля няўдалых спробаў карбанараў у пачатку 20-х гадоў, наступіла зацішша. Жыцьцё ў дробных дзяржавах, з вельмі прычэпскай паліцыяй і цэнзурай, было вельмі нуднoе і бяз зьместу. Людзі са здольнасьцямі з ведай і энэргіяй ня мелі дзе прытасаваць свае сілы: італьянскія унівэрсытэты былі напоўнены стўдэнтамі, але, па скончаньні ім быў зачынены шлях да самостойнай працы. Мяйсцовых самаўрадаў і парлямантаў ня было, журналы і газэты былі вельмі сьцесьнены, большых грамадзкіх работ ня было.

Самыя рожныя інтэрасы прыводзілі да аднаго агульнага пажаданьня: Італія павінна быць аб'еднана, павінна належыць да сябе, а ня служыць чужынцам, павінна мець свабодныя ўстановы. Гэты рух, які адбіваўся і ў літэратуры 30—40 гадоў, быў названы „ўваскрошаньнем“. У больш асьвечаных пaўночных ваколіцах, Пьемонце, Ламбардзіі, Таскане, ўзьнiклі зьезды вучоных, прыроднікаў і тэхнікаў. Тутака сулілі наладзіць агульна італьянскі мытны саюз, у каторы-б увайшлі ўсе дзяржавы, пры чым павінна было шчэзнуць мыта паміж паасобнымі італьянскімі гаспадарствамі; зьвяртaлі ўвагу на тоя, што трэба пабудаваць чыгункі, якія-б зьвязвалі паміж сабой розныя мяйсцовасьці. Вучоныя, пісьменьнікі, мастакі хацелі распашырыць прасьвету, любоў да агульнай італьянскай мовы, нацыянальнай паэзіі, мастацтву. Жаданае аб'яднаньне здавалася сьвятой справай. Найбольш яскрава гэты рэлігійна-нацыянальны настрой высказваў Мадзіні з Гэнуі, які сядзеў у пьемонцкай турме і ўцек за граніцу: для яго свабода—самы дарогі і сьвяты дар, які толькі чалавек дастаў ад Бога і змагацца за свабоду—значa выконваць волю Бога.



Нацыянальна-вызваленскі рух у Італіі захапіў сярэднія заможныя клясы: прафэсароў, адвакатаў, лекараў, тэхнікаў, афіцэраў адчасьці прамыслоўцаў і менш земляўласьнікаў. Работнікі і сяляне не далучаліся да яго; з ніжэйшых клясаў толькі найбольш рухавыя маракі і партовае жыхарства Генуі, Ліворно і Сыцыліі прымалі ўчасьніцтва ў паўстаньнях. Нагогул поўнач Італіі ішоў на перадзе ва ўсім вызваленскім руху аж да поўнага аб'яднаньня краю ў **1870** г. Тутака знаходзілася самае моцнае італьянскае гаспадарства—Пьемонт або Сардынскае каралеўства, з вялікай арміяй. Толькі гэта каралеўства магло ўзяць у свае рукі барацьбу з чужаземцамі. Усе дзеячы аб'яднаньня, палітыкі, літэратары, вайсковыя, Мадзіні, Кавур, Гарыбальдзі, Джобэрці і інш. былі родам з Рывьеры (бераг Генуэскага заліва), с Пьемонта або Тасканы.

Пьемонцкі духоўнік Джобэрці, які ўцёк у Францію, даводзіў, што Італія самой прыродай прызначана быць асяродкам чалавецтва; дзеля гэтага яна павінна аб'яднацца, на чале павінен стаць папеж, які будзе павадыром Італіі і ўсяго сьвету. Іншыя прадстаўлялі сабе Італію як фэдэрацыю, з захаваньнем найбольш моцных гаспадарстваў і правядзеньнем у іх лібэральных рэформаў. Урэшце, найбольш гарачыя далучыліся да Мадзіні, які бачыў ратунак толькі ў поўным аб'яднаньні Італіі, пры чым яна павінна быць рэспублікай. З мэтай распашыраньня сваіх думак, а такжа для прыцяганьня дэмакрацii, Мадзіні заснаваў за граніцай таварыства Маладой Італіі. Ён стаў падгаварваць эмігрантаў іншых краін каб тыя ладзілі падобныя-ж таварыствы, Маладой Нямеччыны, Маладой Польшчы і г. д. Усе яны злучыліся ў Маладую Эўропу,—таварыства, каторае паставіла сабе мэтай асвабадзіць ўсе краіны ад манархічных ўрадаў і ўвесьці ўсюды дэмакратычныя рэспублікі; з рэспублік павінен быў быць створаны брацкі саюз.

Італьянскія ўрады адносіліся да руху вельмі недаверчыва і яны баяліся моцнай Аўстрыі, не хацелі ўводзіць канстыту-

цыйнага ладу. У **1846** г. памёр срогі рэакцыйны папеж Грыгор XVI. Наступнікам яго быў выбраны Піус IX, які быў вядомы як вораг Аўстрыі, на яго пакладалі свае надзеі нацыяналісты, што падзялялі ідэі Джобэрці. Піус IX даў амністыю палітычным засуджаным, зьмягчыў цэнзуру, стварыў ў Рыме нацыянальную гвардзію, але далейісьці не асьмеліўся.

### Рэвалюція ў Італіі.

Пакуль ўрады разважалі, пачаўся рух рэвалюцыйны. У Сыцыліі староннікі канстытуціі клікнулі народ да зброі зрабілі ў Палермо барыкады і прымусілі войска адступіць с самога вострава: быў створаны часовы ўрад і абвешчана канстытуція **1812** г. У Мілане і Вэнэціі італьянцы паўсталі проціў Аўстрыі (пачатак **1848** г.). Гэта аканчальна падштурхнула і ўрады большых італьянскіх гаспадарстваў: каралі сардынскі і нэапалітанскі, а такжа гэрцаг тасканскі ўвялі ў сябе канстытуціі падобныя да французскай хартыі. Пасьля сардынскі кароль Қароль Альбэрт адправіў сваю армію ў Ламбардзію, каб падтрымаць паўстаньне проціў Аўстрыі. Да яго далучыліся дружыны с Тасканы, Рыма і Нэапаля. Ламбарцы правялі ў сябе ўсенарнднае галасаваньне і высказаліся аграмаднай большасьцю за далучэньне да сардынскага каралеўства.

Але хутка выявіліся вялікія спрэчнасьці паміж умяркаванымі і рэспубліканцамі. У Рыме і Таскане рэспубліканцы вымагалі ўстаноўчага сабраньня і прымусілі папежа і гэрцага ўцякаць. Рым стаўся рэспублікай с часовым ўрадам с трох асоб, паміж імі Мадзіні; ён зьвярнуўся да ўсей Італіі с пасулам выбраць дэпутатаў ў агульнае Устаноўчае сабраньне і абвесьціць аб'яднаньне Італіі. У той жа час папеж зьвярнуўся да ўсіх дзяржаваў Эўропы с пратэстам і просьбай помачы.

Чужаземныя войскі далі вялікую падтрымку італьянскай рэакціі. Аўстрыйскі гэнэрал Радэцкі разьбіў войска Қараля Альбэрта і ўзнавіў панаваньне Аўстрыі ў Ламбардзіі і Вэнэціі; аўстрыйскія жаўнеры ўступілі ў Таскану і іншыя ваколіцы сярэдней Італіі. Усе канстытуцыйныя здобычы былі адменены; аўстрыйцы аддалі ўсіх паўстанцаў пад свой вайсковы суд, атабралі ад паўцякаўшых рэвалюцыянераў іхную маемасьць, узнавілі цялесныя кары. Французскія клерыкалы дамагліся, што прэзыдэнт Луі Напалеон атправіў войска ў



помач папежу. Нейкі час рымскія дабрахотнікі пад начальствам Гарыбальдзі адбіваліся, але іх было мала, французы ўзялі горад і вярнулі папежу яго сьвецкую ўладу. Папеж зараз жа адмяніў ўсе дараваныя раней вольнасьці. У той жа час нэапалітанскі кароль, пры помачы швайцарскіх наймітаў, здушыў сыцылійскае паўстаньне і такжа адмяніў канстытуцію ва ўсіх сваіх валаданьнях.

У разгроме **1849** г. толькі одно Сардынскае каралеўства захавала канстытуцію. Нерашучы Қароль-Альбрэхт паселя няўдачнай вайны адрокся ад пасаду. Яго наступнік, Віктар-Эмануіл II, перадаў кіравецтва павадыру ўмяркаваных, графу Кавуру, які шмат гадоў пражыў за граніцай і набраўся паглядаў французскай лібэральнай буржуазіі. Кавур стараўся разьвіць вываз паўночнай Італіі; з гэтай мэтай ён увайшоў ў торговыя зносіны з другімі дзяржавамі і павялічыў генуэскі флот. Армія была павялічана і зарганізавана падобна да Прускай. Қаб пакрыць расходы, Кавур аблажыў падаткам царкоўную маемасьць і, галоўным чынам, пачаў забіраць у казну шмат, саўсім бескарысных манастыроў. Папеж пагражаў каралю адлучэньнем ад цэркві, але гэта не пашкодзіла зачыніць больш 330 манастыроў. Кавур у той-жа час імкнўўся завязаць зносіны з уплывовымі дзяржавамі: ён прыняў удзельніцтва ў вайне з Расіяй (крымская вайна), якую вёў Напалеон III, а пасьля ў Парыскім кангрэсе, скліканым у **1856** г. для агульна-эўрапэйскага замірэньня.

### Грамадзкі рух у Нямеччыне.

Да 40-х гадоў лібэральныя і дэмакратычныя партыі ў Нямеччыне ня мелі моцы. Два вызначных пісьменьнікі, жыды с паходжаньня, Бёрнэ і Гейнэ, прымушаны былі выехаць за граніцу. Яны пераехалі ў Парыж, зблізіліся з французскімі дэмократамі і рэспубліканцамі і высьмейвалі вузкое нямецкае філістэрства (мяшчанства). Пад уражаньнем ліпнёўскай рэвалюціі **1830** г. некалькі дробным нямецкім гаспадарствам, Саксоніі, Гановэру, Брауншвэйгу, Гесэн-Қасэлю, былі дадзены канстытуціі, але калі на сьвяце „нямецкага мая“ у Гамбаху (1832 г.) журналісты і студэнты паднялі сьцяг аб'яднанага нямецкага народа, Мэтэрніх зноў, як у **1819** годзе, прымусіў саюзную раду прыняць сьцясьняючыя меры проціў друку і

палітычных таварыстваў. Гамбаскія прамоўцы былі пасаджаны ў турму, або паўцякалі ў Францію, Швайцарыю, Англію.

Найбольш балюча адчувалі людзі блізкія да гандлю гэта тое, што было лішне многа мытных межаў, якія дзялілі маленькія, раскіданыя, а часта і пераплеценыя паміж сабой га-




Рыс. 6. — Нямеччына канца XIX ст. I—Прусія. II—Гановэр. III—Латарынгія. IV.—Баварыя. V—Мяжа мытнага саюза 50-х гадоў, яна зьяўляецца і мяжой будучай Нямецкай Імпэрыі. VI—Мяжа Гэрманскага саюза. VII—Мяжв паміж Паўночна-Нямецкім Саюзам і паўдзённымі дзяржавамі.

спадарствы. Прусія ўзяла на сябе правядзеньне рэформаў, бо яе землі найбольш перараззаліся ў сярэдзіне дробнымі незалежнымі гаспадарствамі. У **1834** г. яна заключыла с суседзямі м ы т н ы



с а ю з, да каторага пачародзе далучыліся ўсе нямецкія гаспадарствы, апрача Аўстрыі. Унутарныя падаткі, пры пераезьдзе з аднэй краіны ў другую былі адменены; адна агульная мытная мяжа абхапіла ўсю Нямеччыну.

Староньнікі шырокага прамысловага разьвіцьця Нямеччыны хацелі далейшых крокаў на гэтым шляху. Фрыдрых Ліст (**1789 – 1846**), прафэсар і дэпутат у Вюртэмбургу, які быў пасаджаны ў турму за апазыцыю ўраду, пасьля доўгі час жыў ў Амэрыцы і Франціі, ўпорчыва загаварыў аб патрэбе разьвіцьця н а ц ы я н а л ь н а й н я м е ц к а й п р а м ы с л о в а с ь ц і. Ён паўстаў проціў навукі фрытрэда аб свабодным абмене. Дабрабыт нацыі залежыць не ад таго, што яна назьбірае многа багацьця абменам, а ад таго, што яна разаўе свае творчыя сілы. Гэты сілы залежаць ня толькі ад працавітасьці і асьветы паасобных людзей, ад капіталаў у краі, але такжа ад палітычнага ладу, які дае незалежнасьць і магутнасьць нацыі. Ліст горача суліў будову чыгунак і абложэньне падаткамі прывозныя тавары.

Такія зьмены маглі быць праведзены толькі моцнай дзяржавай, якая-б аб'ядала ўсю нацыю. На Аўстрыю спадзявацца было нельга: яе інтэрасы былі на ўсходзе, далёка ад Нямеччыны; ўся яе палітыка была скіравана якраз на падтрыманьне раздрабненьня і слабасьці нямецкіх гаспадарстваў. Аставалася Прусія, каторая да таго-ж мела значныя вайсковыя сілы, каб прымусіць нязгодных далучыцца да саюзу, а такжа абараніць суцэльнасьць аб'яднанай нямеччыны. Але лібэралы і дэмакраты не маглі пагодзіцца з адсталым ладам гэтага гаспадарства; ўвесь поўдзень, дзе ўжо с **1815** года былі дадзены канстытуціі, быў проціў Прусіі.

Навука Гэгеля пры яго жыцьці давала апраўданьне істнуючаму ладу, але пасьля яго сьмерці прыхільнікі раздзяліліся. У той час, як п р а в ы я гэгэльянцы знаходзілі, што сазнаньне чалавецтва дайшло найвышэйшага пункту разьвіцьця і далей ісьці няма куды, л е в ы я лічылі час крытыкі яшчэ не закончаным. У самой д ы я л е к т ы ч н а й мэтодзе Гэгеля яны знаходзілі спосабы да далейшай крытыкі: ні водна думка ня можа прэтэндаваць на вечнасьць, паняцьці бязупынна разьвіваюцца. Усякая ступень разьвіцьця, ўсякі грамадзкі лад абавязковы і апраўдуецца варункамі свайго

часу; але ён павінен уступіць перад вышэйшымі вымогамі, якія стала выпрацовуюцца ў яго ўласнай істоце. Адзін з левых гэгельянцаў, Ругэ, прасядзеўшы 6 гадоў ў крэпасьці за ўчасьніцтва ў студэнцкім саюзе, прытасаваў дыялектыку Гэгеля да навукі аб развіцьці палітычных формаў. У той час, як Гэгель бачыў ў прускім дзяржаўным ладзе вышэйшую ступень разьвіцьця духа, Ругэ лічыў такім дэмакратычны лад са свабодай слова, судом прысяжных і т. д. Ругэ заснаваў нямецкі радыкальны журнал у Парыжы і стараўся прыцягнуць да ўчасьніцтва ў ім францускіх рэспубліканцаў.

У 40-х гадах у Нямеччыне пачынаецца прамысловы пераварот, які спозьніўся адносна англійскага на 60 гадоў і францускага на 30. Як і ўсюды, пераварот выклікаў балючыя і цяжкія зьявішчы ў народным жыцьці. Вялікія фабрыкі разьвіваліся, галоўным чынам у дзьвех, густа заселеных ваколіцах, дзе быў каменны вугаль, гэта у Рэйнскай правінцыі і ў Сілезіі. У першай—жалезная і сталёвая прамысловасьць, у другой—мануфактура, прадзільная і ткацкая. Ужо раней сілескія майстры, напоў сяляне, не маглі вытрымаць суперніцтва с чужаземнымі, галоўным чынам, англійскімі таварамі, бо яны павінны былі адбываць паншчыну, а англічане працавалі машынамі. Увядзеньне у 40-х гадах машын у Нямеччыне, хутка і аканчальна зруйнавала дробных вясковых работнікаў. Да таго-ж паркалёвыя вырабы пачалі выцясьняць палатняныя, якім галоўным чынам карміліся хатнія прадзільшчыкі і ткачы. У Сілезіі некалькі разоў быў жорсткі голад, ад якога развілася пошасьць галоднага тыфусу і людзі паміралі тысячамі.

Даведзеныя да роспачы дарагоўляй хлеба, страшным морам дзяцей, бязвыхадносьцю варункаў працы, сілескія і багемскія работнікі рабілі бясплодныя паўстаньні, ламалі машыны, разбуралі фабрычныя будынкі, нішчылі бугальтерскія кнігі. Прускі і аўстрыйскі ўрады, спынялі паустаньні аружнай сілай. Па гарадах, дзе ў часе безрабоцьця і голада, збіралася многа бяздомнага, бязпрытульнага народу, заможныя клясы аберагаліся адміністрацыяй ад гэтага „небаспечнага элемэнта“. Часта паліцыя ачышчала вуліцы ад таўпы выстраламі, многіх садзілі ў турму.

### Сакавіковая рэвалюцыя ў Прусіі.

С **1840** г. ў Прусіі кіраваў Фрыдрых Вільгэльм IV, які любіў прыгожыя прамовы і меў нахіл да псыхічнага растройства (ён пад канец зварьяцеў). Калі да яго зьвярталіся з напамінаньнем аб скліканьні народных прадстаўнікаў, ён с пагардай адзываўся аб народным зьверхніцтве, аб „папяровых канстытуцыях“, аб сабе-ж ён казаў, што дастаў карону ад Бога. Аднак, пасьля звычайных для Прусіі, доўгіх гутарак у камісіях, Фрыдрых Вільгэльм IV асьмеліўся на некаторыя рэформы і склаў з дэпутатаў ад правінцыяльных сабраньняў, злучаны ландтаг (**1847**). Гэта агульнае сабраньне захавала становы характар; над ім была яшчэ пастаўлена палата паноў, складзеная с прынцаў і арыстакрацыі. Ландтаг меўся толькі разглядаць новыя падаткі і пэтыцыі. Спозьненая і малая ўступка ўраду нікога не здаволіла. Скліканы ў Бэрліне ландтаг дамагаўся прызнаньня за ім права спраўджаць бюджэт, свабоды друку і адмовіў пазычку, якую прасіў кароль. Ландтаг распусьцілі, і пакуль кароль разважаў над новымі ўступкамі, ўспыхнула рэвалюцыя.

У горадзе ўзброілася моладзь, групы работнікаў і чужаземных эмігрантаў, галоўным чынам, палякаў. Калі яны пачалі зьбірацца на мітынгі пад уражаньнем парыскай рэвалюцыі лютага м-ца, процію іх пачаліся вайсковыя прыгатаўленьні. Раптам кароль сам зьвярнуўся з адозвай да народу, прызнаючы патрэбу канстытуцыйнага ладу. Таўпа сабралася перад палацам і дзякавала караля, які вышаў на балькон (18 сакавіка **1848** года). Прыпадковыя стрэлы прывялі, аднак, да бойкі паміж узброенымі гараджанамі і войскам. У Бэрліне адбылася тоя-ж, што было колькі разоў ў Парыжы: барыкады і бойкі на вуліцах. Войска ўжо пачало браць верх, калі кароль, пад уплывам умяркавана-лібэральных бюргераў, пастанавіў спыніць бойку. Ён задаволіў вымогі паўстанцаў і вывеў жаўнераў з горадv, згадзіўся стварыць з гараджанаў нацыянальную гвардзію і вышаў з голай галавой пакланіцца памершым змагарам за свабоду, якіх таўпа пранасіла міма палацу. Пасьля ён згадзіўся прыняць запраўдную канстытуцыю с парлямантам, выбіраным агульным галасаваньнем, адпавядальнымі міністрамі, с судом прысяжных, роўнасьцю правоў і адменай станаў, свабодай асобы і друку; разам с тым ён высказаўся за нацыянальнае аб'яднаньне: „Прусія цяпер належыць Нямеччыне“.

Выбранае агульным галасаваньнем Нацыянальнае сабраньне складалася с трох партыяў: радыкалаў, пераважна з

захоdніх рэйнскіх ваколіц; „фэадалаў", ад земляўласьнікаў больш адсталага ўсходу, і ўмяркавана-лібэральнай партыі, каторая спадзявалася звязаць канстытуцію Прусіі з нацыянальным аб'яднаньнем Нямеччыны. Сабраньне даканчыла рэформу вызваленьня сялян ва ўсходняй Прусіі (рэформа была спынена ў **1816** г.). Пастаноўлена было „рэгуляваць" усе астаўшыяся павіннасьці, г. зн. выкупіць для тых найбяднейшых сялян, якія яшчэ адбывалі паншчыну. Але земляўласьнікі не прапусьцілі дарма трыццаці двох гадоў рэакціі: дзе толькі было можна, яны пасьпелі адабраць ад сялан землі і перавясьці сялян на палажэньне наймітаў. Такім чынам у большай часьці Прусіі захаваўся зямельны лад, які складаўся ў XVIII ст. і быў падобны да англійскага: вялікія і сярэднія двары з наёмнай працай беззямельных людзей.

### Франкфурцкі агульнанямецкі парлямант.

Рэвалюцыя ў Прусіі была толькі часткай агульнанямецкага руху. Ва ўсіх нямецкіх гаспадарствах за парыскай рэвалюцыяй лютага м-ца сталі збірацца мітынгі, на якіх вымагалі свабоды друку і агульнага парляманту. Саюзны сойм упаўнамочаных, які засядаў у Франкфурце, павінен быў назначыць агульныя выбары ва ўсіх нямецкіх гаспадарствах, уключаючы блізка ўсю Прусію і заходнія часьці Аўстрыі. Ўрады, перапужаныя рухам, не перашкаджалі выбарам.

У Франкфурце сабраўся парлямант, у якім было да 600 сяброў, для апрацаваньня агульнанямецкай канстытуціі. Па характару гэта сабраньне было падобна да францускага ўстаноўчага **1789** г. У большай часьці нямецкіх зямель да тэй пары ня было ніякага палітычнага жыцьця, і ў дэпутаты найчасьцей выбіралі людзей, якія выступалі ў літэратуры за аб'яднаньне і свабоду, г. зн. прафэсароў і пісьменьнікаў. Сабраньне пачало з апрацаваньня „аснаўных правоў нямецкіх грамадзян". Нямецкую еднасьць хацелі збудаваць на праве нацыі быць незалежнай ад іншых, скласьці адно суцэльнае, прызнаючы ў той-жа час правы іншых нацыяў; але якраз дзьве найбольшых дзяржавы, Прусія і асабліва Аўстрыя, заключалі ў сабе ваколіцы, якія былі заселены саўсім іншымі народамі, славянамі, вэнграмі; большасьць нямецкіх патрыётаў хацелі іх выключыць, Аўстрыя-ж, наадварот, хацела іх увясьці



ў новую імпэрыю. Другое вельмі цяжкое пытаньне было ў тым, якую форму будзе мець новая дзяржава. У парляманце было шмат рэспубліканцаў, але яны ня мелі большасьці; пераважалі ўмяркаваныя, якія дамагаліся саюза, с цантральнай ўладай ў руках імпэратара, выбранага народнымі прадстаўнікамі але ўлада імпэратара передаецца далей яго патомству. У гэтай справе труднасьць была ў тым, што нельга было абыйсьці двох самых сільных нямецкіх гаспадароў – прускага караля і аўстрыйскага імпэратара; ніхто іншы ня меў бы над імі патрэбнай павагі. Але выбар аднаго з двох значыў бы канец уплываў другога ў Нямеччыне і, знача, абавязкова прывёў бы да закалоту паміж Аўстрыяй і Прусіяй.

Парлямант пастанавіў выбраць імпэратарам караля прускага, бо гэта лічыў меншым злом. Новыя перашкоды паставіў сам прускі кароль: ён хацеў атрымаць імпэратарскую карону ад „роўных сабе" нямецкіх гаспадароў і адхіліў ўладу, якую яму пасулілі народныя прадстаўнікі. Разам с тым паўдзённа нямецкія гаспадарствы ня прынялі апрацаваную парлямантам канстытуцыю. Множства дэпутатаў, ня бачучы магчымасьці мірнага вырашаньня агульнанямецкіх спраў, раз'ехаліся; астаўшыяся пастанавілі, на перакор ўрадам, зьвярнуцца да народа з адозвай і запрасіць яго до новых выбараў; рэспубліканцы ў паўдзённай Нямеччыне паднялі паўстаньне за еднасьць і канстытуцыю.

### Рэвалюцыя ў Аўстрыі і Вэнгрыі.

У Аўстрыі ня было ані воднага народу, які-б пераважаў лікам і культурай; лікам пераважалі славянскія плямёны, але яны былі саўсім раз'еднаны. Па пэрш яны дзяліліся на дзьве вялікія групы, паўночную і паўдзённую раз'едналыя па Дунаі немцамі і мадзьярамі; па другое, кождая з гэтых групаў распадалася яшчэ на некалькі чужых адна аднэй народнасьцяў: на поўначы былі чэхі, славакі, палякі, украінцы; на поўдні—харваты, славэнцы, сэрбы. Палякі і ўкраінцы ў Галіччыне былі раздзелены ў сваіх інтэрэсах як дзьве розныя клясы: першыя былі земляўласьнікамі і гараджанамі, другія—сялянамі. Апрача ўсіх названых народнасьцяў, ў склад Аўстрыі ўходзілі румыны ў Трансыльваніі і італьянцы ў ламбарда-вэнэцыянскай ваколіцы.

Імпэрыя разьдзялялася на дзьве аснаўныя часьці: сама Аўстрыя займала захад і поунач, і Вэнгрыя, якая займала ўсходныя і палудзенныя землі. У кождай з іх палітычную перавагу мелі народнасьці ня маючыя лічэбнай большасьці, ў Аўстрыі—немцы, ў Вэнгрыі—мадзьяры. Тыя і другія засялялі шчыльна толькі нязначныя абшары ваколіц; у рэшце яны былі ўрадоўцамі і земляўласьнікамі (прыкл., мадзьяры ў Трансыльваніі) пры чужапляменным рабочым жыхарстве, славянаў і румынаў. Нацыянальнае адраджэньне ў Аўстрыі вяло да супроцьлеглых вынікаў чым гэта было ў Італіі і Нямеччыне. Тамака нацыянальны рух злучаў раздробненыя часьці, тутака, наадварот, ён мог давясьці да раз'еднаньня, а можа і да поўнага распаду гаспадарства. Дзеля гэтага Мэтэрніх лічыў асновай захаваньня Аўстрыі нярухавасьць парадкаў, кіраваньне пры помачы ўрадоўцаў і прыгон. У Аўстрыі саўсім ня друкавалі кніг палітычнага зьместу і ня пушчалі лібэральнай літэратуры с Францыі і Англіі.

**1848** год зразу зрынуў гэты лад. У Вене адбыліся маніфэстацыі на карысьць свабоды; дзеля таго, што папярэдні лад не дапушчаў ніякіх палітычных саюзаў, то з заявамі выступілі таргова таварыствы, кнігапрадаўцы, прыватныя клюбы, студэнты. Мэтэрніх, які трымаў кіравецтва ў сваіх руках каля 40 гадоў, павінен быў выйсьці ў адстаўку. Венскія бюргеры і студэнты захапілі ўладу ў свае рукі; імпэратар уцёк са сталіцы і перад тым згадзіўся склікаць устаноучае сабраньне на аснове агульнай падачы галасоў.

Устаноўчае сабраньне зышлося ў летку. У яго складзе былі дэпутаты з усей імпэрыі, апрача Вэнгрыі. Галоўнай справай гэтага сабраньня, якое праіснавала тры месяцы, было а с в а б а д ж э н ь н е  с я л я н. У часе нядаўнага польскага паўстаньня ў Галіччыне сяляне ня толькі не пайшлі за панамі, але, нат, атрымаўшы зброю, кінуліся на іхныя двары. Усюды яны адказваліся плаціць павіннасьці і адбываць паншчыну. У сабраньні самы малады дэпутат, Кудліх, сын сілескага селяніна, пасуліў адмяніць „работу“, г. зн. ўсе істнуючыя віды падданства сялян і іх залежнасьці ад паноў. Калі пасул быў прыняты, дэпутаты-сяляне кінуліся да лавак сваіх калегаў, паціскаючы ўсім рукі і шумна выражаючы сваю падзяку. Прайшоў закон, які азначаў выкуп павіннасьцяў; часьць іх выкупілі сяляне сваімі сіламі; $^1/_3$ выкупной сумы ўзяў на сябе



ўрад, які выступіў пасрэднікам паміж земляўласьнікамі і сялянамі і перадаў земляўласьнікам процэнтныя паперы на суму, роўную капіталу, ў які былі ацэнены павіннасьці. Пры гэткім спосабе асвабаджэньня, сялане атрымалі ўсю зямлю, якой карысталіся да таго часу. Такім чынам была праведзена сялянская рэформа ў паўночныхъ славянскіх ваколіцах Аўстрыі, г. зн. ў Галіччыне, Багэміі, Маравіі і Сілезіі.

Адначасна ўспыхнула рэвалюцыя ў Вэнгрыі. Мадзьяры мелі ў працягу некалькі вякоў сваё асобнае гаспадарства і




Рыс. 7.—Краіны, якія былі захоплены рэвалюцыйным рухам 1848—1849 гадоў

паддаліся Габзбургам толькі пад варункам захаваньня незалежных установаў. Але венскі ўрад стала імкнуўся накінуць Вэнгрыі сваю ўладу і выцясьніць нацыянальную мову. У часе барацьбы з Напалеонам мадзьярам абяцалі ўзнавіць агульны сойм. Калі сойм стаў збірацца, ў ім аказалася шмат староньнікаў шляхоцкіх прывілеяў і прыгону; але зьявілася также партыя дэмакратычная, якая вымагала свабоды друку і ад-

мены шляхоцкай ўлады над сялянамі, а такжа ураўненьня падаткаў; на чале яе стаяў с 30-х гадоў адвакат Кашут, які заснаваў першую мадзьярскую палітычную газэту. Абедзьве партыі зыходзіліся ў вымаганьнях аддзяленьня Вэнгрыі, прызнаньня мадзьярскай мовы пануючай і выбараў асобнага нацыянальнага ўраду.

У **1848** годзе сярод агульнага закалоту мадзьяры лёгка дасягнулі мэты: сойм быў перанесены с пагранічнага горада Прэсбурга ў асяродак Вэнгрыі, Пэшт, дзе і склікалі Устаноўчае сабраньне. Было створана асобнае вэнгерскае міністэрства, якое лічыла сябе незалежнай ўладай, увайшло ў дыплёматычныя зносіны з эўрапэйскімі дзяржавамі і стварыла вэнгерскае войска.

Абедзьве рэвалюціі, нямецкая ў Вене і мадзьярская выклікалі пратэст славянскіх народнасьцяў. Да тэй пары рух сярод славянаў быў чыста літэратурны, скіраваны да ўзноўленьня нацыянальных помнікаў, да ачышчэньня і распашыраньня народнай мовы. Цяпер, перад пагрозай двох чынных народаў, славяне зьвярнуліся да палітыкі. Мадзьяры хацелі распашырыць сваю мову і сваіх урадоўцаў на ўсю тэрыторыю быўшага вэнгерснага каралеўства, але харваты, ў свой чарод, дамагаліся роўнай незалежнасьці сваіх земляў. Чэхі склікалі сойм, запатрабавалі ўраўненьня сваіх правоў з немцамі і стварэньня незалежнай славянскай дзяржавы с трох паўночных ваколіц; у Празе сабраўся агульнаславянскі кангрэс с прыхільнікаў п а н с л а в і з м а, г. зн. аб'яднаньня ўсіх славянаў.

### Рэакцыя ў Нямеччыне і Аўстрыі.

Рэвалюцыйны рух усюды быў пачаты невялічкімі радыкальнымі групамі, каторыя праяўлялі вялікую рашучасьць у першым змаганьні, але ня мелі ў краі такога ўплыву, каб стварыць і ўтрымаць ўладу; умяркавана-лібэральныя партыі былі дрэнна зарганізаваны і, хочучы хучэй пагадзіцца з урадам, вельмі лёгка пайшлі на ўступкі; кансэрватары, наадварот, каб выратаваць сваё грамадзкае палажэньне падтрымлівалі ўрад вельмі рашуча. Сяляне ў Аўстрыі, як толькі дасталі для сябе зямлю і свабоду, саўсім адсунуліся ад руху. Ўрады ў пачатку руху вельмі спужаліся, страцілі галовы, паволі але хутка схамянуліся і пачалі браць назад зробленыя ўступкі.



Раней чым дзе, рэакцыя пачалася ў Аўстрыі. Венскі двор стаў апірацца на сваіх гэнэралаў (Радэцкі ў гэты час адваяваў ад італьянскіх нацыяналістаў Ламбардзію), а такжа на варожасьць славянаў да мадзьяраў і немцаў. Чэскі магнат, князь Віндзішгрэц атрымаўшы дыктатарскую ўладу, пачаў бамбардаваць Прагу, разагнаў кангрэс панславістаў, і чэскі сойм; пасьля падступіў да Вены і там у вулічных бойках зьнішчыў рэвалюцыйную міліцыю. Ўрад перанёс Устаноўчае сабраньне са сталіцы ў правінцыяльны горад, а пасьля, пры помачы вайсковай сілы выгнаў дэпутатаў з залі паседжаньняў і абвесьціў ў маніфэсьце, што сабраньне „пярэчыць запраўдным асновам манархіі“. Венскі двор, пасьля гэтых пабедаў, адмовіўся прызнаваць канстытуцыйны лад у Вэнгрыі; ён перадаў вайсковыя паўнамоцтвы на ўсходзе ворагу мадзьяраў, харвацкаму бону (намесьніку). З мадзьярамі, аднак, было цяжка справіцца, бо яны мелі войска; сойм у Пэшце аб'явіў поўную незалежнасьць ад Аўстрыі, абвесьціў Вэнгрыю рэспублікай і выбраў Кашута прэзыдэнтам (вясной **1849** г.). Аўстрыйскі імпэратар (толькі што ўступіўшы на пасад Францішк Язэп, які кіраваў с **1848** г. да **1916** г.) прасіў ў Мікалая І помачы процiў рэвалюцыі. Вялікая расійская армія, перайшоўшы Карпаты, прымусіла вэнгерскую армію здацца, а Кашут уцёк ў Турцыю. Аўстрыйскі ўрад расправіўся з вэнграмі вельмі жорстка: вайсковыя суды павесілі быўшага першага міністра ў Пэшце і шмат іншых людзей.

Пад уражаньнем венскіх здарэньняў зьмяніў сваю тактыку і Фрыдрых-Вільгэльм IV. Ён забараніў ўсякія палітычныя сходкі, ўвёў абступнае палажэньне, абязброіў гвардзію бюргераў, і калі нацыянальнае сабраньне запратэставала і пастанавіла адмовіць плату падаткаў, ён загадаў ўвясьці ў залю паседжаньняў войскі і разагнаць сабраньне. Пасьля ён замяніў канстытуцыю, прынятую народам, новай, дараванай, падобнай да францускай хартыі **1814** г. Шляхам загадаў ён зьмяніў выборчы закон: адмяніў таёмнае галасаваньне і ўстанавіў значную перавагу багачоў над рэштай жыхарства. Скліканая на аснове новага закону палата, была складзена больш чым на палову з ўрадоўцаў; яна згодзілася на ўсе зьмены і нават адмовілася ад агульнага кантролю бюджэта (**1850** г.).

Яшчэ раней прускі ўрад здушыў агульнанямецкі рух. Прускія войскі памаглі разагнаць рэспубліканскія вольныя дружыны ў паўдзённай Нямеччыне, якія вялі барацьбу за еднасьць; с палоннымі паступалі также, як у Аўстрыі, палёвыя суды прысуджалі іх да растрэлу, многія ўцяклі ў Амэрыку, Францію, Англію. Зноў узмацаваная Аўстрыя ўзнавіла ў Нямеччыне стары лад слабога саюзу. Зноў у Франкфурце зьехаўся сойм паўнамоцнікаў ад нямецкіх дзяржаваў: ён адмяніў „аснаўныя правы нямецкага народу", якія былі прыняты парлямантам **1848** г. Усюды, як у напалеонскай Францыі пасьля **1851** г., пачалі „выбіраць" афіцыяльных кандыдатаў, сьцясьняць друк, высылаць незалежных людзей. Ніколі эміграція з Нямеччыны не дасягала такога вялікага ліку, як у пачатку 50-х гадоў.

---

VIII.

## Аб'яднаньне Італіі і Нямеччыны.

Здарэньні **1848—1849** гадоў вельмі падарвалі ўплывы радыкальных партыяў ва ўсіх эўрапэйскіх дзяржавах. Сярод буржуазіі сымпаціі да рэспубліканскіх ідэяў вельмі аслабелі. Але нацыянальнае пытаньне, якое высунулі радыкалы, было падхоплена ўмяркаванымі. У наступныя 50-ыя і 60-ыя годы яшчэ больш узрастае прамысловасьць, асабліва ў Нямеччыне. Ўрады навучаныя рэвалюцыяй, павінны былі цяпер шукаць апоры ня толькі ў прамысловай буржуазіі. Яны ўзялі на сябе аб'яднаньне пры помачы зьнешняй сілы, але ў той-жа час згодзіліся на канстытуцыйныя ўступкі новым чынным грамадзкім клясам.

Стварэньне ў Эўропе новых вялікіх гаспадарстваў павінна было выклікаць суперніцтва і страх старых дзяржаваў. Францыя баялася аб'яднаньня Нямеччыны; для Аўстрыі аб'яднаньне Італіі і Нямеччыны значыла выцясьненьне яе самой с таго і другога гаспадарства. Змаганьне нацыяў за сваё аб'яднаньне давяло да жорсткіх войнаў; войны гэты былі аканчальным разрахункам паміж эўрапэйскімі сіламі і яны ўстанавілі новую раўнавагу ў Эўропе. У працягу 16 гадоў,



ад **1854** да **1870** года, ў асяродкавай Эўропе было 6 вялікіх войнаў, вынікам каторых было аб'яднаньне дзьвех вялікіх нацыяў.

### Зьнешняя палітыка імпэрыі ў Францыі.

Нацыянальныя войны ў Эўропе былі, паміж іншым, і дзеля таго, што ў Францыі была створана імпэрыя. Напалеон III запэўняў, што „імпэрыя нясе с сабой замірэньне", і стараўся гэтым супакоіць сялян, але ў той жа час яму трэба было адцягнуць увагу францускага грамадзянства ад унутраных спраў якімі колечы замежнымі прадпрыемствамі: як наступнік вялікага Напалеона ён хацеў вярнуць Францыі яе папярэднюю вайсковую перавагу ў Эўропе; ён спадзяваўся такжа пагадзіць французаў з унутранай рэакціяй тым, што ўмяшаўся ў здарэньні, як-бы з вызваленскімі ідэямі.

Сьпярша Напалеон III, ў саюзе з Англіяй, пастанавіў напасьці на Расію, дзе быў тады імпэратарам Мікалай I. Францыя і Англія падтрымлівалі Турцыю ў яе барацьбе з Расіяй і паслалі злучаны флот ў Чорнае мора, а пасьля высадзілі войска ў Крыме. Да саюзьнікаў далучыліся сардынцы і туркі. Пад Сэвастопалям вайна зацягнулася. У гэты час памёр Міколай I, і новы імпэратар Аляксандр II, пасьля ўзяцьця саюзьнікамі крэпасьці, распачаў мірныя перагаворы. Завілае у с х о д н а е пытаньне зачапляла рожнародныя інтэрасы: справа йшла аб долі хрысьціянскіх народаў, якія былі падуладны туркам, аб захаваньні ці разьдзеле турэцкай імпэрыі аб размежаваньні эўрапэйскіх прамысловых уплываў ў Малой Азіі, пры Чорным моры і Леванце. Для вырашаньня гэтых пытаньняў, быў скліканы к а н г р э с у П а р ы ж ы (**1856**). На гэтым зьезьдзе першае мейсца належала бязумоўна да францускіх дыплёматаў. Разам с тым вялікая парыская выстаўка **1855** г. на якой было множства чужаземцаў, паказала моц францускай прамысловасьці.

Напалеон III ўздумаў выкарыстаць перавагу Францыі для іншай вельмі папулярнай мэты: падтрымкі італьянскага нацыянальнага руху. У **1858** г. Кавур заключыў дагавор, па каторым Напалеон III абяцаў сардынскаму каралю Віктару-Эмануэлю сваю помач проціў Аўстрыі і за адваяваньне паўночнай Італіі да Адрыятыкі выгаварыў сабе Савою і Ніцу. Калі

Аўстрыя запатрабавала разброеньня сардынцаў, Напалеон атправіў на помач сваю армію. Аўстрыйцы былі выцесьнены з Ламбардзіі пасьля двох вялікіх бітваў, пры чым разам с сардынскімі войскамі біўся рэспубліканец Гарыбальдзі на чале дружыны дабрахотнікаў (**1859**). Напалеон ня выпаўніў умовы. Ён веў перагаворы з Аўстрыяй незалежня ад італьянцаў і, атрымаўшы ад сардынскага каралеўства Ніцу і Савою, аддаў яму толькі Ламбардзію; Вэнэція асталася пры Аўстрыі. Гэтым ён настроіў процiў сябе нацыянальную партыю ў Італіі. Дзеля гэтага аб'яднeньне Італіі с **1859** г. адбывалася самастойна.

### Аб'яднаньне Італіі і Ватыканскі сабор.

Ва ўсіх ваколіцах асяродкавай Італіі, ў Таскане, Мадэне Парме, Романьне, жыхарства адраклося ад сваіх гаспадароў і шляхам дэпутацкіх сходаў ці плебысцытаў высказвалася за далучэньне да Сардынскага каралеўства. На поўдні Італіі адбылася рэвалюція процiў пануючай дынастыі Бурбонаў. Гарыбальдзі высадзіўся ў Сыцыліі са сваей „тысячай", набранай пераважна з Ламбарцаў. І ў Сыцылі, і ў Нэапалі ўрадовыя арміі не спрацiўляліся. Гарыбальдзі ўрочыста ўехаў ў Нэапаль і быў апавешчаны дыктатарам усяго поўдня. Але рэспубліканцы былі і тутака ў меншасьці. Калі быў зроблены плебысцыт, то аказалося, што падаўляючая большасьць ёсьць староньнікаў далучэньня да сардынскага караля, і Гарыбальдзі ад дыктатуры адмовіўся. Тым часам папеская армія была абязброена, і папежу пакінулі толькі Рым са старой спадчынай Пятра. Вясной **1860** года сабраўся ў Турыне парлямант ад усіх ваколіц Італіі і прызнаў Віктара-Эмануэля к а р а л ё м І т а л і і. Запраўдны стварыцель аб'яднаньня, Кавур, памёр раптоўна, зараз-жа за нячаканымі ўдачамі.

Аставаліся Вэнэція ў руках аўстрыйцаў і Рым пад абаронай Францііі. Італьянцы вымагалі, каб Рым быў сталіцай Італіі, і каб была адменена сьвецкая ўлада папежа. Між тым папеж Піус IX больш чым калі-колечы, быў процiў гэтага. У энцыкліцы Quanta cura (папескія граматы называюцца першымі словамі зьместу), ён высказаўся процiў „памылак і надзвычайных думак нашай глыбока сумнай эпохі", г. зн. процiў усей новай эўрапэйскай прасьветы і грамадзкага ладу. Да энцыклікі быў далучаны с і л л а б у с, сьпіс сучасных памылак. Іх было налічана 80, і яны былі распадзелены на рубрыкі. Былі асуджаны ўсе філасоўскія навукі пад назовамі: пантэізм, натуралізм, рацыяналізм; асуджалася свабода веравызнаньня, роўная, у вачах папежа, роўнадушнасьці да веры; асуджаўся послух духавенства сьвецкім законам і, паміма сацыялізма, такжа лібэральныя навукі.



Упорчывасьць Піуса IX толькі завострывала барацьбу за нацыянальнае аб'яднаньне Італіі. Гарыбальдзі тры разы прабаваў уварвацца са сваімі дабрахотнікамі ў папескую ваколіцу. Але яго затрымлівалі французы, якія баранілі сьвецкую ўладу папежа. Трэці раз пры Мэнтане (**1867**) блізка ўся яго тысяча, лепшыя сыны Італіі, была перастраляна францускімі жаўнерамі, на вачах сардынскай арміі, якая вельмі спакойна адняслася да гэтага здарэньня.

Між тым у **1866** годзе вырашылася доля Вэнэціі і зноў, як у **1859** г., пры чужой помачы. Цяпер саюзьнікам італьянцаў была Прусія, якая ваявала з Аўстрыяй, каб аканчальна выцясьніць яе з Нямеччыны. Італьянцы напалі на вядомы чатыракутнік крэпасьцяў, якія здаўна былі галоўнай абаронай Аўстрыі. Хаця аўстрыйцы разбілі італьянцаў на тым-жа мейсцы, дзе ў **1848** годзе разбіў іх Радэцкі, хаця флот італьянскі быў знішчаны ў Адрыятыцкім моры, але ў выніку ўсяго італьянцы выгралі, бо іх праціўнікі пацярпелі поўную няўдачу ў Нямеччыне. Зноў Аўстрыя адступіла Вэнэцію Напалеону, а той перадаў яе Італіі з варункам, каб там быў праведзены плебысцыт аб далучэньні. Што датыча Рыму, то францускі міністр заявіў, што Італія „ніколі" туды ня ўвойдзе.

Адчуваючы сябе баспечным пад прыкрыцьцем францускіх войскаў, папеж склікаў усесьветны сабор у Ватыкане (зімой **1869** года), які ня быў скліканы ўжо тры стагодзьдзі г. зн. ад Трыдэнцкага сабору (**1549—1563**). Гэтым Піус IX меўся закончыць арганізацыю каталіцкай цэркві; да таго часу непамыльнай называлі цэркву, цяпер меліся прызнаць н е п а м ы л ь н а с ь ц ь п а п е ж а і гэта ўвясьці ў каталіцкую навуку як догмат.

У саборы прымала ўдзел толькі духавенства; прамовы і спрэчкі адбываліся па лаціне; папеж назначыў зьмест пытаньняў і іх чарод. Праціўнікі папескай непамыльнасьці, па большай часьці духавенства с прадальпійскіх краін, некалькі

разоў прабавалі ўгаварыць папежа, каб той зьняў с парадку дня гэта пытаньне. Папеж, разгневаны тым, што яму процiўстаўляюць царкоўную апавесьць, заявiў: „царкоўная апавесьць—гэта я!“ Спрэчкi былi спынены ў сярэдзiне, i нязгодныя з догматам непамыльнасьцi разьехалiся да галасаваньня.




Рыс. 8. — Аб'яднаньне Італіі. 1. — Сардынскае каралеўства. 2. — Ламбардзія, здабытая Сардынскім каралём у 1859 годзе. 3. — Савоя і Ніца, ў тым жа годзе аддадзеныя Франціі.—4. Нэапаль, часьць царкоўнай ваколіцы, Таскана, злучаная с Сардыніяй ў Італьянскае каралеўства ў 1860—1861 годах. 5.—Вэнэцыя, здабытая ў 1866 годзе. 6.—Рымская ваколіца, занятая ў 1870 годзе.

Папеж распусьціў сабор, але догмат непамыльнасьці, ядыная справа разгледжаная саборам, быў прыняты і абвешчаны, біскупы ўсіх краін паддаліся і прызналі новы догмат.



У часе, калі сабор канчаўся, Францiя абвесьцiла вайну Прусii i атазвала з Рыму сваё войска. Калi iмпэрыя Напалеона пахiснулася с прычыны здачы францускай армii пры Сэдане, iтальянскае вайска заняло Рым (у верасьнi **1870** года). Гэтым закончылася п а л і т ы ч н а е  а б'я д н а н ь н е  І т а л і і. Папежа прызналi пепарушным гаспадаром у межах Ватыкана i асыгнавалi грошы на ўтрыманьне яго двора, але кароль перанёс сталiцу ў Рым. Папеж пратэставаў процiў адабраньня ад яго сьвецкай ўлады, адмовiўся браць „юдашавы грошы“ i ўходзiць ў якiя-колечы зносiны з урадам. Ён пастанавiў, як „ватыканскi вязень“, нiколi ня выходзiць са свайго палацу i забаранiў духавенству i веруючым католiкам прымаць учасьнiцтва ў палiтычным жыцьцi.

## Лiбэральнае бюргерства i пачатак работнiцкага руху ў Прусii.

Пяцiдзесятыя годы ў Прусii, як i ўсюды пасьля няўдачнай рэвалюцii **1848—49** гадоў, былi часам рэакцii. Ўладу трымала „фэадальная партыя“, якая апiралася на землеўласьнiкаў усходнiх ваколiц Прусii. Лiбэральныя бюргеры, лiчучы безкарысным учасьнiцтва ў парляманце пры iстнуючай выборчай сыстэме, па большай часьцi ад выбараў устрымлiвалiся. Мiж тым прамысловасьць, таргоўля, развiцьцё дарог па усей Нямеччыне iшлi хутка на перад. За 15 гадоў ад **1846** да **1861** дабыча жалеза ўзрасла больш чым у двая, прытасаваньне пары на фабрыках узрасло ў 6 разоў, лiк мэханiчных ткацкiх пастаўкоў ў 4 разы. Даўжыня чыгунак у **1840** годзе была менш чым 500 кiлёмэтраў, а ў **1860** годзе—больш чым 11.000. Прамысловыя прадпрыемцы на столькi ўзмацавалiся, што ўрад прымушаны быў адносiца да iх больш уважлiва. Замяняўшы Фрыдрых-Вiльгэльма IV яго брат Вiльгэльм I (рэгент с **1857** г., ён быў каралём **1861—1888** г. г.) быў раней, ў **1848** г., староньнiкам рэакцii i ўцёк ад народнага гневу; цяпер ён абвесьцiў сябе прыхiльнiкам канстытуцii i адсунуў мiнiстраў фэадальнай партыi. Лiбэральнае бюргерства вышла са свайго пасыўнага становiшча, прыняло ўчасьнiцтва ў выбарах i хутка стварыла ў ландтагу большасьць.

Вiльгэльм I лiчыў асновай прускай палiтыкi ўтрыманьне вялiкага войска i з гэтай мэтай ўвёў трохлетнюю вайсковую

службу, павялічыўшы разам с тым чынную армію і запас. Гэта выклікала надзвычайнае павялічэньне бюджэту ў Прусіі. Палата рашуча адмовілася павялічыць падаткі. Найупорчывей спраціўляліся ўраду дэпутаты прамысловых акволіц на захадзе пры Рэйне і на ўсходзе ў Сілезіі. Гэтак узьнік чатырохлетні (канфлікт) закалот **(1862—1866)**. Кароль ссылаўся на тоя, што ён неабмежаны начальнік арміі, і што палата павінна даваць яму грошы на яе ўтрыманьне. Ландтаг знаходзіў, наадварот, што гэты вымогі нарушаюць яго аснаўное права разглядаць падаткі; апазыція стварыла вялікую партыю „нямецкіх паступоўцаў“, якая дамагалася поўнага парлямантарызму ў Прусіі. Партыя заключала ў сабе квет прускай інтэлігэнціі, паміж іншымі гісторыка Момзэна і натураліста Фірхава. Вільгэльм I гатоў быў адмовіцца ад пасаду, але ў самы цяжкі момант крызысу запрасіў у міністэрства Бісмарка, брандэнбурскага шляхціца, прадстаўніка Прусіі ў саюзным Сойме. Бісмарк, яшчэ ў часе рэвалюціі **1848** г., заявіў сябе рашучым праціўнікам канстытуцыйнага парадку і староньнікам неабмежанай манархіі. Ён пасуліўісьці напралом і зьбіраць падаткі паміма волі палаты. Бісмарк выразна ставіў сваю праграму: „Адзінства Нямеччыны зьдзейсьніцца ня гутаркамі і не пастановамі парляманцкай большасьці, а жалезам і кроўю“.

У часе закалоту цяпер першы раз выступіла ў Нямеччыне работніцкая партыя. Яна стварылася і ўзмацнела ў ваколіцах вялікіх прамысловых прадпрыемстваў, на Рэйне, ў Саксоніі і Сілезіі.

Важнейшы яе арганізатар, Ласаль **(1825—1864)**, злучыў навуку Рыкардо аб жалезным законе заработнай платы і думку Луі Блана аб дзяржаўнай арганізаціі працы. Работнікі па думцы Ласаля, могуць вызваліцца с-пад уціску безсардэчнага закону, які трымае іх на самым нізкім роўні існаваньня, толькі тады, калі яны стануць самі прадпрыемцамі: тады шчэзьне распадзел на заработную плату і даходы капіталістаў, а работнікі дастануць поўную плату за працу. Але для гэтага трэба, каб дзяржава дала грошы. Бо дзяржава-ж сама нішто іншае, як вялікае аб'яднаньне працоўных клясаў: работнікі складаюць 97% жыхарства. Дзяржава ня зможа ўхіліцца ад помачы работнікам калі яны заваююць сабе галасы адпаведна да свайго ліку. Дзеля гэтага першай задачай работнікаў павінна быць дасягненьне агульнага і роўнага выборчага права.



У **1863** годзе ў Лейпцыгу зышліся дэпутаты ад работніцкіх цэнтраў Рэйна і Саксоніі і выбралі Ласаля нязьменным прэзыдэнтам рабатніцкага саюза на 5 гадоў. Ласаль хацеў выкарыстаць закалот, ўступіў ў перагаворы з Бісмаркам і абяцаў яму падтрымку работніцкіх масаў проціў супольнага ворага буржуазіі; раптоўная сьмерць Ласаля на паядынку перашкодзіла стварыць гэту ўгоду. Бісмарк не прадаўжаў зьбліжэньня з работніцкай партыяй, але хутка скарыстаў з галоўнай палітычнай думкі Ласаля—аб агульным выборчым праве.

Другая часьць нямецкіх работнікаў далучылася да таго напрамку сацыялізма, які праводзіў Кароль Маркс **(1818—1883)**. Апошні жыў як эмігрант у Лёндане, і ў **1848** годзе выпусьціў „Камуністычны маніфэст“. Маркс прымаў чынны ўдзел у стварэньні Інтэрнацыянальнага саюза работнікаў, які заклаўся ў Лёндане ў **1864** годзе. Па яго думцы, пралетарыі ўсіх краёў, бяз рожніцы нацыянальнасьці, павінны злучыцца ў адзін вялікі саюз для барацьбы с клясай капіталістаў. Да тэй пары гісторыя была барацьбой паміж клясамі прыгнечаных і прыгнетчыкаў. Наступная барацьба будзе апошняй ў сьвеце, і с пралетарскай перамогай шчэзьне падзел грамадзянства на клясы. Маркс лічыў свой міжнародны сацыялізм „навучным“, а ўсе папярэднія віды сацыялізму „утапічнымі“, г. зн. фантазіяй. Ён імкнуўся ў вялікім творы, пад назовай „Капітал“ (першы том катарага вышаў у **1868** г.) абаснаваць свой сацыялізм навучнымі довадамі.

### Паўночна-Нямецкі саюз і канстытуція ў Аўстра-Вэнгрыі.

Закалот паміж ўрадам і палатай закончыўся разам з вайной, якая была першым крокам аб'яднаньня Нямеччыны сілай.

Бісмарк хацеў выцясьніць Аўстрыю з нямецкага саюза і паставіць на чале яго Прусію. Ён шукаў здарэньня каб задзерціся с суседзямі і знайшоў яго ў пытаньні аб Шлезвіг-Гольштыніі, двох паўночна нямецкіх ваколіцах, якія належылі да Даніі. Нямецкія патрыёты запатрабавалі адняцьця гэтых ваколіц ад Даніі. Бісмарк пасьпяшыў абвесьціць сябе тлума-

чом волі нацыі і пасуліў Аўстрыі сумесна атабраць гэты князьствы, незалежна ад лішне павольнага саюзнага сойма. Пруськія і аўстрыйскія войскі перамаглі датчанаў, але пасьля дзьве вялікіх нямецкіх дзяржавы разышліся ў пытаньні аб далейшай долі Шлезвіг-Гольштыніі. Далей Прусія хацела вайсковага захвату гэтых ваколіц у сваю карысьць, каб заўладаць паўночнай мяжой Нямеччыны і трымаць у сваіх руках злучэньне абодвых мораў, Балтыцкага і Паўночнага. Дзеля таго, што саюзны сойм быў бязсільны вырашыць гэта пытаньне, Прусія абвесьціла новы праект будовы Нямеччыны для дасягненьня „еднасьці нямецкай нацыі"; асновай гэтага ладу Бісмарк хацеў стварыць парлямант, скліканы агульным галасаваньнем. Ня толькі Аўстрыя была проціў такой зьмены, але і ўся паўдзённая Нямеччына і іншыя нямецкія гаспадарствы сярэдняй велічыні (Баварыя, Вюртэмбэрг, Бадэн, Саксонія, Гановэр). Успыхнула вайна **1866** г. Пад кіравецтвам вызначнага стратэга Мольткэ, вялікая і добра вымуштраваная пруская армія хутка яе спыніла: спраціўленьне разрозьненых дружын невялікіх нямецкіх гаспадарстваў было зломлена, галоўныя сілы прусакаў уварваліся праз Саксонію ў Багэмію, і аднэй вялікай пабедай пры Садовай, прымусілі Аўстрыю прасіць міру. Ён адбыўся на варунках, якія саўсім перабудавалі Нямеччыну.

Аўстрыя вышла з яе складу; Прусія далучыла да сябе тры ваколіцы (Гановэр, Гэсэн-Касэль і Гэсэн-Насаў), тыя самыя, каторыя аддзялялі яе заходнія ваколіцы ад усходніх; цяпер яна ўладала адналітым абшарам, унутры якога былі лапінкі толькі нязначных незалежных валаданьняў. Гэты князьствы, а такжа іншыя, што ляжалі па краёх Прусіі, уступілі з ёй ў новы паўночна-нямецкі саюз (гл. рыс. 6); зьне саюза асталася паўдзённая Нямеччына за ракой Майнам. Новае саюзнае гаспадарства павінна было кіравацца прэзыдэнцкай уладай пруская караля, саюзнай радай з дэлегатаў ад ўсіх нямецкіх ўрадаў пад старшынствам прускага канцлера і рэйхстагам (у Бэрліне), г. зн. сабраньнем прадстаўнікаў ад народа, выбраных агульнай падачай галасоў, па адным ад кожных 100.000 жыхароў. Кароль па свайму хаценьню назначаў канцлера, г. зн. галоўнага міністра, кіраваў зносінамі з замежнымі дзяржавамі, абвяшчаў вайну і заключаў мір, камандаваў усім войскам і назначаў урадоўцаў



у агульным кіравецтве; кароль склікаў і распушчаў рэйхстаг; міністры не адпавядальны перад сабраньнем народных прадстаўнікаў.

У самой Прусіі закалот спыніўся. Шляхта, захаваўшы перавагу ў пруском ландтагу і прывілеі на ўрадовай і вайсковай службе, пагодзілася с канстытуцыйным ладам. З другога боку ў бюргерстве стаўся пераварот: яно ў значнай меры адмовілася ад думкі аб мірным аб'яднаньні ў сэнсе **1848** года і паверыла ў вайсковую палітыку. Гэта яскрава выказалася ў летніх выбарах **1866** года, якія адбыліся ў часе вайны. Партыя паступоўцаў, якая падтрымлівала закалот, страціла свае ўплывы: з 230 папярэдніх сваіх мейсцаў яна атрымала толькі 70. У ландтаг ўступіла шмат кансэрватараў з усходніх ваколіц, дзе было вялікае земляўласьніцтва. Адчасьці з быўшых паступоўцаў склалася новая вялікая партыя, нацыянал-лібэральная, которая заявіла, што хоча безаглядна падтрымліваць урад у яго замежнай палітыцы; да яе далучыліся прамыслоўцы, а такжа шмат прафэсароў, якія падтрымлівалі ідэю аб'яднаньня Нямеччыны.

Адначасна з аб'яднаньнем Нямеччыны адбывалася перабудова аўстрыйскай манархіі. Пасьля страты Ламбардзіі ў **1859** г. сам імпэратар у маніфэсьце прызнаў, што прычынай вайсковай няўдачы былі злоўжыцьці; якія „здавён-даўна укараніліся". Ён прасіў падданых помачы і абяцаў правесьці рэформы. Аўстрыйскі ўрад, аднак, не зьвярнуўся да народу, ня склікаў Устаноўчага сабраньня, а дараваў канстытуцыю. Аб агульным выборчым праве ня было і мовы. Усе жыхары былі разьдзелены на 4 курыі, г. зн. на вялікіх земляўласьнікаў, тарговых палат, гараджан і сялан. Парлямант (рэйхсрат) стаўся прадстаўнікам не краіны, а курыяў, якія выбіралі асобна і давалі аграмадную перавагу зямельнай і грашовай арыстакрацыі: ў першай курыі адзін дэпутат прыходзіўся на 60 выбаршчыкаў, у другой на 30, а ў чацьвёртай на 11.000 з гакам.

Канстытуцыя **1861** году была справай, галоўным чынам, заходняй паловы. Але ў Аўстрыі прыцягнуць жыхарства да палітыкі значыла падняць разрахункі паміж народнасьцямі, як у **1848** годзе. Мадзьяры адмовіліся пайсьці ў парлямант і не падтрымалі ўрад у вайне **1866** года проціў Прусіі і Італіі. Пасьля гэтай вайны была новая рэформа, якая блізка што

вярнула мадзьярам здобычы рэвалюцii 1848 года. За вэнгерскім каралеўствам Аўстрыя прызнала незалежнасьць, і палітычны лад быў ўведзены дуалістычны, г. зн. раздвоеньне заходняй і ўсходняй часьцей. Саюз дзьвёх дзяржаваў называецца Аўстра-Вэнгрыя; кождая палова мае сваю сталіцу (Вену і Будапэшт), свой парлямант, сваіх міністраў, свае законы і сваю нацыянальную мову. Яны злучаны асобай гаспадара, каторы называецца ў аднэй палове імпэратарам, а ў другой—каралём; у іх агульнае кіравецтва толькі ў зьнешніх справах і супольныя фінансы для арміі і флота.

### Упадак імпэрыі ў Францыі.

Перамога Прусіі ў 1866 годзе і аб'яднаньне пад яе зьверхніцтвам паўночнай Нямеччыны вельмі ўстрывожылі Напалеона III тым больш, што становішча імпэрыі ў Францыі пачало хістацца.

Лад імпэрыі заснаваўся на рэакціі сярод буржуазіі і сялянства, напужаных сацыялізмам; галоўная апора ўраду Напалеона было каталіцкае духавенства, каторае грала на кансэрватыўным пачуцьці народа, на жаданьні спакою і варожасьці да пераваротаў. У першы час прамысловыя клясы былі задаволены росквітам таргоўлі і ўдачамі французскай прамысловасьці за граніцай. У 1860 годзе Напалеон заключыў торговы дагавор з Англіяй; пры гэтым чынны ўдзел з англійскага боку прыняў Кобдэн. Ўрад Напалеона III вельмі захочваў і вялікія ўнутраныя прадпрыемствы, якія маглі падняць французскую прамысловасьць, будову чыгунак, заснаваньне вялікіх пазычковых установаў. Многа было зроблена высілкаў на тое каб прыбраць і аздобіць Парыж; у рожных яго часьцях, асабліва ў старых работніцкіх кварталах, з іх завілым лябірынтам вузкіх вулачак, зьнясьлі ўсе будынкі і на іх мейсцы пабудавалі шырокія бульвары, г. зн. простыя вуліцы з алеямі. Пасьля гэткай перабудоўкі, немагчымы сталі барыкадныя бойкі, якія некалькі разоў вырашалі долю французскіх урадаў. Сваей прамысловасьцю, выстаўкамі, выскачкамі, тэатрамі, сьвятамі, прыдворным жыцьцём Парыж пры імпэрыі прыцягаў множства чужаземцаў; але гэта былі ня эмігранты і рэспубліканцы Эўропы, як ў 40-х гадах, а турысты і флянёры, ігракі і спэкулянты.



Паступенна ўрад Напалеона III стаў траціць сваіх прыхільнікаў. Дапамагаючы аб'яднаньню Італіі, ён гэтым памог адабраньню сьвецкай ўлады папежа. Каталікі-ультрамантаны, каторыя так рашуча падтрымлівалі яго ў часе другой рэспублікі і ў часе пераварота 1851 года, разышліся з ім пасьля італьянскіх здарэньняў 1859 года. Пасьля гэтай вайны Напалеон прадаўжаў сваю безпакойную палітыку, ён суліў дзяржавам склікаць кангрэс з мэтай правясьці агульнае абязброеньне, але сам насіўся з думкамі аб зямельных здобычах, аб далучэньні Бэльгіі і звароце Францыі межаў, якія яна страціла ў 1814 годзе. Але французская армія была вельмі растроена і для запраўднага чыну ня была годна; ўсе пытаньні, якія адносіліся да аб'яднаньне Нямеччыны і Італіі, вырашаліся ўжо паміма Напалеона; ён прымушаны быў толькі згаджацца з вынікамі. Бісмарк першы прызнаў ў імпэратары „неразгаданую нікчэмасьць“; ён заахвочваў Напалеона ў яго плянах разьдзелаў і здобычаў, але калі сам дасягаў удачаў, то імкнуўся давясьці да разрыва, каб разбурыць Францыю ў вайне.

Чым горшыя былі справы зьне, тым больш разумеў імпэратарскі ўрад патрэбу ўступак грамадзянству, і прымірэньня с сабой праціўнікаў. Калі, аднак, у заканадаўчы корпус ўступіла ў 1863 годзе больш 50 чалавек апазыціі, і калі адзін з іх, Тьер, пасуліў прыблізіцца да канстытуцыйнага ладу, даць Францыі свабоду друку і сабраньняў, галоўны міністр Руэр, заўзяты бапапартыст, рашуча заявіў, што гульня ў канстытуцію давяла да зрынуцьця дзьвёх дынастыяў, што імпэратар сам кіруе і будзе кіраваць. Але пасьля вайны 1866 года ўрад абвесьціў закон аб друку, які адмяніў сыстэму дазволаў па залогах і папярэджаньняў, а замест таго ўвеў заявачны парадак (простая заява радактара аб выхадзе выданьня), хаця ўсе новыя газэты былі воража настроены да імпэрыі. Напалеон даў адстаўку Руэру і пасуліў рэфамаваць Францію ў лібэральную імпэрыю: палата павінна была атрымаць заканадаўчую ініцыятыву (права ўнасіць праекты), права выбіраць свойго старшыну, прымаць рэзалюцыі агульнага характару, міністры павінны былі стаць адпавядальнымі перад палатай. На выбарах 1869 года выступіла радыкальная партыя, і яе прамоўца, адвакат і журналіст Гамбэтта, абвесьціў „рашучую апазыцію“ ўраду. Да яго

бэльвільскай праграмы (названай так ад прадмесьця Парыжа) далучыліся парыскія работнікі.

Згодна напалеонскаму прынцыпу рэформу паставілі на агульнае галасаваньне. Адповедзь „так“ значыла ня толькі жаданьне рэформы, але і наогул падтрымку імпэрыі. Зноў былі пушчаны ў ход усе способы ўрадовага націску на грамадзянства. Плебысцыт траўня месяца **1870** года даў 7 міліёнаў „так“ і $1^1/_2$ міліёны „не“. Гэты апошнія галасы далі, галоўным чынам, вялікія гарады, а ў Парыжы, Ліоне, Марсэлю, за апазыцыяй была, нат, большасьць.

### Франка-прусская вайна і аб'яднеьне Нямеччыны.

Аднак, становішча імпэрыі было вельмі нямоцным. За Рэйнам склалася моцнае вайсковае гаспадарства. Баючыся яго і хочучы сябе выратаваць, урад Напалеона абвесьціў вайну Прусіі. Замест таго, каб мець падтрымку паўдзённых немцаў, Францыя стала перад фактам далучэньня іх да паўночна-нямецкага саюза (гл. рыс. 6). Уся нямеччына узброілася (у чэрвені **1870** года).

Француская армія апынулася ў цяжкім становішчы: ў ёй лічылася 750000, а запраўды аказалася каля $^1/_3$ гэтага ліку; жаўнеры былі добрыя, але вышэйшае кіравецтва, дастача правіянтаў, разьведка—вельмі дрэнныя; ў той час як у немцаў былі вельмі добрыя пляны Францыі, француская армія іх саўсім ня мела. Вайной кіраваў Мольткэ, які даўно ўжо апрацаваў плян нападу на Францыю. Немцы сваім націскам папярэдзілі французаў і бойкі пачаліся ў Эльзасе на францускай зямлі. Пасьля некалькіх няўдач француская армія апынулася абкружанай ў крэпасьці Мец, а другая лікам у 80000, якая йшла да яе на помач і пры якой знаходзіўся сам Напалеон, была прымушана здацца каля бэльгійскай мяжы, ў Сэдане, разам з імпэратаратам.

Калі весткі гэты дайшлі да Парыжа, там успыхнула рэвалюцыя (4 верасьня **1870** г.); дынастыю Напалеона абвесьцілі зрынутай і ўзнавілі рэспубліку; Ліон, Бордо і Марсэль высказаліся за рэспубліку яшчэ раней чым Парыж. Рэспубліканцы пастанавілі прадаўжаць вайну з Нямеччынай, але Францыя ўжо ня мела арміі: манархіст гэнэрал Базэн, ня хочучы бараніць рэспубліку, здаўся ў Мецу з войскам у 180.000 чалавек. Быў



створаны ўрад нацыянальнай абароны. Часьць яго асталася ў Парыжы, які ўжо ў 2 тыдні пасьля Сэдана быў абступлены немцамі; другая часьць сабралася ў Бордо, і да яе далучыўся Гамбэтта, каторы на балёне выляцеў с Парыжа.

У той час як у Парыжы ўзброілі нацыянальную гвардзію, і аграмадны горад ледзь трымаўся, ў тых мейсцах Францыі, дзе яшчэ немцаў ня было, Гамбэтта стварыў некалькі арміяў з запасных (мобіляў) і дабрахотнікаў. Арміі гэты павінны былі ісьці на помач Парыжу. Але нямецкая армія была куды лепш выўчана і большая лікам, і новыя францускія войскі былі лёгка разбіты немцамі, а Парыж с прычыны голаду здаўся. Бісмарк варункам міравой паставіў аддачу Эльзаса і паловы Латарынгіі з Мецам і 5 міліярдаў ваеннай кантрыбуціі (гэты мір **1871** г. называецца Франкфурцкім)

У часе вайны адбылася аканчальнае аб'яднаньне Нямеччыны. Нямецкія каралі і князі сабраўшыся ў Вэрсалі ў часе абступу Парыжа, пасулілі Вільгэльму імпэратарскую карону. На Нямецкую імпэрыю, ў якую ўвайшлі і паўдзённыя ваколіцы, распашырыўся той лад, які ужо быў у Паўночна-нямецкім саюзе, пры захаваньні мяйсцовых (26-ці) урадаў і ландтагаў. На аснове імпэрскай канстытуціі, агульнанямецкі рэйхстаг выбіраўся агуаьным галасаваньнем і павінен быў быць прадстаўнікам усей націі, незалежна ад паасобных гаспадарстваў імпэрыі; агульнымі справамі лічыліся армія і флот, кіравецтва шляхамі, почтай, тэлеграфам, зьнешняя таргоўля.

Ня гледзячы на агульнае выборчае права, Нямеччына ў многіх рысах захавала манархічна-урадоўчы лад. Імпэратар складаў міністэрства незалежна ад партыяў ў рэйхстагу. Канцлерам астаўся, нязьменны с **1862** гаду, Бісмарк, і на гэтым мейсцы ён прабыў да **1890** года (с **1888** года пачалося кіравецтва Вільгэльма II, каторы і даў адстаўку Бісмарку). Увесь гэты час ён фактычна кіраваў неабмежана, саўсім паддаўшы сабе недалёкага Вільгэльма I, назначаючы і зьмяняючы міністраў, на якіх ён глядзеў не як на сваіх таварышоў, але як на сваіх сакратароў. У рэйхстагу ані водная партыя ня мела абсалютнай большасьці (г. зн. больш паловы ўсіх галасоў). Пры стварэньні імпэрыі галоўнай апорай Бісмарка былі нацыянальныя-лібэралы, староньнікі еднасьці, якія злучалі вай-

псковы патрыятызм з вымогамі ўмяркаванай палітычнай свабоды. Яны падтрымалі канцлера ў барацьбе з саўсім новай каталіцкай партыяй, якая да тэй пары была саўсім нязначнай і першы раз праявіла сябе на агульных выбарах і ўзмоцнілася дзякуючы варожасьці да імпэрыі; партыя назвалася цэнтрам, бо прыпадкова заняла асяродковыя мейсцы у рэйхстагу.

У імпэрыі было сьпярша праведзена аддзяленьне цэркві ад гаспадарства: сьвецкая ўлада дазволіла духавенству свабодна выбіраць і назначаць на царкоўныя пасады, пакінула яму нагляд за царкоўнымі школамі і незалежныя зносіны с папежам. Але каталікі вымагалі, каб папежу была вернута сьвецкая ўлада; яны хацелі ўвясьці ў імпэрскую канстытуцыю стацьцю аб „свабодзе рэлігіі“, г. зн., такжа як у Францыі ў **1850** годзе, ўстанавіць зьверхніцтва цэркві над усім навучаньнем і над сямейным жыцьцём.

Калі на чале партыі цэнтра стаў Віндгорст, быўшы міністр зрынутай ў Гановэры дынастыі, і злучыў с каталікамі нездаволеных імпэрыяй вэльфаў (гановэрцаў), палякаў і эльзасцаў, Бісмарк сказаў ў рэйхстагу: „Мы ня пойдзем у Каносу“ (мейсца ўніжэньня нямецкага імпэратара перад папежам у **1077** г.). У імя незалежнасьці імпэрыі ўрад настаяў на тым, што езуітаў выгналі з Нямеччыны, а такжа правеў праз рэйхстаг сьцясьняючыя, так званыя „травенскія“, законы (**1873**—**1875**): ўводзіўся грамадзкі шлюб (г. зн. неабавязковасьць царкоўнага асьвячэньня замужства), ад кандыдатаў на сьвятароў вымагалі ўнівэрсытэцкай асьветы і здачы эгзаменаў, ўрэшце, ўсякае назначэньне на духоўную пасаду павінна было ісьці на зацьверджаньне ўраду. Тых біскупаў, каторыя не паддаваліся гэтым вымогам, сталі срога караць; іх цягнулі ў суд, пазбаўлялі пасадаў і даходаў, і, нат, садзілі ў турму. Закалот, які лібэралы, староньнікі Бісмарка, празвалі культурнай барацьбой, прыняў вострую форму. Адзін час блізка ўсе біскупскія пасады былі не занятымі, да тысячы сьвятароў было замешчана. Але разбіць каталіцкую партыю Бісмарку не ўдалося. Каталікі нічога ня ўступілі; прышлося аслабіць срогасьці і вярнуць біскупаў.

Другога праціўніка імпэрыі Бісмарк бачыў ў сацыялістах. У **1875** годзе староньнікі Ласаля і Маркса, да тэй пары



варожыя сабе, аб'ядналіся ў агульную сацыял-дэмакратычную партыю. Хаця на выбарах проціў сацыялістаў злучыліся ўсе іншыя партыі, аднак, ім удавалася праводзіць сваіх кандыдатаў і, нат, заваяваць сабе часьць Бэрліна. Дзеля пагражаючага росту сацыял-дэмакраціі Бісмарк у **1878** годзе правёў выключны закон, які забараняў ўсякія выданьні і сходы сацыялістаў. С **1881** г. канцлер прабаваў сам ўступіць на шлях сацыяльнай палітыкі, г. зн. абароны работніцкіх спраў. У рэйхстаг былі ўнесены праекты законаў аб страхоўцы работнікаў ад няшчасных здарэньняў і ад хваробы, а такжа аб абаспечаньні іх на старасьць, пры чым страховыя грошы складаліся з ўзносаў работнікаў і прадпрыемцаў, а часьць давала казна.

### Усходнае пытаньне ў 70-х гадах і Бэрлінскі кангрэс.

Да **1817** году, пасьля вялікіх закалотаў паміж Аўстрыяй, Прусіяй, Францыяй і Італіяй, буйныя эўрапейскія нацыі аб'ядналіся і паадзяляліся адна ад другой. За 43 гады (**1871**—**1914**) вайна была толькі на Балканскім поўвостраве.

У эўрапэйскай часьці Атаманскай Порты туркі складалі меншасьць і былі земляўласьнікамі, ўрадоўцамі, жаўнерамі. Падуладнае, пераважна хрысьціянскае жыхарства, земляробы, вінаградары, скатаводы, таргоўцы, саўсім абяззброеныя, доўгі час ня мелі магчымасьці вясьці змаганьне з заваёўнікамі тым больш, што паасобныя народнасьці—сэрбы, баўгары, грэкі, моцна с сабой дзерліся. Толькі ў гарыстай заходнай часьці Балканскага паўвострава праваслаўныя чарнагорцы і албанцы, адчасьці каталікі і мусульманы, самі дабіліся блізка незалежнага становішча. Народы раўніны і адкрытай паўночнай і ўсходнай часьці Эўрапэйскай Турціі выігралі дзякуючы заваёўніцкай палітыцы Расіі, якая імкнулася заўладаць Чорным морам і яго выхадамі, а такжа Аўстрыі, якая шукала доступа да Адрыятыцкага і Эгейскага мора. Абедзьве дзяржавы, падтрымліваючы паўстаньні, самі здабывалі ад Турціі землі. Такім чынам з **1830** да **1886** году вырашалася ўсходнае пытаньне і адбываўся паступенны разьдзел Эўрапэйскай Турціі.

Яшчэ ў **1830** годзе, адначасна с прызнаньнем незалежнай Грэціі, аддзялілася ад Турціі і стала васальным княж-

ствам, Сэрбія; ў 1867 г. яна асвабадзілася ад турэцкіх войскаў. Васальнае княжства Валахія і Малдавія хутка пасьля Парыскага кангрэсу, аб'ядналіся ў незалежную ад Турціі Румынію (1859). Найбольшаму лікам на Балканскім поўвостраве народу баўгарскаму, прышлося найдаўжэй дабівацца незалежнасьці. У 1875 годзе пачалося паўстаньне процiў Турціі блізкіх па крыві да сэрбаў горцаў Гэрцэгавіны Сэрбаў, якія выступілі ў іх абарону, Туркі разбілі, а турэцкія башы-базукі спагналі злосьць на мірным жыхарстве Баўгарыі. Ўсё гэта прымусіла ўмяшацца Аўстрыю і Расію. Аўстрыя заняла Боснію і Гэрцэгавіну. Расійская армія перайшла Дунай, ўступіла ў Баўгарыю і ў цяжкой зімовай вайне 1877—1878 г. адцясьніла туркаў за Балканы. Калі расійскае войска прыблізілася да Канстантынопаля, нячэўкі зьявіўся у Дарданэлах англійскі флот, каб перашкодзіць Расіі захапіць праліў, г. зн. здабыць свабодны выхад с Чорнага мора. Расія пасьпела заключыць с Турціяй ўмову ў Сан-Стафано, па каторай поўную незалежнасьць атрымалі Румынія, Сэрбія і Чарнагорыя, а разам с тым склалася вялікая незалежная Баўгарыя на абедзьвех старанах Балканаў з выхадам у Эгейскае мора. Дзеля пратэстаў Аўстрыі і Англіі Расія павінна была згадзіцца с пасулам Бісмарка пераглядзець ўсё ўсходнае пытаньне на агульнаэўрапэйскім кангрэсе.

У летку 1878 года адбыўся т р э ц і ў XIX ст. (першы Венскі 1815 г., другі Парыскі 1856 г.) в я л і к і к а н г р э с эўрапэйскіх дзяржаваў у Бэрліне; старшыной яго быў Бісмарк. Бэрлінскі кангрэс даваў невялікія тэрыторыі Сэрбіі, Грэціі, Румыніі і Чарнагорыі, пакінуў Боснію і Гэрцэгавіну за Аўстрыяй, і прызнаў расшырэньне расійскіх зямель да ўвусьця Дуная. Баўгарыю разьдзялілі на тры часьці: прыморскую (Македонію) аддалі назад Турціі; с паўдзённай забалканскай стварылі, пад назовай Ўсходнай Румэліі, ваколіцу пад кіравецтвам хрысьціянскага гэнэрал-губарнатара, якога назначаў султан, і толькі с перадбалканскай паўночнай часьці стварылі васальнае княжства, якое па праўдзе было незалежным.

У 1885 г. баўгары Ўсходнай Румэліі далучыліся да незалежнай часьці Баўгарыі. Такім чынам стварылася вялікае аб'яднанае княжства (у пачатку XX ст. князь баўгарскі прыняў тытул цара). Ўсе гаспадарствы Балканскага поўвострава, якія былі створаны с турэцкіх ваколіц,—Царства Баўгарскае,



каралеўствы Румынія, Сэрбія і Грэція,—ўвялі ў сябе агульнаэўрапэйскія ўстановы, канстытуцыйны лад і агульную вайсковую службу.

---

## IX.

## Францiя i Англія да пачатку XX стагодзьдзя.

### Парыская камуна і буржуазная рэакцыя ў Францыі.

Трэцяя рэспубліка пачала сваё істнаваньне жорсткім закалотам. Сьледам за парыскай рэвалюцыяй 4-га верасьня, зрынуўшай імпэрыю, пачаўся абступ горада з двухміліённым жыхарствам. Войска ня было, была створана нацыянальная гвардзія, для чаго было ўзброена каля 300.000 чалавек, пераважна работнікаў, дробных майстароў і моладзі. У большасьці гэта былі патрыёты, вымагаўшыя „война да пабеднага канца“. У працягу пяці месяцаў людзі былі без занятку, ў сталай небаспецы ад бамбардыроўкі і пад канец—пад страхам голада. Абаронцы Парыжа былі вельмі зьдзіўлены, калі даведаліся, што ўся Францыя капітулявала перад немцамі. Нацыянальнае сабраньне, якое зышлося ў Бордо, а пасьля ў Вэрсалі, склалася з праціўнікаў вайны, пасланых, галоўным чынам, сялянамі, земляўласьнікамі і буйнай буржуазіяй, у значнай меры с кансэрватараў і староньнікаў прагнаных дынастыяў. Калі абступ Парыжа скончыўся, людзі заможныя сьпяшылі выехаць з горада; ў спустошаным горадзе аставалася толькі беднота, работнікі, дробны люд, якому негдзе было дзецца. Новы вэрсальскі ўрад, на чале якога сабраньне паставіла Тьера, давёў іх раздражненьне да апошняй ступені: ён пастанавіў атабраць у нацыянальных гвардзейцаў, г. зн. работнікаў, якія ня мелі ніякіх заработкаў, іх штодзенную пэнсію ў $1\frac{1}{2}$ франкі, а ў той-жа час запатрабаваць аплаты кватэр і наогул ўсіх ўзносаў, якія былі адложаны на час абступу; апошнія меры пагражалі поўным зруйнаваньнем дробнай буржуазіі. Але парыскае жыхарства было ўзброена; нацыянальныя гвардзейцы прынялі чырвоны рэвалюцыйны сьцяг, адмовіліся выдаць гарматы і адбілі рэгулярныя войскі. У Парыжы была абвешчана к а м у н а, г. зн. поўная незалеж-

насьць горада; павадыры камунальнай рэвалюцііі памясьціліся ў гарадзкой Думе, стварылі новую гарадзкую раду і зьвярнуліся з адозвай да іншых гарадоў, сулючы перабудаваць Францію ў фэдэрацію камунаў.

Заможныя клясы, маючы на чале вэрсальскі ўрад, пачалі вайну проціў камуны; адбыўся новы абступ Парыжа. Вэрсальскія войскі захапілі сталіцу і растралялі некалькі тысяч палонных камунараў. Множства камунараў былі аддадзены пад ваенны суд, які саслаў $7^1/_2$ тысяч у нездаровую калёнію Новай Каледоніі; за палітычныя пагляды асуджалі на катаргу.

Франко-пруская вайна і няўдача парыскай камуны мелі ўплыў на долю работніцкага інтэрнацыянала, які зьбіраўся штогод с **1866** г. на кангрэсы: нацыянальная варожасьць раз'яднала работнікаў рожных краін; са зьнішчаньнем камуны было ўхілена много гарачых староньнікаў саюза. Да цяжкіх зьнешніх удараў далучыліся яшчэ ўнутраныя разыходжаньні ў самым Інтэрнацыянале; партыя Маркса, староньніка захвата рабочымі дзяржаўнай ўлады, разышлася з анархістамі, якімі кіраваў расійскі эмігрант Бакунін. Кангрэсы работнікаў с **1872** г. спыніліся.

Крывавая драма **1871** года надала асаблівы характар будове Францыі. Большасьць у нацыянальным сабраньні, раздражненая „бунтарскімі" работнікамі, вымагала самых срогіх мераў. Прадстаўнікі працоўных, калі хацелі згаварыцца паміж сабой, павінны былі з надзвычайнай асьцярожнасьцю скрывацца дзе-колечы ў карчомных скляпох; за імі сачылі пры помачы дабрахотных даношчыкаў і пры найменшым падазрэньні арыштоўвалі. Зьверхнік выканаўчай ўлады Тьер, які атрымаў тытул прэзыдэнта рэспублікі, саўсім далучыўся да настрояў большасьці; ён казаў; „рэспубліка будзе кансэрватыўная, або яе саўсім ня будзе". Манархісты мелі ў палаце перавагу; дзелючыся на тры варожыя адна аднэй дынастычныя партыі (легітымістаў, арлеаністаў, банапартыстаў), яны згодны былі ў тым, каб не даваць пакуль-што Францыі аканчальнай формы і пры першым здарэньні зрынуць рэспубліку. У 1873 годзе дзьве першыя партыі згаварыліся, ўрэшце, на абабраньне каралём графа Шамбора, ўнука Караля X. Але гэты, апошні з Бурбонаў, сам зрабіў сваё паяўленьне ў Францыі немагчымым, абвесьціўшы, што прыме



белы сьцяг Гэнрыха IV і Жанны д'Арк", і асудзіўшы вялікую рэвалюцыю **1789** года.

Між тым сабраньне скінула Тьера і выбрала прэзыдэнтам гэнэрала імпэрыі, камандаваўшага пры Сэдане, Мак-Магона, які ня быў проціў манархічнай рэстаўрацыі; ўлада прэзыдэнта была пры гэтым азначана на даволі доўгі час, 7 гадоў. Мак-Магон склаў міністэрства „маральнага парадку" з манархістаў. Сьцясьнілі тэатр і друк, забаранілі продаж газэт на вуліцах. Каталікам быў дадзены поўны прастор: езуіты сталі ладзіць вялізныя працэсіі да капліцы Сэрца Ісуса Хрыста ў Парыжы ў знак таго, што яны вымагалі звароту папежу сьвецкай ўлады. Ня гледзячы на тоя, што ніжэйшая і сярэдняя школы ужо былі ў руках каталікоў, яны дамагаліся яшчэ „свабоды вышэйшай асьветы", г. зн. адданьня ім унівэрсытэтаў.

## Рэспубліканская канстытуцыя.

Аднак французы не хацелі рызыкаваць новай рэстаўрацыяй. Манархісты унікалі называць Францію рэспублікай, але прымушаны былі, ўрэшце, згадзіцца на апрацаваньне канстытуцыі.

У **1875** годзе ў сабраньні рэспубліканцы (левыя) лікам былі блізка роўны манархістам (правым). Сьпярша ў праекце будовы ўлады не ўспаміналася імя рэспублікі, і толькі калі ад правых аддзялілася невялікая група і перайшла да рэспубліканцаў, — большасьцю аднаго голаса пастанавілі ўвясьці назоў рэспублікі. Такжа нязначнай большасьцю было вырашана пытаньне аб сэнаце, г. зн. верхней палаце. Манархісты хацелі, каб сябры яго назначаліся прэзыдэнтам. Партыя згаджалася на тоя, каб $^1/_4$ сяброў сэната была назначана нацыянальным сабраньнем на ўсё жыцьцё, а пасьля ўжо гэта $^1/_4$ дапаўнялася-бы самім сэнатам; рэшта $^3/_4$ выбіраюцца на 9 гадоў па дэпартамантах, пры чым выбіраюць калегіі складзеныя с сяброў гэнэральных радоў (земскіх сабраньняў) і прадстаўнікаў грамад. Палата дэпутатаў павінна была выбірацца агульнай падачай галасоў. Заканадаўчая ўлада прадстаўлена абедзьвем палатам роўна. Абадвы сабраньні законна могуць засядаць толькі 5 месяцаў на год; на рэшту часу прэзыдэнт можа адсрочыць засядань-

не і кіравацць адзін. Для выбара прэзыдэнта сэнат і палата дэпутатаў злучаюцца ў кангрэс. Канстытуція 1875 года, якая істнуе ў Франціі да сягодняшняга дня, носіць адзнакі манархічнага паходжаньня: прэзыдэнту, які выбіраецца на 7 гадоў, дадзена становішча канстытуцыйнага караля, ён мае права распускаць палаты і назначаць міністраў. Запраўды ж палітычнае жыцьцё Франціі пайшло шляхам парляманатарнай дэмакратычнай рэспублікі. Палата, складзеная з народных прадстаўнікаў, с самага пачатку атрымала перавагу над усімі другімі установамі. Прэзыдэнт павінен быў кіравацца думкамі парляманцкай большасьці і згодна з гэтым складаць і зьмяняць міністэрствы. Атрымаўся лад, падобны на англійскі кабінэтны.

Пасьля прыняцьця канстытуціі у новай палаце большасьць склалі рэспубліканцы. Аднак, ня гледзячы на ясна выражаныя настроі края, Мак-Магон хацеў „ісьці да канца“ і падгатаваць зварот манархіі. Ён даў адстаўку рэспубліканскім міністрам і ўзяў кансэрватараў (1877). Палата большасьцю 363 галасоў высказалася проціў новых міністраў; тады Мак-Магон са згоды сэната распусьціў палату. Для новых выбараў кансэрватыўныя міністры выставілі афіцыяльных кандыдатаў, як у часе імпэрыі; ўсюды яны зьмянялі ўрадоўцаў і прыхільныя да рэспублікі гарадзкія думы, рабілі перашкоды рэспубліканскім сходам і распашыраньню рэспубліканскіх газэт. Духавенства старалася настроіць веруючых проціў рэспублікі.

Для змаганьня з агульным манархістычным фронтам, умяркаваныя і радыкальныя групы такжа аб'ядналіся пад кіравецтвам Гамбэты: ўсе 363 выступілі з аднэй агульнай праграмай. Ня гледзячы на ўсе высілкі кансэрватараў, выбары далі большасьць рэспубліканцам. Мірныя шляхі для рэакціі былі вычарпаны; але Мак-Магон не адважыўся на дзяржаўны пераварот, як гэта было 2 сьнежня 1851 года. Ён зноў запрасіў ў міністры рэспубліканцаў, а праз год сам падаўся ў адстаўку. На яго мейсца быў выбраны стары рэспубліканец 1848 года, Грэві (1879 г.).

**Буржуазія і сацыялізм у канцы XIX стагодзьдзя.**

У часе барацьбы 1877 года Гамбэта выставіў кліч: „запраўдны наш вораг — клерыкалізм“. У згодзе з гэтым клічам, міністр прасьветы, Фэрры, пасуліў атабраць ад каталіцкіх вышэйшых школаў тытул унівэрсытэтаў і разам с тым забараніў ўсім сябрам недазволеных у Франціі духоўных ордэнаў быць вучыцелямі ў сярэдніх школах. З апошнім загадам нязгодзіўся сэнат. Тады рэспубліканскія міністры пастанавілі ўжыць старыя законы часаў рэвалюціі і выдаліць іх сяброў с Франціі; ў 1880 годзе закрылі ордэнскія дамы езуітаў, езуіцкія школы і да 300 манастыроў. Фэрры правёў такжа рэформы ў народных школах. Пачатковая асьвета была абвешчана абавязковай дармовай і сьвецкай. Кождая грамада павінна мець школу, якая ўтрымліваецца на мяйсцовыя і дзяржаўныя грошы; ніхто ня можа ўхіліцца ад пасыланьня ў яе сваіх дзяцей; навучаньне рэлігіі — не абавязкова.



Гэта рэформа была галоўнай ў рэспубліканскай праграме Гамбэты і множства яго прыхільнікаў. На вялікім мітынгу Тарговага саюза Гамбэта быў старшыной і меў прамову проціў „хімэраў“ і аб навуцы матэрьяльнай роўнасьці, якія „прыносяць толькі шкоду работнікам“. Праца і капітал павінны ня дзерціся паміж сабой, а мірна супернічаць на агульнае дабро Франціі. Даволі даць агульную свабоду слова і сходаў, каб разьвязаць ўсе спрэчкі паміж работнікамі і прадпрыемцамі.

У палаце ад Гамбэты аддзяліліся радыкалы, або скрайна левыя, якія закідалі ўмяркаваным рэспубліканцам тое, што яны сталі опортуністамі (г. зн. сталі прытасоўвацца да варункаў і абставін). Опортунізмам называлі с таго часу ўмяркаваную буржуазную палітыку. Радыкалы вымагалі адмены сэната, як установы варожай дэмакраціі, падаходнага падатку, які павінен павялічацца з памерамі дахода (прагрэсыўны падатак), выкупа дзяржавай чыгунак, аддзяленьня цэркві ад дзяржавы. Асабліва рэзка Гамбэта разышоўся з работніцкімі групамі. Дзякуючы амністыі, зноў сярод іх зьявіліся камунары. Калі Гамбэта выступіў ў 1881 годзе перад сваімі старымі выбаршчыкамі ў Бэльвілю, яго сустрэлі свістам і не давалі гаварыць. У свой чарод Гамбэта прыгразіў „знайсьці крыкуноў ў іх бярлогах“. Складзенае Гамбэтам міністэрства было зрынута ўжо праз тры месяцы. Праз год пасьля гэтага ён памёр (у канцы 1882 г.).

Яго наступнік у міністэрстве, Фэрры, прадаўжаў палітыку опортунізма, якая была карысна для буйнай буржуазіі. Замест таго, каб выкупіць чыгункі, быў падпісаны доўгачасовы дагавор з вялікімі кампаніямі, па якім чыгункі перадаваліся ў іх поўнае распараджэньне. Фэрры стараўся такжа даць простор інтэрэсам прамыслоўцаў у зьнешней палітыцы. Пасьля таго, як узьнікла моцная ваяўнічая Нямеччына трэба было растацца з думкай аб францускіх заваяваньнях у Эўропе. Але можна было шукаць у калёніях новых рынкаў для францускіх вырабаў, і імкнуцца здабываць землі ў краінах з нявысокай культурай. У Францыі с 1830 г. быў Алжыр, які дастаўся ей пасьля жорсткай барацьбы з мяйсцовымі качоўнікамі і ў працягу некалькіх дзесяцігодзьдзяў даваў большы расход, чым даход. У пачатку 80-х гадоў да яго далучыўся суседні больш багаты Туніс. Зьявілася думка, каб зьвязаць паўночна-афрыканскія калёніі з ўладаньнямі ў Гвінэі і Сэнэгале праз Сахару. Асабліва падтрымліваў Фэрры заваёўніцкую палітыку ва ўсходнай Азіі, дзе французы занялі Танкін каля паўдзённа-кітайскай мяжы.

Няўдачы танкінскай экспэдыціі выклікалі нападкі на міністэрства Фэрры манархістаў і радыкалаў. Яго абвінавачвалі ў зрадзе нацыянальным інтэрэсам, у тым, што ўцягваючы Францію ў рызыкоўныя прадпрыемствы, ён працуе на карысьць Нямеччыны. Фэрры прazваны „танкінцам“, павінен быў выйсьці ў адстаўку (1885 г.).

Пасьля гэтага манархісты, хаваючыся пад клічам патрыятызму, спрабавалі зрынуць рэспубліку: яны сталі падтрымліваць гэнэрала Буланжэ, які ў бытнасьць сваю вайсковым міністрам, падаваў надзеі староньнікам р э в а н ш а (помсты Нямеччыне). Буланжэ, вымагаў роспуску палаты, перагляду канстытуціі і, здавалася, хацеў адыграць ролю Луі Напалеона. Але ў канцы канцоў гэнэрал, асоба нікчэмная, ўцёк ад суда, якім ён быў абвінавачаны ў дзяржаўнай зрадзе. Тады кансэрватары пакінулі свае думкі (1888). І манархісты і каталікі, апошнія пад уплывам уступчывага папежа Лявона XIII (1877—1903), пагодзіліся з рэспублікай: разам з опортуністамі яны склалі вялікую кансэрватыўную партыю.

Рэспубліка стала ў Францыі ладам бязспрэчным. Аднак, калі спыніліся палітычныя закалоты, яшчэ мацней разгарэлася клясавая барацьба — буржуазіі і работнікаў. Нідзе ў Эўропе капіталісты не бароняць так горача свае прывілеі, як у Франціі. У свой чарод францускія работнікі вызначаюцца сваім розумам і энэргіяй. Іх бяда ў раздрабненьні на партыі. Вялікая большасьць іх мае нахіл да сацыялізму. Францускія сацыялісты дзеляцца на дзьве вялікія групы: д з я р ж а ў н ы х с а ц ы я л і с т а ў, староньнікаў думкі Луі Блана і Ласаля, і а н а р х і с т а ў, староньнікаў навукі Прудона і Бакуніна. Першыя дамагаюцца нацыяналізаціі прамысловасьці, перахода чыгунак, фабрык, машын, зямлі ў рукі цантральнай ўлады, якую, па іх думцы, захопяць ў свае рукі прадстаўнікі работнікаў. Другія лічаць дзяржаву, як прымушаючую сілу, толькі спосабам эксплоатаціі, і лічаць магчымым свабодную згоду незалежных дробных аб'яднаньняў. Староньнікі дзяржаўнага сацыялізма ў свой чарод дзеляцца на марксістаў, якія не дапушчаюць ніякай ўгоды з буржуазнымі партыямі, і на сацыялістаў, больш угадовага кірунку, гатовых супрацоўнічаць з радыкаламі.



Дзякуючы энэргіі францускіх сацыялістаў ўдалося адрадзіць інтэрнацыянальны саюз работнікаў. Д р у г і і н т э р н а ц ы я н а л узьнік ў 1889 годзе на парыскай выстаўцы, адбыўшайся ў памяць стагодзьдзя вялікай рэвалюціі. У Парыж прыехалі дэлегаты ад работніцкіх арганізацыяў і сацыялістычных партыяў розных краін Эўропы, паміж іншым нямецкія сацыял-дэмакраты. На кангрэсе пастаноўлена было ўстанавіць ва ўсей Эўропе работніцкае сьвята 1 мая ў знак вымаганьня 8-мігадзіннага працоўнага дня. У першы-ж год існаваньня новага Інтэрнацыянала выявілася ўзаёмная варожасьць сацыялістычных партыяў.

Марксісты і немарксісты склалі два асобных кангрэсы; як адны так і другія не дапусьцілі прыняць учасьніцтва анархістам. Калі праз дзесяць гадоў (1899 г.) сацыяліст Мільеран згодзіўся ўступіць у буржуазнае міністэрства Вальдэка-Русо, яго асудзіла большасьць яго аднадумцаў; няпрымірымыя дамагліся таго, што Мільерана выключылі с сацыялістычнай партыі.

У 1905 годзе радыкальная буржуазія адменай напалеонскага конкордата дакончыла рэформу, якую праводзіў Гамбэта і Фэры. Новая рэформа зьдзейсьніла а д д з я л е н ь н е

царкві ад гаспадарства: падтрыманьне храмаў ляжыць на абавязку веруючых парафіянаў; спынілі выдачу пэнсіі біскупам і наогул духавенству; царкоўная маемасьць перайшла пад кіравецтва грамад.

### Другая выборчая рэформа ў Англіі.

Адначасна о пераходам Францыі, Нямеччыны і Італіі да агульнага выборчага права, адбывалася разьвіцьцё дэмакрацыі ў Англіі.

Бурныя 40-ыя годы зьмяніліся зацішшам у наступным дзесяцігодзьдзі. Адна с прычын гэткай зьмены была ў расшырэньні англійскай таргоўлі і ўзросту прамысловасьці. Заработкі ў многіх галінах прамысловасьці павысіліся; распашырыліся коопэрацыі, спажывецкія таварыствы, якія паніжалі цэны на рэчы першай патрэбы для бедных клясаў. Дзякуючы таму, што зьмяніліся варункі для скаргаў, зьмянілася і тактыка работніцкіх групаў, галоўных учасьнікаў дэмакратычных рухаў эпохі **1815—1848** г. г. Прызнаўшы немагчымасьць агульнага паўстаньня, работнікі спэцыялісты, г. зн. маханікі, тыпографы, муляры, сталяры, шаўцы і г. д., ўсе высілкі скіравалі на стварэньне трэдаў. Аснаўная мэта гэтых саюзаў была ў тым, каб падтрымаць сяброў, якія страцілі работу дзеля прамысловага крызіса ці самаволі гаспадара, дзеля хваробы або ўтраты працаздольнасьці, каб выдаваць з агульнай касы запамогі бедным, семьям памершых ці перасяліўшыхся работнікаў.

Паступэнна трэды сталі вялікай сілаў ў краі. На сваіх сходах работнікі прывучыліся да правільных дэбатаў і выбараў; ад работніцкіх дэлегатаў ў камітэты, вымагаўся вялікі спрыт і энэргія для склісканьня зьездаў, для арудаваньня саюзнымі касамі. У многіх галінах промысла выпрацаваўся звычай, па якім капіталісты вялі гутаркі не с паасобнымі групамі работнікаў, а з магутнымі аб'яднаньнямі іх, якія ставілі агульныя варункі найма і парадку работы. Саюзы, якія служылі сьпярша ўзаемнай памачы і страхаваньню, высунулі новую мэту: ў кождым промысьле дабівацца раўнамернай нарміроўкі платы і аднолькавага часу дзеннай працы. Але іх сьцясьнялі законы **1825** года аб забастоўках: работнікі мелі права падаваць гаспадарам апрацаваныя работнікамі вымо-



гі, але ўсё, што датычыла падгатоўкі агульных вымаганьняў, ня толькі прымушаньне таварышоў, але і звычайнае ўгаварываньне іх, срога каралася. Гэты труднасьці прымусілі кіраўнікоў саюзаў шукаць учасьніцтва ў палітычным жыцьці, каб дабіцца лепшага рабочага заканадаўства.

Пасьля адмены хлебных законаў ў **1846** г. кансэрватары ў Англіі надоўга страцілі ўладу. З невялікімі пярорвамі ў працягу 20 гадоў (**1846—1866**) кіравалі лібэральныя міністэрствы, якія апіраліся на колішніх вігаў і далучыўшыхся да іх пілітаў, г. зн. кансэрватараў, якія разам с Пілам зьвярнуліся да фрытрэда. Але за гэты час лібэралы не правялі ані аднэй рэформы. Зьнешнюю палітыку лібэральны міністр Пільмэрстон вёў, нат, у разрэз мірнай праграме фрытрэдаў. Ён стараўся падтрымліваць на кантынэнце непарадкі, каб аслабіць прамысловых праціўнікаў: у **1848** г. дапамог зрынуць Луі Піліпа, ў Крымскай вайне ў саюзе з Напалеонам думаў аслабіць Расію; ў саюзе с тэй жа Францыяй ён пачаў вайну с Кітаям, каб насільна адкрыць далёкія ўсходнія рынкі для ўвоза туды опіума. Са сьмерцьцю Пальмэрстона (**1865**) на чале кіравецтва стаў стары віг Расэль, а найбольш уплывовым міністрам зрабіўся Гладстон. У пачатку сваей дзеяльнасьці (**1833**) „ўсходзячая надзея срогіх і няпрыклонных торыяў", дэпутат консэрватыўнага Оксфорда, Гладстон, паступенна йшоў ў лева, стаў разам с Пілам староньнікам свабоднай таргоўлі, пасьля зблізіўся з радыкаламі і, ўрэшце, зрабіўся галоўным кіраўніком дэмакратычных рэформаў ў Англіі.

Калі трэды зьвярнулі на сябе агульную ўвагу, абедзьве партыі, лібэральная і кансэрватыўная, пачалі наперабой шукаць падтрымкі работніцкіх масаў і суліць з гэтай мэтай расшырэньне выборчага права. У **1866** годзе, сярод напружанага чаканьня ўсяго краю, Гладстон унёс праект рэформы, па якім значна паніжаўся цэнз, асабліва для гарадзкіх жыхароў. Але ў часе разгляду праекта ад лібэралаў аддзялілася арыстакратычная група і, паклікаючыся на забастоўкі, закалоты ў Ірландзіі, разрост трэдаў, абвесьціла што дэмакратычныя зьмены давядуць да рэвалюцыі. Лібэральнае міністэрства страціла большасьць і вышла ў адстаўку, уступіўшы мейсца кансэрватарам (кабінэту Дызраэлі). Між тым рух на карысьць рэформы прыняў шырокія памеры, як перад **1832** і **1846** гадамі. У лёнданскім Гайд-парку быў назначаны вялі-

зарны мітынг, на якім меліся быць работніцкія групы са сваімі сьцягамі; ўрад загадаў зачыніць парк, каб перашкодзіць сходу. Часьць сабраўшыхся не захацела бойкі с паліціяй і пашла ў суседні Трафальгарскі сквэр; але другая часьць зламала плот і заняла Гайд парк. На другі дзень павадыры руху пасулілі міністэрству атазваць паліцію і пакінуць парк пад ахранай народа. Урад уступіў і пад уражаньнем маніфэстацыі пасьпяшыў з рэформай.

Праект яго быў дапоўнены лібэраламі, і рэформу можна разглядаць як справу праведзеную Гладстонам. Яна падобна была да рэформы **1832** г., не абвяшчала агульнага прынцыпу і не давала агульнага выборчага права. Зноў атабралі галасы ад некалькіх мястэчак і аддалі гэты галасы больш людным гарадам і мяйсцовасьцям. Пасьля панізілі цэнз і распашырылі выборчае права на кватарантаў, якія плацілі ня менш 10 фунтаў (100 руб.) у год. Гэткім чынам рэформа давала права голасу большай часьці гарадзкіх фабрычных работнікаў і рамесьнікаў; на вёсцы-ж яна саўсім не закранула бяднейшай клясы парабкаў.

Адначасна з выборчай рэформай адбываўся рэвалюцыйны рух у Ірландзіі. Пасьля голаду **1848** года і аграмаднага перасяленьня, палітычнае жыцьцё ў Ірландзіі замёрла. Яно стала зноў адраджацца пад уплывам паўночна-амэрыканскай грамадзкай вайны, ў якой ірландцы-выселачнікі прымалі чынны ўдзел. Быўшыя салдаты-ірландцы склалі галоўную аснову нацыянальнай партыі, якая прыняля легендарны назоў ф э н і я ў і паставіла мэтай стварэньне незалежнай ад Англіі ірландзкай рэспублікі. Фэніі увайшлі ў перагаворы з рэвалюцыянэрамі на кантынэнце. Паўстаньне меліся пачаць адначасна ў некалькіх мейсцах Ірландзіі і Англіі. Але эўрапэйскія рэвалюцыянэры не далі ніякай помачы, а ў Ірландзіі большасьць сельскага жыхарства ня была настроена да паўстаньня. Урад папярэдзіў пляны і арыштаваў некалькі павадыроў. Ня гледзячы на тое, што рух ня ўдаўся, Гладстон упорчыва зьвяртаў увагу, што ў Ірландзіі патрэбны каранныя зьмены. Дызраэлі распусьціў стары парлямант, каб хучэй выясьніць значэньне новага выборчага права для партыі. Лібэралы на выбарах мелі вялікую перавагу над кансэрватарамі. Сярэднія клясы Англіі адыйшлі па большай часьці да торыяў. Перавагу далі лібэралам гарады паўночнай Англіі з іх работніцкім жыхарствам і дэмакратычная Шатландзія. Палову перамогшай партыі складалі радыкалы. Некалькі радыкалаў Гладстон увёў у сваё міністэрства, паміж імі Брайта і старога супрацоўніка Кобдэна (**1868—1874**).



### Дэмакратычныя рэформы першага міністэрства Гладстона.

Гладстон першым чынам паставіў справу правядзеньня рашучых рэформаў ў Ірландзіі. Ён пачаў с царкоўнай рэформы; пратэстантаў у Ірландзіі было ня больш $1/5$ жыхароў а між тым ірландцы-каталікі ($4/5$) павінны былі утрымліваць чужую для іх англіканскую цэркву. Цяпер яе зрабілі свабоднай цэрквай, залежнай толькі ад парафіянаў. Маемасьць яе забралі ў казну і, адлічыўшы добрую часьць на пэнсіі духавенству, рэшту перадалі на ўтрыманьне ірландзкага ўнівэрсытэта. Пасьля Гладстон правёў з я м е л ь н ы а к т. У большай каталіцкай часьці Ірландзіі фэрмеры, дробныя арандары, ня мелі ніякіх правоў на займаную імі зямлю; рэформа была ў тым, што фэрмэры паўночнай пратэстанскай ваколіцы, Ольстэра, атрымалі права вымагаць ад земляўласьніка (лендлорда) заплаты за праведзеныя палепшаньні ў апрацоўцы зямлі, за будынкі і г. д. калі ўласьнік праганяў або мяняў арандара. Але нездаволеньне ў Ірландзіі зайшло лішне далёка, і рэформы спозьніліся. У Ірландзіі стварылася партыя г о м р у л я (г. зн. самаўраду), якая дамагалася свайго асобнага парляманту с тым, каб незалежна можна было вырашаць трывожачыя ірландцаў пытаньні, асабліва пытаньне замельнае.

Гладстон між тым прадаўжаў дэмакратычныя рэформы: прайшоў ш к о л ь н ы з а к о н, які падгатаваў ў Англіі агульнае абавязковае навучаньне. Да тэй пары школьныя справы былі здадзены прыватнай апецы і ініцыятыве. Школьная рэформа асабліва была патрэбна вёсцы, дзе беднае працоўнае жыхарства, прымушанае пасылаць сваіх нават малалетніх дзяцей на работу, саўсім ня магло вучыць іх. Вёска старой паўдзённай Англіі была наогул забытай і закінутай. У той час, калі фабрычныя работнікі і рамесьнікі злучыліся ў трэды, больш раздробненыя, загнаныя сельскія работнікі не маглі і думаць аб саюзах. У пачатку 70-х гадоў і паміж сялянамі пачынаецца рух, на чале катораго стаяў Арч, падзёншчык і апаведнік сэкты мэтадыстаў; быў склікані кангрэс дэлегатаў і зарганізавана „нацыянальная унія работнікаў-земляробаў“.

Для таго каб забаспечыць незалежнасьць выбараў ў парлямант, Гладстон, згодна вымогам радыкалаў, ўвёў таємную падачу галасоў; пры папярэднім адкрытым галасаваньні дробныя служачыя і работнікі, часта баючыся страціць заработак, прымушаны былі галасаваць разам с прадпрыемцамі і гаспадарамі. Рэформы міністэрства Гладстона вызвалілі, хоць і не саўсім, працоўныя клясы і далі ім магчымасьць прыняць удзел у палітычным жыцьці; яны разбурылі прывілеі стародаўных магутных карпарацыяў, як, прыкладам, англіканскай цэркві. Прывілейныя групы, ўласьнікі, заможныя клясы былі закрануты і ўстрывожаны гэтай забойчай для іх палітыкай: арыстакрацыя ўстрывожылася тым, што ўрэзаны былі царкоўныя багацьці і, што адмянілі прадажу вайсковых пасадаў; карчмары і вінатаргоўцы — захадамі скараціць продаж сьпіртовых напояў; купцы, якія былі зацікаўлены ва ўсходнай таргоўлі, мірнай палітыкай Гладстона. Палітыка гэта, па іх думцы, вяла да распаду Турціі і ўзмацненьня Расіі ў Чорным моры і прылеглых землях.

### Зварот да ўлады кансэрватараў.

У **1874** г. Гладстон распусьціў парлямант, і на новых выбарах перамаглі кансэрватары. Дызраэлі (ён хутка стаў лордам Біконсфільдам), ўзяўшы ўладу ў свае рукі (**1874—1880**), блізка нічога не зьмяніў ва ўнутраным ладзе. Але кансэрватары сталі праводзіць саўсім іншую замежную палітыку: Дызраэлі пачаў эру імпэрыялізма. Ён паступенна гаварыў аб магутнасьці Англіі, яе мірных інтэрэсах і аб патрэбе падтрымліваць гэты інтэрэсы аружнай сілай. Галоўная калёнія Англіі, Індзія, з яе 200 міліённым жыхарствам, была абвешчана імпэрыяй. Каб мець ў сваіх руках Суэц, г. зн. найкаротшы шлях да Індзіі (пасьля прарыцьця Суэцкага каналу паміж Сяродземным і Аравійскім морам) англійскі ўрад купіў на вялікую суму суэцкія акціі эгіпскага хэдзіва. Баючыся раздрабненьня Турціі і заняцьця Расіяй Канстантынопаля, Біконсфільд заняў варожае становішча да балканскіх славянаў, ня гледзячы на тое, што Гладстон у прамовах гаварыў аб зьверствах туркаў у Баўгарыі. У **1878** годзе, калі расійскія войскі перайшлі Балканы, ў Мрамарнае мора для абароны Канстантынопаля ўвайшоў англійскі флот. Перад самым Бэрлінскім кангрэсам Біконсфільд заключыў з Расіяй асобны



дагавор, якім забаспечыў „свабоду“ праліваў, злучаючых Чорнае мора з Эгейскім, г. зн., па праўдзе кажучы, зачыніў іх для Расійскага флота; у той-ж час ён таємна дагаварыўся і с Турцыяй ад якой атрымаў Кіпр, важны тым, што знаходзіцца проціў Суэца; Англія забрала сваё яшчэ да кангрэса. Біконсфільд, усюды шчасьлівы, здаваўся самым спрытным палітыкам у Эўропе; ён рабіў ўсё з эфэктам: у працягу перагавораў захоўваў „ўсходнюю“ таємніцу, а пасьля нячэўкі апавяшчаў грамадзянства аб удачах. Адзін захват ішоў за другім: англічане здабылі праход з Індзіі ў Аўганістан, востраў Сакатора на сярэдзіне дарогі ад Суэца да Індзіі, Трансваль у паўдзённай Афрыцы.

Але скора рэзультаты сталі адчувацца даволі балюча. Ауганцы ў Азіі, буры (галандзкія выселачнікі) ў Афрыцы нанясьлі цяжкія страты англічанам. Вялікія расходы на аддаленыя экспэдыцыі выклікалі вялікія дэфіцыты ў бюджэтах Англіі і Індзіі; ўсім кідалася ў вочы вялікая рожніца паміж надзвычайна добрым фінансавым становішчам кіравецтва Гладстона і лібэралаў, якія вялі мірную палітыку, і дэфіцытамі кіравецтва заваёўніка Біконсфільда. На выбарах **1880** г. кансэрватары пацярпелі няўдачу. Гладстон 70-летні стары, зноў выступіў на выбарах, езьдзячы і гаворачы прамовы на мітынгах і сходах з вялікім жарам і рашучасьцю. Зноў адбылася поўная зьмена палітыкі: Біконсфільд падаўся ў адстаўку; было створана другое міністэьства Гладстона (**1880—1885**), ў якім лібэралы і радыкалы былі прадстаўлены пораўну, але апрача іх увайшлі такжа і прадстаўнікі работніцкіх трэдаў.

### Ірландзкае пытаньне і трэцяя выборчая рэформа.

Становішча Гладстона было цяпер шмат цяжэйшае. На чале ірландзкіх гомрулёраў стаяў вельмі спрытны і папулярны арганізатар, Парнел, які пасуліў ірландзкім дэпутатам трымацца апазыцыі, якая-б партыя ні трымала ўладу; не даваць англічанам займацца сваімі справамі да тэй пары, пакуль Англія ня будзе прымушана даць Ірландзіі самаўрад. У парляманце ірландцы сталі вясьці тактыку абструкцыяў: карыстаючыся тым, што для спрэчак ня быў абмежаны час, ірландцы гаварылі безканечныя прамовы і безнадзейна зацягвалі ўсе справы. У самой Ірландзіі Парнел дагаварыўся з

зямельнай лігай, якую стварыў Дэвіт, фэній вярнуўшыйся с сылкі.

Зямельны акт **1870** г. даваў магчымасьць ўласьніку вымагаць з дробнага арандара непамерную арэнду, а калі той ня мог яе плаціць, то ўласьнік мог яго высяліць. Зямельная ліга паставіла сабе мэтай бараніць ірландзкіх арандароў і абмежыць правы лэндлордаў. Для фэрмэраў ліга хацела дамагчыся сталага ўладаньня зямлёй на варунках „справядлівай“ (ўмяркаванай) платы ўласьнікам. Парнел раіў сялянам спраціўляцца высяленьню да апошняй магчымасьці; для арганізацыі змаганьня ён сабраў вялікія грошы, сярод ірландзкіх патрыётаў Амэрыкі. Ліга ставіла сваім сябрам вымогі не займаць зямлі, з якой быў сагнаны арандар; яна здабыла аграмадны аўтарытэт у краі, быццам запраўдны ўрад, загады якога бяз слова выпаўняліся; яна запісвала чыны земляўласьнікаў і вынасіла над імі прыгаворы. Капітан Байкот, якога ліга абвесьціла ў няміласьці, быў усімі пакінуты і апынуўся адзінюсенькі ў сваім доме (с таго часу ўвайшло слова „байкот“ у сэнсе, якое яму надаюць і цяпер). Буйныя ўласьнікі Ірландзіі зьвярнуліся да англійскага намесьніка са скаргай на тэррар, пануючы ў краі, але разам прасілі яго не апавяшчаць іх імёнаў, бо баяліся помсты.

Міністэрства Гладстона ў пачатку **1881** года зразу выступіла з двумя супярэчнымі мерамі: 1) абвесьціла закон для Ірландзіі, які адмяняў гаранціі Habeas corpus, і адміністрацыі далі права арыштоўваць усіх каго можна абвінаваціць ці западозрыць у нарушэньні парадку і дзяржаўнай зрадзе; 2) ўнясло новы зямельны акт, які забаспечваў фэрмэру сталае ўладаньне і „справядлівую“ арэндную плату. Памеры апошняй азначаліся судом на 15 гадоў; казна абавязалася даваць фэрмэрам запамогі пры куплі зямлі на ўласьнасьць.

Зямельны закон раздражніў лэндлордаў і не здабыў сымпацыяў ірландзкіх гомрулёраў. Зноў выступілі фэніі; часьцей пачаліся аграрныя забойствы, ўзрывы дынамітам і змовы на англійскую адміністрацыю. Гладстон забараніў лігу і абвесьціў яе распушчанай, загадаў арыштаваць Парнела і іншых павадыроў і спыніў ў Ірландзіі суд прысяжных. Але насільныя меры не памаглі. Англійскі ўрад павінен быў пайсьці на ўступкі. З павадырамі ірландзкага руху ў часе, калі



яны сядзелі ў Кільмэнгемскай турме ў Дубліне, англійскі ўрад дагаварыўся. Вязьняў выпусьцілі на свабоду і міністэрства абяцала зьняць з ірландзкіх фэрмэраў недаборы.

Гладстон сьпяшыў з вялікай выборчай рэформай, спадзяючыся пагодзіць у дэмакратычным ладзе ўсе клясы жыхарства. У палаце дэпутатаў яго праект прайшоў бяз перашкод, і, нат, лорды не затрымалі яго. Рэформай **1884** г. радыкалы імкнуліся ўвясьці аднародны парадак падачы галасоў, расшырыць учасьніцтва ў выбарах і павялічыць лік дэпутацкіх мейсцаў ад слаба прадстаўленых мяйсцовасьцяў. Рэформа блізка што давала агульнае выборчае права. Аднак права галасаваць было дадзена толькі ўласьнікам дамоў і кватэраў; такім чынам узрослыя сыны, якія жылі разам з бацькамі, людзі, што жылі ў мэбляваных пакоях, паслуга і г. д. былі пазбаўлены права галасаваць. Галоўнае значэньне рэформы было ў тым, што яна распашырала выборчае права на сельскіх работнікаў.

### Англійскі імпэрыялізм і дэмакрацыя ў канцы XIX ст.

У меру таго, як ўсё больш і больш праводзіла радыкальная партыя свае рэформы, ад яе адпадалі групы ўмяркаваных лібэралаў, якія пераходзілі да кансэрватараў. Калі Гладстон і радыкалы зьвярнуліся да гомруля і заявілі, што самым лепшым спосабам заспакоіць Ірландзію, гэта даць ей свой асобны парлямант, ад радыкалаў адыйшла апошняя група ўмяркаваных.

Проціў гомруля падняўся моцны рух. Зьявіліся так званыя ўніяністы, г. зн. староньнікі неразрыўнай зьвязі Ірландзіі з Англіяй, якімі былі ня толькі арыстакратычныя вігі, але і часьць радыкалаў с Чэмбэрленам, бірмінгамскім мілiянэрам, на чале. У палаце пасьля гарачых спрэчак праект гомруля быў адкінуты нязначнай большасьцю; Гладстон распусьціў палату, але яго ідэі былі такімі нячаканымі для большасьці Англіі, што на выбарах партыя гомруля саўсім ня мела ўдачы: адны кансэрватары, ня лічачы далучыўшыхся да іх лібэральных уніяністаў, пераважалі лікам гладстонцаў і ірландцаў разам ўзятых.

Узяўшы ўладу ў свае рукі (**1886—1892**), кансэрватары так-жа, як гэта бывала і раней, зьдзейсьнілі часьць лібэраль-

ных рэформаў. Яны ўвялі замест старых арыстакратычных самаўрадаў, якія належылі да міравых судзьдзяў з буйных земляўласьнікаў, новыя, створаныя на асновах самаўрадаў: ўсе, хто плоціць падатак выбіраюць рады графстваў. Апошнія кіруюць грамадзкімі ўстановамі, дарогамі, лекарскімі і наагул санітарнымі справамі і ўводзяць для пакрыцьця мяйсцовых выдаткаў—падаткі.

Пад канец 80-х гадоў у Англіі адбыліся вялікія закалоты сярод работнікаў ніжэйшых катэгорыяў. Асаблівае ўражаньне зрабіла забастоўка грушчыкаў (**1889** г.) лёнданскіх прыстаняў (докаў), якія абслугоўвалі ўсесьветную таргоўлю Вялікабрытаніі. У гэтым жа часе стаў вельмі распашырацца сярод ангельскіх работніцкіх масаў сацыялізм, ідэі каторага раней істнавалі толькі сярод асьвечаных людзей. Трэды, да таго часу маючыя на мэце толькі самапомач, цяпер сталі дамагацца двох сацыялістычных клічаў: 1) 8-гадзіннага дня працы і 2) нацыяналізацыі зямлі (г. зн. атабраньня зямлі за выкуп ад вялікіх земляўласьнікаў і раздачые ў арэнду на ўсё жыцьцё тым, хто хоча сам асабіста працаваць на ёй. Абедзьве кіруючыя партыі, якія вялі змаганьне за ўладу, лібэралы і кансэрватары, стараліся здабыць сымпаціі работнікаў і абяцалі правесьці закон аб адпавядальнасьці прадпрыемцаў за няшчасныя здарэньні ў рабоце.

У **1892** г. ўжо саўсім стары Гладстон вярнуўся ў міністэрства, але толькі на кароткі час; ўжо праз год ўзрастаючая сьляпота прымусіла яго адыйсьці ад палітыкі. Лібэралы пасьпелі зьмяніць кіравецтва толькі малых вокругаў, дзе былі ўведзены прыхоцкія рады з усіх плацельшчыкаў падатку. Гэтым закончыліся рэформы, пачатыя Гладстонам. Грамадзкі лад краю астаўся нязьмянным: тыя-ж вялікія земляўласьнікі ў Англіі і Ірландзіі і бязвыходнае становішча беззямельных парабкаў; той-жа лад у буйнай прамысловасьці, які склаўся с часу ўвядзеньня машынаў. Пры гэтым, аднак, вытварылася вялікая самастойнасьць і моцная арганізацыя работнікаў вышэйшых катэгорыяў, якія былі галоўнай апорай дэмакрацыі.

Пасьля выхада Гладстона лібэралы ня мелі прызнанага павадыра; кіраўнік партыі, лорд Розбэры, хутка разышоўся са сваімі аднадумцамі, абвесьціўшы сябе староньнікам ўніанізма і ваяўнічага расшырэньня Англіі. У **1895** г. кансэрватары, якія яшчэ больш ўзмоцніліся, вярнуліся да ўлады. Душой іх палітыкі стаў быўшы радыкал Чэмбэрлен. Галоўнай яго мэтай было далучэньне новых тэрыторыяў, зьмешчаньне англійскага капітала ў здабычу заморскіх багацьцяў. Найбольш шырокія пляны разьвіваў губарнатар Капскай калёніі (на поўдні Афрыкі, атабранай ў пачатку XIX ст. ад галандцаў) Сэсіль Родс: сам міліянэр і ўласьнік капальняў дыяманту, ён падгатаўляў прамысловае заваяваньне ўсей паўдзённай Афрыкі і разам с тым праектаваў вялізны чыгуначны шлях праз ўсю даўжыню Афрыкі ад Капскай зямлі да Эгіпта. Імкненьне англійскіх капіталістаў захапіць залатыя капальні ў Трансвалю, рэспубліцы незалежных бураў, выклікала спраціўленьне ваяўнічых выселачнікаў. У часе гэтай вайны (**1899—1902**) крыклівы патрыятызм у Англіі вельмі ўзрос і захапіў, нат, работніцкія трэды.



Так-жа, як у **1880** г., пасьля крывавых падзеяў і цяжкіх стратаў бурскай вайны, стаўся паварот ў настроях англійскага грамадзянства. Трэды асудзілі вайну з бурамі, як „адну з самых несправядлівых“. Пачаўся рух каб стварыць незалежную работніцкую партыю ў Парляманце для абароны правоў работнікаў, а также свабоднай школьнай прасьветы; якую кансэрватары аддалі пад нагляд англійскага духавенства.

Пасьля 10-летняга панаваньня ўніаністы і кансэрватары страцілі шмат сваіх прыхільнікаў і на выбарах **1906** г. яны праваліліся. Дастаўшы зноў ўладу, лібэралы прымушаны былі злучыцца з незалежнай работніцкай партыяй і прыняць у склад міністэрства Бэрнса, які сваімі сацыялістычнымі прамовамі падтрымліваў забастоўшчыкаў у **1889** г. Лібэральнае міністэрства пачало правіць памылкі і несправядлівасьці, якія былі зроблены ўніаністамі. Асабліва важным было ўвядзеньне ў заваяванай паўдзённай Афрыцы шырокай аўтаноміі, пры поўнай роўнасьці правоў бураў і англічанаў: у кіравецтва ўступілі быўшыя ўчасьнікі і павадыры вайны проціў Англіі.

---

# X.

## Злучаныя Штаты Амэрыкі ў XIX стагодзьдзі.

### Эўрапэйская эміграцыя ў XIX стагодзьдзі.

У часе першай рэвалюціі барацьбу за дэмакратычны лад пачала буржуазія; але ў рэвалюціі амэрыканцы вышлі пераможцамі толькі дзякуючы работніцкім клясам, якія спачатку былі слабыя і неарганізаваныя, але ў працягу XIX ст. вельмі ўзмоцніліся, бо моцна разьвілася эўрапэйская прамысловасьць і павялічыўся лік жыхарства. Гэты масы людзей маглі знайсьці сабе працу на тэй-жа тэрыторіі толькі дзякуючы перавароту ў прамюсловасьці і тэхніцы. Без прытасаваньня машынаў, паровай і электрычнай энэргіі не маглі бы стварыцца вялізарныя прадпрыемствы, якія на невялікіх абшарах давалі работу сотням тысячаў работнікам.

З другога боку, пры такім развіцьці вытворчых сілаў росьце жыхарства, Эўропа ў XIX ст. больш, чым калі-колечы, вымагала расшырэньня свайго панаваньня і зносінаў з усім сьветам. Прамысловыя прадпрыемцы і ўрады шукалі за межамі цеснай Эўропы рынкаў для збыту сваіх вырабаў і для забаспечаньня эўрапэйскай прамысловасьці таннымі сырымі матэрьяламі і прадуктамі ежы. Лік людзей, якіх пасылалі ў іншыя часьці сьвета ўрады і прамысловыя суполкі, г. зн. ўрадоўцы, жаўнеры, прыкашчыкі, маракі, быў, аднак, нязначны ў параўнаньні з масай тых, хто высяляўся самастойна, шукаючы лепшых варункаў жыцьця і працы. Як прырост жыхарства, так і эміграцыя дайшла ў XIX ст. найбольшай велічыні. У першай палове XIX ст. найбольш выселілася народу з Англіі, дзе найраней адбыўся прамысловы пераварот: асабліва многа было выселачнікаў ў часе цяжкіх прамысловых крызісаў і безрабоцьця; з Ірландзіі найбольш выселілася ў самыя чорныя годы каля **1847** г. Пасьля вельмі многа паехала ў выселкі англічанаў і наагул эўрапэйцаў каля сярэдзіны стагодзьдзя, калі ў Каліфорніі і Аўстраліі было знайдзена золата. У другой палове стагодзьдзя першыя мейсцы па ліку выселачнікаў займаюць Нямеччына і Італія.

Эўрапэйская калёнізацыя не аднолькова распашырылася ў рожных часьцях сьвета. Урады імкнуліся захапіць багатыя



заселеныя землі цёплых краёў, як Індзія, Індакітай, астравы паўдзёна-ўсходняй Азіі, трапічныя землі, як сярэдняя Афрыка і палова паўдзённай Амэрыкі. Самастойная-ж калёнізацыя земляробаў, фабрычных работнікаў і купцоў імкнулася ў краіны дзе клімат і іншыя прыродныя абставіны былі падобны да эўрапэйскіх (Канада, Злучаныя Штаты, Аргентына і паўдзённая Бразылія, паўдзённая Афрыка, Аўстралія і Новая Зэландзія). Там дзе эўрапэйцы стварылі вялікія групы людносьці, асабліва, калі яны выяжджалі з бацькаўшчыны дзеля палітычных прычын, яны хутка адрываліся ад мэтраполіі. Англійская Амэрыка аддзялілася ўжо ў XVIII ст. і стварыла злучаныя Штаты. У 20 гадах XIX ст. аддзяліліся гішпанскія і партугальскія калёніі Асяродковай і Паўдзённай Амэрыкі. С сярэдзіны стагодзьдзя блізка незалежнае становішча занялі Канада, Аўстралія і Новая Зэландзія. Усе гэты краіны і да гэтага часу прыцягваюць да сябе Эўрапэйцаў, яны ня толькі заснаваны Эўропай, але прадаўжаюць карыстацца яе сіламі, твораць расшыраную культуру Эўропы.

Галоўнымі краінамі, якія са становішча эўрапэйскіх выселкаў дайшлі да незалежнасьці, зьяўляюцца Злучаныя Штаты Амэрыкі і Аўстралія. Злучаныя Штаты зьяўляюцца цяпер вельмі багатай групай зямель, якая па сваей вытворчасьці супернічае з Эўропай.

### Расшырэньне Злучаных Штатаў ў XIX ст.

У **1789** г., калі была прынята фэдэральная канстытуцыя, ў аддзяліўшыхся ад Англіі выселках было каля 4 міліёнаў жыхароў; $^4/_5$ белай людносьці роднай мовай мелі англійскую; рэшта былі выселачнікі (або іхныя патомкі) с Франціі, Галандзіі, Нямеччыны; людносьць у працягу XIX ст. вельмі ўзрастала і ў **1890** годзе налічалася ужо 76 міліёнаў. Выселачнікі вельмі хутка прывыкаюць да мяйсцовых абставін, навучаюцца пануючай англійскай мове і амэрыканізуюцца, і гэткім чынам, далучаюцца да нацыі якая зляжылася яшчэ ў XVIII ст.

Аграмадны рост людносьці ў паўночнай Амэрыцы быў бы немагчымы без такога-ж расшырэньня тэрыторыі. У гэтым сэнсе сярэдняя часьць Паўночнай Амэрыкі была ў вельмі добрым палажэньні: за вузкім шнуром перша-

пачатных англійскіх выселкаў цягнуліся ад Атлянтыцкага аж да Ціхага акіяну вялізныя абшары, багатыя пладароднымі стэпамі (прэрыямі), лясамі і мінэраламі, слаба заселенымі качовымі паляўнічымі плямёнамі. Ужо пры стварэньні рэспублікі Англія ўступіла ей свае прэтэнсіі на ваколіцы, якія ляжалі паміж вазёрным краям і Мэксыканскай затокай да р. Місісіпі на захадзе. У пачатку XIX ст. штаты здабылі ад Франціі вусьце Місісіпі (Луізьяну) і землі на захад ад вялікай ракі, пасьля купілі ад гішпанцаў Фларыду; ў 40-х гадах Штаты атабралі ад Мэксыкі Тэхас і Каліфорнію, уладаньні саюза дайшлі да Ціхага акіяну. Новыя ваколіцы сьпярша карысталіся самаўрадам, але не пасылалі дэпутатаў у кангрэс; калі-ж лік жыхароў ваколіцы быў больш за 60.000, яна магла прасіць аб прыняцьці яе ў лік штатаў, апрацоўвала сабе канстытуцію і ўступала ў саюз поўнапраўным сябрам. Такім чынам замест першапачатных трынаццаці штатаў цяпер рэспубліка складаецца з 45 штатаў і 5 тэрыторыяў, ня лічачы яе новых калёніяў. Абшар рэспублікі які меў с пачатку 2 міліёны квадратных кілёмэтраў, у канцы XVIII ст. дайшоў да 9 міл. кв. кіл. і памерамі ўступае толькі Расіі, Кітаю і Брытанскай імпэрыі, г. зн. Англіі с калёніямі.

**Паўночныя і паўдзённыя штаты і пытаньне аб нявольніках.**

С самага пачатку ў Штатах была рожніца паміж ваколіцамі: паўдзённыя штаты былі ваколіцамі вялікіх плянтацiяў табакі, рыжу, ваты, цукру, на якіх працавалі нявольнікі, нэгры; ў паўночных, разам з фабрычнай прамысловасьцю і таргоўляй, было разьвіта земляробства і пераважала дробная і сярэдняя ўласьнасьць, але працавалі выключна свабодныя людзі. Нявольніцтва не пашкодзіла заключэньню саюза паміж штатамі. У канстытуціі нявольніцтва ня ўспомнена але забяспечыўшы паасобным штатам свабоду ва ўсім (што не датычыла агульных спраў), канстытуція як-бы забараніла саюзным ўладам умешвацца ва ўнутранае жыцьцё штатаў і ў справы нявольніцтва.

Паміж паўночнымі і паўдзённымі штатамі была яшчэ адна вялікая рожніца: паўдзёным штатам, якія вывозілі сырыя матэрьялы ў Эўропу, была карысна вольная таргоўля; паўночным-жа, ў якіх разьвівалася свая прамысловасьць, і якія хацелі аберагчыся ад англійскага суперніцтва, наадварот, было карысна ўвясьці мыта на замежныя тавары. Такім чынам далучылася яшчэ трэцяя рожніца: паўночныя былі за моцную цантральную ўладу, паўдзённыя, баючыся страціць свае асобныя звычаі і перавагі, былі за аўтаномнасьць (па праўдзе за незалежнасьць) штатаў. Вялікая партыя д э м а к р а т а ў, складзеная, галоўным чынам, з жыхароў поўдня, стаяла за аўтаномію штатаў і за роўнавагу паміж імі; да канца 40-х гадоў дэмакратам удавалася праводзіць сваіх кандыдатаў у прэзыдэнты. Але ў 40-х гадах становішча зьмянілася.



Паўдзённыя рабаўласьнікі мелі значныя труднасьці: спыненьне таргоўлі нявольнікамі ў Атлантыцкім акіяне спыніла і падвоз для іх нэграў з Афрыкі: яны павінны былі старацца вырашчваць у сябе (ў Амэрыцы) новыя пакаленьні нявольнікаў-нэграў. Але найбольш устрывожыў рабаўласьнікаў разрост ўладаньняў на захадзе, які пачаўся пасьля далучэньня да штатаў Тэхаса і Каліфорніі, Хутка пачалі тамака расьці выселкі, аткрыліся каліфорнскія капальні золата, пачалося засяленьне багатых зямель, да тэй пары непарушных і невядомых; амэрыканцы дасягнулі Ціхага акіяну. Дзеля гэтых аграмадных абшараў загарэлася барацьба паміж поўначчу і поўднем. Захад, саўсім натуральна, прыцягаў свабодных работнікаў, нявольніцтва тутака было яўна некарысна; тым ня менш пасул забараніць законам нявольніцтва ў заходніх тэрыторыях на кангрэсе не прайшоў; пастаноўлена было, што кождая тэрыторыя сама азначае свой лад і свае ўстановы.

Гэта была апошняя пабеда рабаўласьніцкіх штатаў. Проціў старой партыі дэмакратаў выступіла, галоўным чынам на поўначы, партыя р э с п у б л і к а н ц а ў. Паміж рэспубліканцамі была вялікая група, а б а л і ц ы я н і с т а ў, якая дамагалася асвабаджэньня нэграў і роўнасьці іх правоў з белымі; але ўсё-ж большасьць рэспубліканскай партыі была да нявольніцкага пытаньня раўнадушна, а некаторыя, нат, адносіліся да чорных варожа, але хочучы разьбіць моц паўдзённых штатаў і даць на захадзе поўны прастор капіталу паўночных штатаў, яны згаджаліся на асвабаджэньне нэграў. Нявольніцкае пытаньне было цэнтрам барацьбы; рэспубліканцы, аднак, знаходзілі труднасьці ў тым, што яго нельга было вырашыць не закрануўшы канстытуціі. Ім дапамаглі

сваімі паступкамі самі паўдзёньнікі, якія сталі ўжываць насільніцтва.

У сярэдзіне 50-х гадоў пачаліся збройныя закалоты ў новазаселенай тэрыторыі Канзас. У паўночных штатах скляліся суполкі капіталістаў для аказаньня помачы дробным свабодным фэрмэрам, якія атпраўляліся выселачнікамі ў тэрыторыю; але Канзас быў абкружаны рабаўласьніцкімі штатамі, і яны ў свой чарод скіравалі туды сваіх выселачнікаў; калі губэрнатар тэрыторыі пастанавіў склікаць устаноўчае сабраньне, паўдзённікі масамі панаехалі ў Канзас, незаконна прынялі ўчасьніцтва ў галасаваньні і шляхам насільніцтва і ашуканства адцясьнілі праціўнікаў. Саюзны ўрад, аднак, зацьвердзіў выбраных заканадаўцаў і дапусьціў, каб яны апрацавалі рабаўласьніцкі лад у новым штаце; мала таго, саюзная ўлада прыслала войскі для падтрыманьня рабаўласьнікаў. На наступных выбарах прэзыдэнта, праўда, яшчэ раз раз прайшоў дэмакрат; але ў самой дэмакратычнай партыі стаўся раскол, паўночныя дэмакраты абвесьцілі, што яны праціў нявольніцтва і парвалі з паўдзённымі. Было відаць што на наступных выбарах рэспубліканцы перамогуць, і поўдзень пачаў падгатаўляцца да здабыцьця незалежнасьці.

### Унутраная вайна.

У **1860** г. толькі галасамі паўночных штатаў, прэзыдэнтам быў выбраны рэспубліканец Абрам Лінкольн. Тады паўдзённыя штаты вышлі с саюза, выбралі свайго асобнага прэзыдэнта і стварылі сваю асобную к о н ф э д э р а ц і ю. Гэта выклікала чатырохлетнюю вайну паміж поўднем і поўначу, уніяністамі і сэцісіаністамі (**1861 — 1865**). На старане першых была аграмадная лічэбная перавага: ў штатах поўначы і захада, якi астаўся верным саюзу, было 20 міліёнаў люднасьці, ў паўдзённых, якія хацелі аддзяліцца, ўсяго 5 міліёнаў белых і 4 міліёны чорных (нявольнікаў). Але жыхарства поўдня было куды больш ваяўнічае; на іх старану перайшло штат афіцэраў саюзнай арміі; нэгры пайшлі за сваімі панамі, і на іх была ўзложана ўся цяжкая праца ў войску, дзякуючы чаму белыя салдаты мелі больш разьвязаныя рукі да ваяваньня. Наадварот, паўночныя вельмі неахвотна йшлі на вайну і сьпярша думалі абыйсьціся наймітамі і міліцыяй.

Але ўжо першыя ўдачы спрытных у вайне поўдзённых штатаў паказалі, што справа вельмі паважная. Прышлося і



на поўначы ўзброіць вялікія масы. Поўнач перамог сваей прамысловасьцю і тэхнічнай энэргіяй, перавагай матэрыяльнымі багацьцямі. Фабрыкі хутка прыгатавалі адзежу і набоі для імправізаванага войска, маючы пры гэтым вялікія заработкі. Адны вынахадкі зьмяняліся другімі. У краі дзе блізка таго, што ня было ніякіх дарог, будавалі рэльсавыя шляхі куды хучэй, чым у Эўропе; першы раз па іх сталі пушчаць панцырныя машыны. Прышлося ствараць вайсковы флот, якога да таго часу саюз ня меў саўсім. Барацьба была выграна дзякуючы заходнім ваколіцам. Прывычныя да здабыцьця сваей долі ў дзікіх варунках леснага і стэповага




Рыс. 9. — Разрост Злучаных штатаў: 1—першапачатныя 13 штатаў, 2—землі ўступленыя Англіяй ў 1783 годзе. 3—Фларыда, купленая ў Гішпаніі. 4—Луізуяна, купленая ў Французаў. 5—ваколіцы, атабраныя і купленыя ў Мэксыкі. 6—ваколіцы, заселеныя у палове XIX ст. + + + мяжа двох саюзаў і ўнутранай вайны.

жыцьця ў сталай барацьбе з ваяўнічымі індзейцамі, яны зьяўляліся асобным тыпам: ў іх было шмат адвагі, спрыту і энэргіі. Да заходнікаў можна аднясьці і Лінкольна; стуль былі і галоўныя вайсковыя павадыры Грант і Шэрман.

Вельмі важным пытаньнем для заходніх амэрыканцаў было асвабаджэньне воднага шляху па Місісіпі да Мэксыканскай затокі, — шляху які зачынены быў паўдзённымі

штатамі. На аграмаднай рацэ зьявіўся асобны флот, пры помачы якога войскі саюза сталі пасувацца на поўдзень. Урэшце, Грант узяў крэпасьць Фіксбург на ніжнім Місісіпі і гэта аддзяліла ад паўдзённай канфэдэрацііі ўсе заходнія ваколіцы і сьцісснула ўсю паўдзённую армію у адным куце. Шэрман прайшоў ад Місісіпі да Атлянтыцкага акіана скрозь ўсю паўдзённую ваколіцу, і яе войскі здаліся. Поўдзень зноў прызнаў саюз. Разам с тым вырашалася доля і нэграў. Калі вайна скончылася кангрэс прыняў папраўку да канстытуціі, якая адмяняла нявольніцтва на ўсіх абшарах саюза.

### Прамысловае развіцьцё Злучаных Штатаў.

С часу ўнутранай вайны багацьце Злучаных Штатаў пачало расьці яшчэ больш. Аграмадныя прыродныя сілы краю было лёгка дабываць пры помачы сталага наплыву работнікаў; здольнасьць амэрыканцаў хутка палепшаць усякую тэхніку ўскорыла развіцьцё ўсіх галін прамысловасьці. Добра вядома імя Эдзісона, які прыдумаў тэлефон, фанаграф і электрычныя цуды. Амэрыка агулам пераважае Эўропу буйным размахам сваіх будоваў, хуткасьцю выпаўненьня, прытасаваньнем тэхнічных вынахадах, вялікімі прадпрыемствамі як фабрычнымі так і сельска-гаспадарчымі, дзе амэрыканцы першыя сталі ўжываць элеватары, вялікія жаткі, малацілкі і г. д.

Распашырыўшы свае ўладаньні на аграмадныя абшары, амэрыканцы прымушаны былі будаваць дарогі. Вялізарная водная сыстэма Місісіпі с прытокамі, падходзіла блізка да вазёр і была злучана з імі каналамі. Гэта сыстэма злучала край ў кірунку Поўнач-Поўдзень. Трэба было злучыць Амэрыку ў кірунку Захад-Усход, г. зн. Атлантыцкі акіян с Ціхім, старыя ўсходнія, зьвернутыя да Эўропы, краіны з новымі заходнімі, для якіх адкрыліся новыя торговыя шляхі ў Азію. Для гэтай мэты была пабудавана паміжакіянская чыгунка (скончаная у **1866** г.), ад Нью-Іорка праз Чыкаго да С.-Францыска. У свой час гэта чыгунка была найбольшая ў сьвеце.

З узростам ліку жыхароў і з заняцьцем заходніх зямель прамысловы характар Злучаных Штатаў стаў зьмяняцца, і рэспубліка хутка заняла вызначнае мейсца ва ўсесьветнай таргоўлі. Сьпярша рэспубліка Злучаных Штатаў, блізка таго,



што ня мела сваей прамысловасьці, вывазіла табаку, рыж, вату, індзіго і ў фабрычных вырабах залежыла ад Эўропы. С паловы XIX ст. Амэрыка пачынае заваёўваць Эўрапэйскі збажовы рынак. У цяперашні час Амэрыка дабывае $1/5$ часьць збожа ўсяго сьвету. Яшчэ больш вызначаецца Амэрыка дабычай каменнага вугаля і коваў: у каменнавугольнай галіне Амэрыка займае першае мейсца ў сьвеце і выкідае на рынак $1/3$ часьць вугля ўсяго сьвету; на такім жа прыблізна становішчы знаходзіцца ў Амэрыцы дабыча коваў, ваты яна мае 85% усесьветнай дабычы.

Гэтымі прадуктамі Амэрыка стала закідаць Эўропу. Край падняўся надзвычайна хутка такжа і ў фабрычнай прамысловасьці. І чым больш Амэрыка стала выробляць сама, тым менш ей трэба купляць за межамі. Вываз Злучаных Штатаў ўсё больш і больш стаў пераважаць над увозам і стаў даваць вялізныя лішкі. У свой чарод лішкі выробаў і множства капіталаў, якія шукаюць прытасаваньня, прымусілі амэрыканцаў імкнуцца да новых рынкаў для збыта. Яны пралажылі торговыя шляхі праз Ціхі акіян у Азію, Кітай і Японію, ў Аўстралію, пасьля ў блізкія да іх гішпанскія калёніі і ў рэспублікі Асяродкавай і Паўдзённай Амэрыкі, якія блізка, што ня мелі прамысловасьці. Урэшце для Злучаных Штатаў ўзьнікла пытаньне ўжо не аб абароне ўласнай прамысловасьці, а аб тым, каб даць ей перавагу і ў іншых краінах і выцясьніць суперніцтва эўрапэйскіх тавараў. Для дасягненьня гэтай мэты сэнатар Мак-Кінлі правеў у **1890** годзе ў кангрэсе тарыф, які накладаў на большасьць эўрапэйскіх, асабліва англійскіх тавараў, значнае мыта.

### Амэрыканскі імпэрыялізм.

Новая торговая палітыка злучаных Штатаў выклікала зьмену ўсей дыплёмацыі і замежных зносін рэспублікі. С пачатку саюз штатаў кіраваўся мірнай палітыкай ў стасунках з Эўропай. Амэрыканцы толькі хацелі забаспечыць сабе незалежнасьць і абараніць сябе ад нападаў эўрапэйцаў. Дзеля гэтага, ў часе рэвалюцыі за незалежнасьць ад Гішпаніі і Партугаліі паўдзённай і асяродкавай Амэрыкі, прэзыдэнт Монро заявіў: „Амэрыка для амэрыканцаў“. Але ў меру таго, як раслі эканамічныя прэтэнсіі рэспублікі, і яна забірала ўсю

Амэрыку ў круг сваей таргоўлі, зьмяняўся і сэнс „доктрыны Монро“, якая вельмі часта паўтаралася. У ей сталі бачыць ня только дамаганьні, каб Эўропа пакінула заходні кантынэнт, але і передачу кіравецтва над усей Амэрыкай галоўнай, вялікай яе рэспубліцы. На аснове гэтага Злучаныя Штаты пачалі ставіць варункі паўднёвым амэрыканскім рэспублікам, ўмешвацца ў барацьбу іх партыяў, прысылаючы, нат, для падмацаваньня сваіх вымогаў, вайсковыя караблі. Дзеля гэтага-ж амэрыканцы расстроілі эўрапэйскі плян прaкапаньня Панамскага перашыйка і выставілі другі плян, карысны для амэрыканцаў. Мірная і толькі абарончая палітыка пaступенна зьмянялася ў ваяўнічую.

Скора Амэрыка стала здабываць і падбіваць чужыя землі. У канцы 60 гадоў яны купілі ў Расіі Аляску. З развіцьцём індустрыі амэрыканцам трэба было забаспечыць сабе таргoвыя станціі на акіянскай дарозе да Азіі: яны захапілі Гаванскія і Самоанскія астравы блізка на сярэдзіне дарогі да Японіі і да Аўстраліі. Далей яны пацягнуліся па прадукты трапічных краін. Бліжэй за ўсё былі цукровыя плантаціі на востраве Кубе, старадаўных гішпанскіх выселках. У часе прэзыдэнства Мак-Кінлі, аўтара заваёніцкіх тарыфаў, амэрыканцы выкарысталі паўстаньне на Кубе проціў гішпанскага кіравецтва і, стаўшы на старану паўстанцаў, абвесьцілі Гішпаніі вайну (1898).

Гішпанія была ў поўным упадку і магла выставіць толькі саўсім устарэўшыя караблі, якія (пад С.-Яго ў Кубе) ў працягу поўгадзіннай бойкі былі спалены гарматнімі стрэламі амэрыканскіх бpaненосцаў. Яна саўсім не магла адбіць нападу амэрыканцаў на Філіпінскія астравы ўсходняй часьці Ціхага акіяну. Па дагавпру са Злучанымі Штатамі Гішпанія павінна была даць свабоду Кубе і ўступіць амэрыканцам свае апошнія выселкі, востр. Порторыко ў Вэст-Індзіі і Філіпіны.

Палітыка Злучаных Штатаў прыняла характар, аднолькавы са ўсякай іншай заваёўніцка-каленіяльнай дзяржавай. Незалежнасьць Кубы, якую здабылі для яго штаты ад Гішпаніі, — была толькі для вока; ў сваей таргоўлі востраў саўсім залежны ад амэрыканскіх прамыслоўцаў; яны назначаюць цэны на галоўны прадукт Кубы — цукэр. На Філіпінах амэрыканцы яшчэ менш сьцясьняліся: сьпярша яны такжа выкарысталі тутака моцны вызваленчы рух тубыльцаў проціў гішпанскай адміністрацыі; але, адапхнуўшы гішпанцаў, пераможцы зьвярнуліся проціў незалежнікаў і пачалі вынішчаць іх, як бунтароў.



---

## XI.

## Эпоха мілітарызма у Эўропе і вялікая вайна.

### Рост узброеньня у Эўропе.

Прамысловы пераварот ужо пры пачатку, г. зн. каля **1800** г. выклікаў жорсткія войны. Ня гледзячы на гэты крывавы ўступ да новага стагодзьдзя, ў Эўрапэйскім грамадзянстве распашырылася думка, што ўдачы індустрыі і ўсесьветнага абмену створаць агульны мір і войны будуць непатрэбны. Жыцьцё не апраўдала гэтага чаканьня. Чым больш развівалася прамысловасьць, тым большае паўставала суперніцтва. У другой палове XIX ст. ў ліку супернікаў радам з Англіяй і Францыяй зьяўляюцца Нямеччына, Італія і Аўстрыя. Далей выплывае Расія, Злучаныя Штаты і Японія.

Прамысловаму развіцьцю Расіі заходнія дзяржавы спрабавалі перашкодзіць у Крымскай вайне **1853—1855** г. г. Сама Расія імкнулася заваяваць сабе выхад да Сяродземнага мора турецкай вайной **1877—1878** г. г. Нямеччына дасягнула свайго прамысловага і палітычнага аб'яднаньня толькі тым, што ў жорсткіх войнах **1864—1871** г. г. адцясніла Данію ад перашыйка паміж поўночнымі морамі, Аўстрыю адсунула да сярэдняга Дунаю, а Францыю адрэзала ад Рэйна.

Самым лёгічным палітыкам эпохі мілітарызма (г. зн. ваяўнічасьці) стаў Бсімарк. У **1875** г., праз 4 годы пасьля франка-прускай вайны, ён зьбіраўся аканчальна разбурыць Францыю. У **1879** г., баючыся ўдачаў Расіі на Балканскім поўвостраве, ён заключыў цесны абарончы саюз з Італіяй і Аўстрыяй. Італія была раздражнена тым, што Францыя захапіла ў Афрыцы Туніс, старадаўную мэту італьянскай палітыкі. У **1883** г. Бісмарк зьдзейсьніў тройчы саюз Нямеччыны,

Аўстрыі і Італіі; сваіх саюзьнікаў ён угаварыў ўвясьці агульную вайсковую павіннасьць, а такжа стварыць аграмадныя арміі і павялічыць падаткі на іх утрыманьне. Францыя і Расія, перад пагрозай аружных сілаў Нямеччыны, такжа пачалі ўзброівацца. У **1891** г. яны ў свой чарод заключылі паміж сабой саюз.

### Выселачныя прадпрыемствы эўрапэйцаў.

Кождая з вялікіх дзяржаваў імкнулася заняць выгоднае становішча ва ўсесьветнай таргоўлі, знайсьці збыт вырабаў сваіх фабрыкаў, а такжа атрымаць сырыя матэрьялы вату, каўчук і г. д. Англічане с **1877** г. расшыраюць свае паўдзённа-афрыканскія ўладаньні, ў **1881** г. захоплiваюць панаваньне над Эгіптам і Нубіяй. Французы займаюць востраў Мадагаскар і імкнуцца злучыць у сваіх руках усю заходнюю Афрыку, праводзячы шляхі праз Сахару ад Туніса і Алжыра да рэкаў Сэнэгала і Нігэра. Як новыя калёнізатары Афрыкі выступаюць Нямеччына і Італія. Нямеччына з 80-х гадоў бярэ сабе тэрыторыі ў рожных мейсцах паўдзённай паловы Афрыкі. Італія адбірае ад Турціі на поўначы Трыполі і Барку. Урэшце, бэльгійская прыватная суполка забірае аграмадную ваколіцу асяродкавай Афрыкі, распаложаную ў басэйне ракі Конго, і аддае яе пад апеку караля Бэльгіі.

Апрача паўдзённай часьці Афрыка сваім клiматам мала падходзіць для эўрапэйцаў; яны астаюцца назоршчыкамі, таргоўцамі, адміністратарамі, ня творачы шчыльна заселеных выселкаў, як у Амэрыцы ці Аўстраліі. Тубыльчае жыхарства, па большай часьці мала культурнае, ня можа перашкодзіць эўрапэйскім захватам.

Іншы кірунак мелі спробы эўрапэйцаў у Азіі. Жыхарства многіх азіяцкіх ваколіц, прыкл., рэчных нізін Ганга ў Індзіі, Янцзы і Сікіанга ў Кітаю ці Японскіх астравоў па шчыльнасьці ня уступае Эўропе, а часта нат, больш шчыльна заселены. У Азіі ёсьць шмат вялікіх народаў са старой вялікай культурай, с поўнай сьведамасьцю сваей самабытнасьці. Толькі Індастан і Індакітай даволі спакойна паддаліся эўрапэйскому заваяваньню. У Японіі, а пасьля і ў Кітаі паяўленьне чужых таргоўцаў і афіцэраў выклікала раздражненьне і разбудзіла заснуўшую дзейнасьць старых народаў. Сярод іх



узьніклі тыя-ж самыя нацыянальныя імкненьні, якія прывялі да стварэньня вялікіх эўрапэйскіх гаспадарстваў.

### Рэформы ў Японіі.

Да 60-х гадоў XIX ст. Японія, зачыненая для чужаземцаў, мела нярухавы лад, які прыпамінаў Сярэднявечча ў Эўропе. Прамысловасьць была ў руках цэхаў; самураі (рыцары) жылі с паншчыны падуладных сялян. Намесьнікі ваколіц былі, блізка таго, незалежны ад начальніка сьвецкай ўлада, шагуна, які ў свой чарод адцясьніў духоўнага валадара, мікадо, каторы займаў становішча падобнае да папескага.

У палове XIX ст. пачалася глыбокая зьмена ў палажэньні краін, якія ляжалі ўкруг Ціхага акіяну. Зварухнула Японію галоўным чынам тое, што амэрыканцы сталі распрацоўваць каліфорнійскія і аўстралійскія капальні, і наогул стаў разьвівацца амэрыканскі захад. Гэты здарэньні выклікалі якбы прамысловае адкрыцьцё Ціхага акіяну. Па аграмадным водным прасторы пачаліся бойкія зносіны: ў той час як да берагоў ўсходней Азіі, да Японіі, Кітая і Індакітая пацяклі амэрыканскія тавары — ў адваротным кірунку, г. зн. да С.-Францiско, пацяклі работніцкія рукі жоўтай расы, кітайцы і японцы, прымушаныя высяляцца ростам люднасьці і цяснотай. У **1853** г. пры берегах Японіі зьявіўся амэрыканскі адмірал з вайсковымі караблямі і запатрабаваў свабоднага доступу ў край чужаземцам. Адначасна тое-ж заявілі Расія і Англія. Японія больш не могла утрымаць сваей замкнутасьці.

Патрыёты, пераважна абяднеўшыя інтэлігентны самяураі, стараліся адрадзіць Японію. Яны аб'ядналіся каля сьвятарнай ўлады мікадо. Пры помачы князёў паўдзённай Японіі, азнаёмленых з эўрапэйскім узброеньнем, мікадо Мутсу Хіто ў **1867** годзе разбіў войскі шагуна, адставіў яго ад ўлады, заняў яго сталіцу, Токіо, а сам з духоўнага кіраўніка стаўся самадзяржаўным сьвецкім ўладаром. У асобнай урочыстай аўдыенціі мікадо прыняў паслоў эўрапэйскіх дзяржаваў, і з гэтага часу Японія адкрылася для эўрапэйцаў і амэрыканцаў. Мікадо абвесьціў, што будзе запрашаць да працы людзей згодна розуму і здольнасьці незалежна ад паходжаньня і адмяніў спадковыя пасады. Самураям было дазволена не насіць шпагу і дадзена права выбіраць сабе якую-хочучы працу. Урад правёў рэформу, падобную да асвабаджэньня сялян у

Эўропе: ацаніў правы паноў на паншчыну і выплаціў панам сумы ў чэцьвера ці пяцера большыя. Была абвешчана поўная свабода пераездаў і зьнішчаны ўсякія прывілеі тарговых гільдзіяў і рамесьленых цэхаў. Пасьля была ўведзена агульная вайсковая павіннасьць. З ураўненьнем правоў, ўрад абьяднаў раздробнены да тэй пары край і ўвёў ўсюды аднолькавае кіравецтва. Галоўную ўвагу новы ўрад Мікадо зьвярнуў на развіцьцё промыслу і таргоўлі. Гаспадарства само стала буйным прадпрыемцам і пачало будову чыгунак, якія хутка апаясалі край ва ўсіх кірунках. Ўрад заахвочваў развіцьцё мораплаваньня, павялічэньне тарговага флота і асабліва прамысловасьць. У Японіі, дзе да рэформы былі толькі дробныя хатнія вырабы, зьявіліся вялікія фабрыкі і заводы і з 80-х гадоў яна выступіла на азіяцкіх рынках, асабліва ў Карэі і Кітаі, супернікам Амэрыцы і Эўропе.

У Японіі былі заснаваны унівэрсытэты на эўрапэйскі лад, але апрача таго множства маладых японцаў едуць у Эўропу і Амэрыку вучыцца ва усіх галінах навукі і тэхнікі.

Мікадо яшчэ ў **1869** г. абяцаў склікаць дарадчае сабраньне, але Японія ў пачатку з фэадальнага гаспадарства ператварылася ў абсалютную манархію, якая кіравалася пры помачы ўрадоўцаў. У **1889** г. Мутсу Хіто абвесьціў ўвядзеньне канстытуціі ў Японіі, а ў наступным годзе сабраўся першы японскі парлямант. Тварцы японскай канстытуціі, хаця і былі прасочаны эўрапэйскімі ідэямі, але думалі што японскі народ ў масе, яшчэ не падгатаваны для палітычнага жыцьця, а дзеля гэтага ўвялі высокі цэнз, які дапушчаў да выбараў толькі вышэйшых і асьвечаных слаёў жыхарства, асабліва земляўласьнікаў. Імпэратар як і раней лічыцца, „самадзяржаўным“ і хаця ўрад павінен даваць справаздачу ў кіравецтве сабраньню дэпутатаў, апрацоўваць з ім разам законы, падаваць яму на зацьвержаньне бюджэт, адпавядаць на пытаньні, аднак, Мікадо складае міністэрства па сваей волі, незалежна ад партыяў, па сваей волі склікае і распушчае парлямант; сабраньне народных прадстаўнікаў абмежана другой вышэйшай палатай, складзенай з асоб імпэратарскай сямьі і асоб па назначэньню мікадо.



## Зьнешняе расшырэньне Японіі і адраджэньне Кітая.

Увёўшы новы лад, Японія шукае рынкаў для збытаў сваіх фабрычных вырабаў, зямель для пасяленьня лішкі сваей працоўнай люднасьці і вялікіх дзяржаўных прадпрыемстваў для прытасаваньня сваіх капіталаў. Як эўрапэйцы і амэрыканцы, яна імкнецца здабыць калёніі і с канца XIX ст. выступае як самая дзейная дзяржава.

Японія на самперш імкнулася заўладаць прылеглымі да ўсходней Азіі астравамі і выступаючымі берагамі яе, Фармозай і Карэйскім поўвостравам. Карэйцы — (каля 6 міліёнаў) — не маглі даць адпору моцнаму суперніку, які быў добра ўзброены, меў вайсковы флот і быў аддзелены толькі вузкім пралівам. Але Японцы хацелі забаспечыць за сабой і тыл Карэі, г. зн. доступ у затоку Печылі і да Манджурыі. Гэта спярша давяло да вайны с Кітаям (**1895 г.**). Японцы высадзілі войскі ў Карэі, пасунуліся ўдоўж затокі, разбілі дрэнна зарганізаваныя кітайскія сілы і захапілі крэпасьць і порт Порт-Артур, які панаваў над уходам у затоку і ляжаў пры ўходзе ў Манджурыю. Узмацненьне Японіі ўстрывожыла эўрапэйскія дзяржавы, якія мелі справы с Кітаям. Апіраючыся на Нямеччыну і Францію, Расія запатрабавала выдачы Порт-Артура назад Кітаю, а праз нейкі час, у свой чарод, узяла яго ў арэнду на 99 гадоў, адначасна з вайсковым заняцьцем Манджурыі (**1900 г.**). З гэтага часу галоўным праціўнікам Японіі ў яе заваёўніцкай палітыцы на кантынэнце, зьяўляецца Расія. У працягу колькі гадоў Японія падгатаўлялася да вайны, пабудавала аграмадны флот, які заняў адно с першых мейсцаў ў сьвеце. У пачатку **1904** года ўспыхнула вайна, ў якой Японія мела поўную перавагу. Японцы другі раз узялі Порт-Артур і ў вялізных бітвах адцясьнілі расійскія войскі з паўдзённй Манджурыі на поўнач. Па дагавору ў Портсмуце, які быў заключаны пры пасрэдніцтве Злучаных Штатаў летам **1905** г. Японія здабыла новую тэрыторыю, блізка роўную сваей уласнай: Карэю, паўдзённую Манджурыю з Лядунскім поўвостравам і Порт-Артурам і Паўдзённую палову Сахаліна.

Узмацненьне Японіі важна ня толькі само па сабе, але і па тым ўплыве, які яна мае на рэшту Азіі. Эўрапэйцы за-

хапілі ў Азіі тэрыторыі і апорныя пункты, карыстаючы застоям вялікіх і старакультурных азіяцкіх народаў. Хуткае прабуджэньне і развіцьцё аднаго с такіх народаў, якбы спаўшых доўгія стагодзьдзі, падняло сазнаньне ў іншых—у кітайцаў, індусаў, сіамцаў, малайцаў. Дзеля таго, што найбольшыя з іх належаць да мангольскай расы ў Эўропе назвалі адраджэньне Азіі „жоўтай небаспекай“.

Адражэньне Кітая мае пэўныя падобныя рысы з Японскім. У краі ёсьць абаронцы старадаўшчыны і замкнутасьці, ёсьць прыхільнікі эўрапэйскай прасьветы і тэхнікі. У **1900** годзе падняўся грозны для белых рух сэктантаў-патрыётаў, так званых баксёраў. Шмат кітайцаў і, нат, кітаяк пачалі езьдзіць ў Японію і Эўропу вучыцца. Але ёсьць і вялікая рожніца с пераваротам адбыўшымся ў Японіі. Там рух пачаўся у згодзе са старадаўнай ўладай Мікадо і прыслужыўся да яе ўзмацаваньня. У Кітаі рух скіраваны проціў кіруючай дынастыі, якая разам з урадоўцамі належала да чужой паўночнай народнасьці манджураў, апошнія больш 2000 гадоў таму назад заваявалі Кітай. Шчыльна заселеныя, добра апрацаваныя ваколіцы паўдзённага Кітая з яго энэргічным жыхарствам, асабліва неахватна паддаваліся Манджурскай дынастыі, сядзеўшай на поўначы ў Пэкіне.

У **1906** годзе ўрад абяцаў даць краю „лепшы дзяржаўны лад, але даручыў апрацаваньне гэтага ладу камісіі ўрадоўцаў. У **1910** годзе ўсе 22 ваколіцы адправілі прадстаўнікаў ў Пэкін і запатрабавалі ўводу канстытуціі. Ўрад зноў абяцаў склікаць парлямант, але народ перастаў верыць і змарыўся чакаць. У **1911** годзе падняўся ўвес паўдзённы Кітай; у рэвалюцыянэраў, якіх павадыром быў Сун-Ят-Сэн, аказаліся вялікія сумы, атрыманыя адчасьці як пазычкі ў Амэрыцы, і добрае эўрапэйскае ўзброеньне. Яны занялі даліну ракі Янцзы і запатрабавалі зрынуцьця манджурскай дынастыі. У пачатку **1912** года імпэратар адрокся ад пасаду і Кітай быў абвешчаны рэспублікай. Сабраўся першы кітайскі парлямант і абвесьціў роўнапраўнасьць пяці нацыяў, якія жывуць у Кітаі: Манголаў Манджураў, Мусульманаў, Тыбетцаў і Кітайцаў

### Пляны абязброеньня Эўропы.

Каленіяльныя прадпрыемствы эўрапэйцаў ня толькі не далі міру ў самой Эўропе, але, нат, павялічылі варожасьць



паміж яе большымі нацыямі. Усюды на другіх кантынэнтах адбываліся закалоты: ў Мароко (паўночна-зах. Афрыка) паміж Франціяй і Нямеччынай, на ўсходзе Азіі паміж Англіяй, Нямеччынай і Расіяй, пры чым эўрапэйцы стыкаліся тутака с прэтэнсіямі амэрыканцаў і Японіі. У самой Эўропе асталося ня вырашаным „усходняе пытаньне“, г. зн. раздел Турціі і распадзел інтэрэсаў хрысьціянскіх гаспадарстваў Балканскага поўвострава: ў гэтых справах перш былі найбольш зацікаўлены Расія і Аўстра-Вэнгрыя, а пасьля ўцягнулася і Нямеччына.

Дзеля гэтага ўзброеньне Эўропы прадаўжала расьці. У Нямеччыне ўрад кожды раз, пры разглядзе вайсковых законаў, суліў павялічыць лік жаўнераў ў чыннай арміі перш на дзесяткі, а пасьля на сотні тысячаў. Францiя сьпяшыла сьледаваць за сваей суперніцай, хаця дзеля астаноўкі прыросту люднасьці гэта было для яе ўсё цяжэй і цяжэй. У канцы XIX ст. зьяўляецца новы від морскага узброеньня, аграмадныя браненосцы і крэйсеры, адзетыя ў сталь і з вялізнымі дальнабойнымі гарматамі. Нямеччына стараецца дагнаць у морскім узброеньні Англію, Англія-ж будуе ўсё новыя і новыя дрэдноўты (аграмадныя вайсковыя караблі), каб захаваць перавагу на морах.

Сазнаньне мілітарнага цяжару пранікае ва ўсе клясы грамадзянства, а рост вайсковых расходаў пачынае трывожыць дзяржаўныя ўлады. Па пасулу расійскага ўраду, у **1899** годзе у Гаазе была склікана с прадстаўнікаў усіх эўрапэйскіх гаспадарстваў канфэрэнція з мэтай разглядзець плян абязброеньня Эўропы, а такжа стварэньне трэцейскага суда для вырашаньня спрэчак паміж дзяржавамі. Гаагская мірная канфэрэнція, аднак, не ўдалася дзеля пратэстаў Нямеччыны: ўжо тутака ясным стала, што Нямеччына ня хоча спыненьня войнаў у Эўропе. Абязброеньня і адмены сталых арміяў вымагалі такжа інтэрнацыянальныя кангрэсы работнікаў, якія ўзнавіліся ў **1889** годзе. Рэзалюція Амстэрдамскага кангрэса, які адбыўся ў **1904** годзе ў часе Расійска-Японскай вайны заклікала „сацыялістаў і работнікаў усіх краёў, як прыхільнікаў міжнароднага міру, ўсімі спосабамі спрацiўляцца якому-б ні было распашырэньню вайны“.

Гаагская канфэрэнція і рэзалюціі міжнародных зьездаў ня мелі ніякіх практычных вынікаў. Між тым ўзаемнае неда-

верье адна к аднэй дзяржаваў прадаўжала паваліччаца. Пад уражаньнем роста морскага ўзброеньня Нямеччыны, да саюзу Францыі і Расіі далучылася Англія: Ў **1904** годзе яна заключыла саюз с Францыяй, у **1907** годзе зблізілася з Расіяй і ўгаварылася аб раздзеле Пэрсіі. Стварылася т р о й ч а я з г о д а Расіі, Францыі і Англіі у проціўвагу т р о й ч а м у с а ю з у Нямеччыны Аўстра-Вэнгрыі, Італіі, які быў заключаны яшчэ ў **1883** годзе. Гэта як-раз пасьпела да мамэнта крызіса **1912—1913** г. г. на Балканскім поўвостраве, які быў прадвесьнікам вялікай вайны **1914** года.

### Нямецкі імпэрыялізм і вялікая вайна.

Пасьля стварэньня ў **1885** годзе злучанай Баўгарыі, ў працягу 25 гадоў Турцыя была такой, якой яна стала пасьля Бэрлінскага кангрэса. У **1897** годзе ўспыхнула вайна з Грэцыяй дзеля вострава Крыта; ня гледзячы на сваю пабеду над грэкамі Турцыя прымушана была прызнаць незалежнасьць Крыта.

У **1912** годзе — чатыры народнасьці — баўгары, сэрбы, грэкі, чарнагорцы—склалі балканскую лігу і разам напалі на Турцыю. Усюды яны мелі ўдачы. Фесалія, Македонія, Паўночная Албанія, большая часьць Фракіі перайшлі да саюзьнікаў. Але сьледам за ўдачамі хрысьціян, саюз іх распаўся, пачаліся рознагалосіцы дзеля Македоніі паміж сэрбамі і грэкамі—з аднаго боку, баўгарамі—з другога. Летам **1913** года успыхнула другая балканская вайна, якую вырашыла выступленьне нейтральнай да таго часу Румыніі: баўгары павінны былі аддаць румынам Дабруджу, Грэкам гарады пры Эгейскім моры, сэрбам часьць Македоніі. Скарыстаўшы з аслабленьня Баўгарыі, Турцыя адабрала назад забраны ў свой час баўгарамі Адрыянополь.

Вялікія эўрапэйскія дзяржавы шмат разоў ў часе вайны сулілі сваё пасрэдніцтва балканскім народнасьцям. Паступенна выясьнілася, аднак, што Нямеччына і зьвязаная з ёй Аўстра-Вэнгрыя, маюць свае асобныя інтэрэсы на Балканскім поўвостраве. Аўстрыя ўмацавалася ў Босніі і спадзявалася падбіць сабе адрэзаную ад мора Сэрбію, Аўстрыя зрабіла плян чыгункі да Салонікаў. Нямеччына зблізілася з вайсковымі кругамі Турцыі, ў **1897** годзе турэцкая армія мела некалькі пабедаў над грэкамі, маючы ў сябе начальнікамі нямецкіх



афіцэраў. Карыстаючы фінансавай слабасьцю кругом віннай Турцыі, Нямеччына выразіла жаданьне ўзяцца за апрацоўку прыродных багацьцяў Малой Азіі і Месапатаміі, „Нямецкі Банк“ у Бэрліне атрымаў пабудову чыгункі ад Канстантынопаля да Багдада праз усе азіяцкія землі Турцыі. У Нямеччыны паўстала яшчэ больш аддаленая заваёўніцкая мэта: праз вусьце Эфрата і Пэрскую затоку пагражаць англійскаму панаваньню Індзіі.

У зьвязку з усходнімі праектамі нямецкія палітыкі задумалі плян стварэньня А с я р о д к а в а й Э ў р о п ы. Яе асновай павінна была стаць Нямеччыва і Аўстра-Вэнгрыя; яе меліся расшырыць у абедзьве староны, далучыць да яе Бэльгію, Галандзію, усходнія ваколіцы Францыі, а также прыбалтыцкія губэрні Расіі, Польшчу і Чарнаморскі край, атрымаць выхад у Сяродземнае мора і запанаваць над усей Эўропай.

У Нямеччыне гэты пляны захоплівалі ўсе клясы і партыі пачынаючы сацыял-дэмакратамі, якія ў **1912** годзе склалі найсільнейшую партыю ў нямецкім рэйхстагу. Усё грамчэй і грамчэй раздаваўся покліч: „Deutschland, deutschland über alles!“ (Нямеччына, нямеччына вышей за ўсё) — сэнс якога ў тым, што нацыянальная моц прызнаецца вышэй ўсіх асноваў права і маральнасьці. У Нямеччыне набралася шмат вайсковых элемэнтаў, якім трэба было даць выхад: такімі былі 20 каралеўскіх і княжаскіх фаміліяў, такой была пруская земляўласьніцкая шляхта (юнкеры), такімі былі аграмадныя фабрыкі зброі (паміж імі фабрыка Круппа ў Эсэне). Імпэратар Вільгэльм II (кіраваўшы с **1890** да **1918**) бачыў сябе новым Нагпалеонам, здольным пусьціць усю гэту вайсковую машыну і стварыць новую вялікую імпэрыю ў асяродку Эўропы.

Галоўным аднадумцам Вільгельма быў эрцгэрцаг Франц Фэрдынанд, насьледнік пасаду Аўстра-Вэнгрыі. Імкненьню апошняй умацавацца на Балканскім поўвострове немалай перашкодай была незалежная Сэрбія. Франц Фэрдынанд думаў далучыць Сэрбію да сэрба-харвацкіх ваколіц Аўстра-Вэнгрыі, г. зн. да Босніі і Краацыі. У свой чарод Вільгэльм II, карыстаючы тым, што дзеці эрцгэрцага ня мелі правоў на аўстрыйскі пасад, скіраваў яго думкі на стварэньне сабе самастойнага ўладаньня на ўсходзе атабраўшы ад Расіі Чорнаморья і Прыдняпроўя. С. Польшчы, Літвы, Курляндзіі меліся стварыць

яшчэ адно гаспадарства ў васальнай залежнасьці ад Нямеччыны. У будучай вайне з Расіяй і Франціяй Вільгельм II спадзяваўся на нэўтралітэт Англіі дзеля таго, што англічане не падгатаваны да сухапутнай вайны і маюць слабую армію.

Пачатак вайны прысьпяшыўся дзякуючы забойству Франца-Фэрдынанда, якое сталася ў часе бытнасьці яго ў Сараеве, галоўным горадзе Босніі. Аўстра-Вэнгрыя абвінаваціла ўвесь сэрбскі народ і запатрабавала дапушчэньня аўстрыйскіх урадоўцаў на тэрыторыю Сэрбіі для расправы. Калі ў мэтах абароны Сэрбіі Расія пачала мобілізацію, Нямеччына зараз-жа абвесьціла вайну Расіі і пачала вайну проціў Франціі. Заняўшы Бэльгію, Нямеччына выклікала абвешчаньне вайны Англіяй.

Летам **1914** года пачалася вайна, найбольшая ў гісторыі чалавецтва. Проціў надзеі Нямеччыны, Італія аддзялілася ад тройчага саюза і далучылася да Антанты, якая с тройчай сталася пачворнай. Хутка да проціўнікаў Нямеччыны далучылася Японія, якая хацела выціснуць немцаў с Кітая. У **1917** годзе са складу ваюючых вышла Расія, але на яе мейсца ўступілі Злучаныя Штаты. Не асталіся ў старане ад барацьбы Кітай і Бразылія. Блізка ўвесь сьвет раздзяліўся на дзьве варожыя адна аднэй паловы.

КАНЕЦ.

# ЛЕТАПІС.

| ЗДАРЭНЬНІ | ГОДЫ |
|---|---|
| 1833 5/III Бязкроўная рэвалюцыя ў Нямеччыне Гітлер. | |

